# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

## Усебеларуская партнарада па нарасьвеце



## У ногу з соцыялістычнай рэконструкцыяй



## На фронце культурнай рэволюцыі



## Паглыбіць антырэлігійнае выхаваньне



## Турызм і школа



## Пяцігодка і кадры



## За пролетарскую літаратуру



## З вопыту работы.



Р. Гацко

## Клюбны дзень



## Кнігапіс



## Хроніка

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРА , ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ

№ 4 КРАСАВІК 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР

МЕНСК 1930



# УСЕБЕЛАРУСКАЯ ПАРТНАРАДА ПА НАРАСЬВЕЦЕ

**В. ШЧАРБАКОЎ**

# ПЫТАНЬНІ НАРОДНАЙ АСЬВЕТЫ І АГУЛЬНАКУЛЬТУРНАГА БУДАЎНІЦТВА на ЎСЕБЕЛАРУСКАЙ ПАРТНАРАДЗЕ

Рэконструкцыйны пэрыод, рост соцыялістычнай гаспадаркі, якія ўносяць карэнную пераробку ўва ўсе нашыя соцыяльна-экономічныя адносіны, ня могуць таксама не адбівацца на ўсім нашым культурным будаўніцтве, на ўсёй сыстэме нашага выхаваньня і асьветы. У нашай экономіцы, у нашай гаспадарцы на даным этапе яе разьвіцьця выкрышталізоўваюцца з усёй пэўнасьцю новыя зьявы, новыя вытворчыя процэсы і формы працы. Агульнае плянаваньне гаспадаркі, складаньне генэральных пляnaў на бліжэйшыя гады пяцігодкі і дзесяцігодкі, шырокае прыстасаваньне найноўшых дасягненьняў тэхнікі і навукі ў вытворчасьці, пабудова магутных электрастанцый і індустрыяльных комбінатаў, шырокая хваля рабочага вынаходніцтва, стварэньне ўдарных брыгад і вытворчых груп-комун, організацыя гігантаў-саўгасаў і агрокомбінатаў, шырокае ўцягненьне сялянскіх гаспадарак у колектывы—усё гэта такія фактары, якіх ня ведае капіталістычны сьвет, якіх ён ня можа ведаць і якія ня ўмяшчаюцца ў рамкі прыватнай уласнасьці, у рамкі буржуазных адносін. Цяпер ніхто ня будзе адмаўляць, што мы ўжо сапраўды закладаем, будуем магутны падмурак соцыялістычнага грамадзтва.

Але было-б дзіўным мысьліць, што, будуючы гэты фундамант соцыялізму, усе астатнія этапы грамадзтва могуць заставацца і застаюцца пакуль някранутымі. Было-б дзіўным дапушчаць, што вытворчую базу можна пакуль што будаваць і перабудоўваць нанова, не закранаючы ўсіх бакоў нашага грамадзкага быцьця. Гэтага ніколі ня было і гэтага ня можа быць зараз. Сапраўды, ці можна ставіць рабочага каля новага варштату і новай машыны, уключаць яго ў новыя вытворчыя адносіны, надзяляць яго новымі функцыямі на прадпрыемстве, рабіць яго актыўным творцай і сьвядомым будаўніком соцыялістычнай гаспадаркі, адначасова не зьмяняючы ўсёй яго псыхікі, усяго яго мысьленьня, не пашыраючы яго кругагляду, не перарабляючы нанова ўсёй яго прыроды, ня выхоўваючы ў ім новых поглядаў на ўсё, што абкружае яго, не прышчапляючы яму новага разуменьня моралі і быту?

Не, такога становішча ня можа быць. Стварэньне новых матар'яльных каштоўнасьцяй, матар'яльная культура, якая нанова перабудоўваецца і нанова ствараецца, іншыя вытворчыя адносіны няўхільна цягнуць за сабою і павінны цягнуць перабудову нашага быту, нашай моралі, нашай сям'і, усёй злучнасьці нашых соцыяльных адносін і усёй нашай гэтак званай духоўнай культуры. Новае ў вытворчасьці, якое якасна адрозьніваецца ад капіталістычнай вытворчасьці, цягне за сабою, спараджае сабою няўхільна і новае ў нашым быце, у нашай культуры ў цэлым.

Пра гэта мы можам ня толькі разважаць, ня толькі рабіць тэорытычныя вывады, але гэта-ж мы можамназіраць

практычна ўва ўсім комплексе нашага жыцьця, ува ўсім, што нас абкружае, ува ўсім нашым будаўніцтве. У нашым быце, у нашай культуры ўжо зараз ёсьць шмат чаго такога, чаго мы не маглі бачыць, не маглі наглядаць ня толькі ў капіталістычным грамадзтве, але і ў краіне саветаў у папярэдні пэрыод яе існаваньня, у пэрыод аднаўленьня. Зараз ужо мы, сапраўды, можам наглядаць парасткі новага жыцьця, новай культуры, новага выхаваньня, новай школы і новых імкненьняў, нават у такой сфэры дзейнасьці, як навука.

Пачынаецца будаўніцтва социялістычных горадоў, шмат дзе ўжо збудаваны дамы-комуны, савецкая грамадзкасьць пачынае сур'ёзна цікавіцца пытаньнямі грамадзкага харчаваньня, намячаюцца шырокія пляны будаўніцтва ўстаноў для аграмаджваньня нашага быту, шмат дзе ўжо існуюць школы-прадпрыемствы; у справу выхаваньня нашых дзяцей уцягваюцца шырокія пласты працоўных і перш за ўсё працоўных жанчын—усё гэта такія фактары бытавога жыцьця і культурнага будаўніцтва, якія ўносяць карэнную перабудову ўва ўсё наша жыцьцё і ўсю сыстэму культурнага абслугоўваньня працоўных мас.

Само жыцьцё, характар нашага гаспадарчага будаўніцтва ўжо вызначылі тыя асноўныя шляхі, па якіх павінна ісьці рэорганізацыя ўсёй нашай культурнай работы; стыхійна выкрышталізоўваюцца і тыя формы агульнакультурнага будаўніцтва, разгортваючы якія мы здолеем нанова перабудаваць наш культурны фронт і гэтым забясьпечыць пасьпяховае будаўніцтва социялізму.

Усебеларуская нарада, якая склікана ў сувязі са скліканьнем аналёгічнай усесаюзнай партнарады 25 красавіка бягучага году, прыпала якраз у такі момант, калі пытаньні народнай асьветы і агульнакультурнага будаўніцтва ня толькі набылі найбольшую вострасьць, калі націск на культурны фронт зьяўляецца ня толькі найбольш моцным ,але калі адначасова з гэтым стыхійна і напоўстыхійна вызначыліся і тыя асноўныя шляхі і сродкі, якія забясьпечваюць нам карэнную рэорганізацыю ўсёй нашай культуры і культурнага будаўніцтва. Самыя абставіны, запатрабаваньні нашай краіны, якая будуе социялізм, у асноўным паказваюць нам, як павінна будавацца наша культурная работа, што мы павінны пакласьці ў аснову гэтай перабудовы, на якіх асноўных прынцыпах мы павінны базаваць у разгортваньні культурнага будаўніцтва.

Гэтыя прынцыповыя палажэньні ў асноўным зводзяцца да наступнага. Справа выхаваньня і асьветы маладога пакаленьня зьяўляецца справай ня толькі нашых пэдагогаў, але і справай шырокіх працоўных мас, усёй савецкай грамадзкасьці. У будучым, пры социялізьме, мы сабе мысьлім, што выхоўваць гэта пакаленьне будуць сама абстаноўка, само асяродзьдзе і сама грамада. Функцыі пэдагогаў будуць карэнным чынам зьменены. Таму ўжо цяпер насельніцтва, працоўныя масы павінны як найбольш уцягвацца ў справу выхаваньня і адыгрываць у гэтым далёка немалаважную ролю. Другое. Наша школа ня можа заставацца і надалей гэткай, якой яна была да сучаснага моманту. Яна павінна быць перайначана ў такую культурна-вытворчую организацыю, якая будзе рыхтаваць ня толькі актыўных будаўнікоў социялізму, патрэбную нам кваліфікаваную сілу, але якая ўжо сама па сабе павінна адыгрываць надзвычайна вялікую ролю ў нашым гаспадарчым будаўніцтве, у нашай вытворчасьці, у нашым быце і культурнай рабоце. Чым далей, тым усё больш і больш гэтая школа будзе зьлівацца з вытворчасьцю, будзе набываць выгляд асобнай гаспадарча-вытворчай ячэйкі, дзе вывучэньне прыроды, працы і грамады будзе цалкам пабудована на вытворчых процэсах. Адсюль зразумела, якое вялізарнае значэньне цяпер набывае для нас пытаньне аб політэхнічнай школе; адсюль зразумела тая цікавасьць, якая назіраецца намі пры разважаньнях аб школах-прадпрыемствах, аб ВНУ-заводах і ВНУ-агрокомбінатах; адсюль для нас павінны быць зразумелымі і тыя задачы, якія паўстаюць перад намі адносна кадраў народнай асьветы.

Трэцяе. Перабудова ўсяго культурнага фронту, карэнная рэорганізацыя ўсёй нашай работы ў галіне культурнага будаўніцтва ня можа праходзіць без уцягнень-

ня, бяз удзелу ў гэтай справе шырокіх працоўных мас. У бліжэйшым будучым, мы мысьлім, што масы ў культурных адносінах будуць абслугоўвацца не якімінебудзь сталымі кадрамі платных працаўнікоў, а што гэта маса, будучы ўзьнята на пэўную культурную вышыню, маючы ў сваім распараджэньні вялікі лішак часу для адпачынку, разумнай забавы і культурнай работы, будзе сама сябе абслугоўваць, сама колектыўна будзе задавальняць свае патрэбы, сама тварыць, вынаходзіць новыя культурныя каштоўнасьці. Колектыўная творчасьць і колектыўная работа пры найвышэйшай арганізаванасьці—вось на чым будзе грунтавацца культурная работа, росквіт культуры, пры чым сама культурная работа будзе галоўным чынам пераплятацца і з грамадзка-карыснай работаю, з вытворчымі процэсамі.

Адсюль зразумела, чаму пытаньне аб уцягненьні шырокіх мас працоўных у справу культурнага будаўніцтва набыло гэткае вялікае значэньне, адсюль зразумела і тое наша імкненьне, якое накіравана ў бок організацыі шырокай партыйна-савецкай грамадзкасьці навакол культурнага фронту. Зразумела таксама, што ніводная рэволюцыя, у тым ліку і культурная рэволюцыя, ня можа быць зроблена бяз масы, бяз удзелу гэтай масы ў рэволюцыі.

Чацьвертае. Навука і праца павінны быць і будуць неразрыўным цэлым. Зближэньне навукі і працы, фізычнай і разумовай працы ўжо зараз намячаецца з усёй выразнасьцю. Той разрыў, які існаваў раней між працай фізычнай і працай разумовай, зьяўляўся тыповым адбіткам рэзкай процілегласьці паміж асноўнымі клясамі, паміж прыгнятацелямі і прыгнечанымі. Гэты разрыў зьяўляецца вынікам клясавасьці грамады. Будаўніцтва соцыялізму ня мірыцца з гэтым. Мы ня можам мірыцца таксама і з тым, што адна група насельніцтва заўсёды займаецца разумовай працай, абарочваючы сябе ў своеасаблівыя касты, выпрацоўваючы ў сабе асаблівыя рысы, а другая ведае толькі фізычную працу. Праца павінна насычаць навуку; вопыт практычнай працы ляжыць у аснове навуковай творчасьці; навука і разумовая праца чэрпаюць свае сілы з практыкі, карэньні таго і другога ляжаць у гэтай практыцы. З другога боку, сама навука і сама разумовая праца павінны бязумоўна служыць практыцы, нашай працы, нашай вытворчасьці. Не павінна быць ніводнага вучонага, які адначасова ня ведаў бы практыкі, а ў будучым які сам бы не займаўся гэтай практычнай фізычнай працай. Навука і разумовая праца ў бліжэйшым будучым павінны дасягнуць найвышэйшага свайго росквіту. Навукай і разумовай працай будуць займацца шырокія масы, ізноўтакі маючы ў сваім распараджэньні і адпаведнае абсталяваньне і неабходны час для гэтай працы. У нашай культурнай працы ў цэлым, у нашай перабудове ўсяго культурнага фронту мы павінны орыентавацца на гэта зближэньне разумовай і фізычнай працы.

Адсюль вынікае і неабходнасьць рэорганізацыі ўсёй нашай навуковай працы, адсюль вынікаюць і нашыя пляны пры будаўніцтве новых навуковых устаноў, пры разгортваньні нашых лябараторый і набліжэньне іх, злучэньне іх з вытворчымі адзінкамі, з нашымі фабрыкамі і заводамі, з нашымі саўгасамі і колгасамі. Адсюль таксама павінна выцякаць і неабходнасьць стараннага абмеркаваньня пытаньня аб разумовай і навуковай працы пры будаўніцтве, з аднаго боку, новых прадпрыемстваў, а з другога боку, пры разгортваньні будаўніцтва соцыялістычных гарадоў і дамоў-комун.

Пятае. Культурная работа і разумовая праца павінны пераплятацца ня толькі з вытворчасьцю, шчыльна ўвязвацца ня толькі з задачамі гаспадарчага будаўніцтва, але і вельмі моцна зьвязвацца з нашай работай бытавога характару, з працай па бытавому абслугоўваньню шырокіх мас, па рэконструкцыі быту гэтых мас. Культурнай работай мы павінны адыграць вялізарную ролю ў справе карэннай пераробкі нашага быту. З другога боку, наш новы парадак жыцьця, нашы формы жыцьця, нашы бытавыя ўстановы, наш быт павінны, у сваю чаргу, забясьпечваць найбольшае разгортваньне культурнай работы, культурнага абслугоўваньня мас.

І апошняе, што выцякае з усіх гэтых пяці асноўных момантаў будаўніцтва і

перабудовы нашай культуры,—гэта неабходнасьць такога кіраўніцтва і такога плянаваньня, пры наяўнасьці якога можа быць забясьпечана сапраўднае выкананьне тых задач, якія стаяць перад намі ў галіне культурнага будаўніцтва, зьдзейсьненьне тых прынцыпаў, якія высоўваюцца перад намі ў гэтым будаўніцтве.

Усебеларуская партнарада, абгаварваючы пытаньні, пастаўленыя на парадак дня: аб сыстэме народнай асьветы, аб адзіным культурным пляне і новых мэтодах работы, аб рэорганізацыі органаў народнай асьветы, аб культурным абслугоўваньні колгасаў, саўгасаў і нацыянальных меншасьцяй, па сутнасьці і сконцэнтравала ўсю сваю ўвагу навакол гэтых асноўных 6 прынцыпаў культурнага будаўніцтва, навакол гэтых асноўных 6 задач, гэтак яскрава ўжо выпукленых самім жыцьцём. Усе рашэньні гэтай нарады былі падпарадкаваны гэтым прынцыпам і гэтым задачам. Магчыма, для шэрагу ўдзельнікаў партнарады ўсе гэтыя прынцыпы культурнага фронту, які перабудоўваецца, і ня былі ў дастатковай меры яскравымі. Але самыя рашэньні, галоўнае ў спрэчках зводзіцца, менавіта, да гэтага. І калі гаварыць аб тым, што новага дала нам нарада, дык трэба якраз і падкрэсьліць, што гэта новае заключаецца ў выпукленьні гэтых асноўных прынцыпаў, гэтых выходных пунктаў пры разгортваньні і рэорганізацыі ўсяго нашага культурнага фронту. Гэтыя выходныя пункты, гэтыя прынцыпы кладуць сабою пачатак карэннага пералому ў нашым культурным будаўніцтве.

Якія-ж практычныя рашэньні вынесла нарада па пытаньнях народнай асьветы і агульнакультурнага будаўніцтва, на якіх практычных пытаньнях была сконцэнтравана яе ўвага?

Аб сыстэме народнай асьветы. Гэтаму пытаньню нарада аддала вельмі шмат увагі. Па ім вяліся і спрэчкі ў найбольш завостранай форме. Нарада павінна была падвесьці вынікі тэй дыскусіі, якая адбывалася на працягу многіх гадоў па даным пытаньні. Разам з тым трэба было накідаць гэткую сыстэму асьветы, якая ў асноўным, будучы раьлічнай на доўгі пэрыод часу, адпавядала-б у той-жа час і нашым бягучым запатрабаваньням.

Сыстэма народнай асьветы павінна быць пабудавана так,—чытаем мы ў прынятых тэзісах, — каб асноўныя зьвеньні гэтай сыстэмы і ў прыватнасьці сямігадовая і сярэдняя школы давалі агульную політэхнічную асьвету, згодна програмнай устаноўцы ЎсеКП(б), і адначасова, каб яна забясьпечвала запатрабаваньні рэконструкцыйнага пэрыоду.

Абгаварваючы пытаньне аб сыстэме народнай асьветы, партнарада не магла абмежавацца выключна азначэньнем тых асноўных зьвеньняў, устанаўленьнем тых тыпаў школ, якія ў сваёй злучнасьці і даюць сабою сыстэму. Трэба было заняцца і азначэньнем зьместу кожнага з гэтых зьвеньняў устаноўленай сыстэмы. У сувязі з гэтым перад нарадай няўхільна паўстала пытаньне аб выхаваўчай рабоце сярод нашых дзяцей. Гэтаму пытаньню было аддадзена вельмі шмат увагі. Па-першае, было зафіксавана, што нашыя дзеці да 8-гадовага ўзросту павінны знаходзіцца ў дашкольных установах. Па-другое, справе выхаваньня дзяцей ужо школьнага ўзросту павінна быць аддадзена як мага больш увагі. Для гэтага, апроч тэй выхаваўчай работы, якую павінна праводзіць наша школа, павінна быць створана цэлая сетка пазашкольных політыка-асьветных устаноў, якія павінны займацца выхаваньнем нашых дзяцей. Работа масавай сямігадовай політэхнічнай школы павінна быць увязана з пазашкольнай політасьветнай работай сярод дзяцей, школьная політэхнічная вучоба і выхаваньне павінны дапаўняцца пазашкольнай політасьветнай работаю і выхаваньнем і наадварот. Нарада вызначыла і асноўныя формы дзіцячых пазашкольных політыка-асьветных устаноў. Гэта: дзіцячая бібліотэка, дзіцячыя станцыі, дзіцячыя клюбы, кіно, тэатр. На нарадзе было таксама падкрэсьлена, што ўся вучэбная і выхаваўчая работа ў нашых школах павінна быць таксама шчыльна ўвязана і з агульнакультурнай, політыка-асьветнай работай сярод працоўных мас наогул. У тэзісах па пытаньні аб адзіным культурным пляне і новых мэтодах работы за-

фіксавана, што «найбольшым разгортваньнем будаўніцтва дашкольных устаноў, адпаведным уцягненьнем усёй сеткі ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых школ у агульнакультурнае будаўніцтва, мобілізацыяй настаўнікаў і вучняў навакол асноўных задач культурнага характару—усё гэта павінна адыграць вялікую ролю як у справе рэконструкцыі нашага быту, так і ў разьвіцьці пролетарскай культуры».

На нарадзе разгарнулася даволі гарачая дыскусія навакол пытаньня аб тым, з якога ўзросту мы павінны прымаць нашых дзяцей у школу. Шэраг таварышоў выказваліся за тое, каб дзяцей прымаць у школу з 7-і гадовага ўзросту, адсюль, каб нулявую групу, якая існавала шмат дзе да гэтага часу, захаваць, абярнуўшы яе ў першую групу і такім чынам павялічыць тэрмін навучаньня ў пачатковай школе да 5 год. Нарада гэты пункт погляду адкінула, за выключэньнем нацыянальных школ, дзе дзецям даводзіцца вывучаць шмат моў і як абавязковыя 3 мовы, з прычыны чаго ім цяжка справіцца з прапрацоўкай вучэбнага матар'ялу пачатковай школы на працягу 4 год.

Гэта было зафіксавана ў тэзісах і прапановах па пытаньні аб культурным абслугоўваньні нацменшасьцяй. Там гаворыцца: «Прымаючы пад увагу, што дзеці навучаюцца шмат якім мовам у школах нацменшасьцяй, лічыць патрэбным зрабіць нацменшколу пяцігадовай, але з такім разьлікам, каб 5-ы год быў за лік адчыненьня нулявых груп пры ўсіх 4-гадовых школах з ахопам дзяцей, па чынаючы з сямігадовага ўзросту».

На нарадзе амаль ня было сур'ёзных рознагалосьсяў па пытаньні аб масавай сямігадовай політэхнічнай школе. Усе пагадзіліся на тым, што гэта школа, будучы адзінай і шчыльна зьвязанай з вытворчасьцю, павінна знаходзіцца на фабрыках і заводах, пры комунальных прадпрыемствах, пры колгасах і саўгасах. У сувязі з гэтай школай паўстае пытаньне аб клясавым падборы дзяцей у старэйшыя групы яе. Нарада падкрэсьліла, што гэта школа так сама, як і кожная з школ, якія ўваходзяць у нашу сыстэму, будучы па свайму зьместу, па сваёй выхаваўчай і навучальнай рабоце вытрымана пролетарскай, павінна ў той жа час у старэйшыя групы прымаць дзяцей пролетарскіх і напоўпролетарскіх элемэнтаў, і толькі па меры ўвядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня для ўсіх дзяцей на падставе поўнай сямігодкі пытаньне аб клясавым падборы зусім адпадае.

Значныя спрэчкі на нарадзе былі разгорнуты навакол сярэдняй школы. Якой павінна быць гэта школа, як зрабіць яе політэхнічнай, якія задачы перад ёю павінны быць пастаўлены, як практычна зьвязаць гэту школу з вытворчасьцю, якія тыпы сярэдняй школы павінны існаваць,—усе гэтыя пытаньні сярэдняй школы занялі значнае месца ў рабоце нарады. Нарада вынесла такое заключэньне, што сярэдняя школа, зьяўляючыся політэхнічнай, побач з далейшым пашырэньнем і паглыбленьнем ведаў, павінна ў той-жа час забясьпечваць нашу гаспадарку і агульнакультурны фронт патрэбнымі кадрамі практычных працаўнікоў. Яна павінна ў першую чаргу рыхтаваць сярэдні тэхнічны асабовы склад і кваліфікаваную рабочую сілу. Прымаючы пад увагу надзвычайную патрэбу, якая адчуваецца нашай прамысловасьцю, сельскай гаспадаркай і культурным фронтам у тэхніках і пэдагогах, нарада лічыць патрэбным зьвярнуць пільную ўвагу на пашырэньне сеткі тэхнікумаў.

Былі спрэчкі навакол пытаньня аб тым, ці патрэбна нам у даны момант профшкола пры наяўнасьці Ф.З.В. Нарада адзначыла, што пры наяўнасьці ў нас яшчэ даволі значнай колькасьці сярэдніх і дробных прадпрыемстваў, асабліва ва ўмовах БССР, гэта школа, якая рыхтуе кваліфікаваную сілу для гэтых прадпрыемстваў, павінна існаваць.

Пытаньні аб вышэйшай школе, аб дадатковай сыстэме для дарослых і падросткаў ня выклікалі асаблівых рознагалосьсяў. Па гэтых пытаньнях былі прыняты практычныя рашэньні. Праўда, кажучы аб вышэйшай школе, шэраг таварышоў падкрэсьлівалі, што рэорганізацыя навучальнай работы вышэйшых школ, намечаная рашэньнямі пленумаў ЦК УсеКП(б), праходзіць вельмі слаба, а ў шэрагу выпадкаў да гэтай рэорганізацыі яшчэ не прыступалі.

Асобна стаяла пытаньне аб кадрах народнай асьветы. Пытаньне гэта вельмі складанае і вялікае. Мы перш за ўсё мала ведаем нашыя кадры. Іх трэба вывучаць. Мы маем агульную непадрыхтаванасьць нашага настаўніцтва для работы ў політэхнічнай школе. Мы маем надзвычайна нізкую агульную кваліфікацыю большай часткі настаўніцтва. Трэба распрацаваць сыстэму жыцьцёвых мерапрыемстваў для зьнішчэньня гэтых недахопаў. Нарада не намеціла гэтых практычных мерапрыемстваў, але затое завастрыла ўвагу працаўнікоў на гэтай проблеме.

Аб адзіным культурным пляне і новых мэтодах работы. Гэта другое пытаньне, якое выклікала найбольш гарачыя спрэчкі. Усе добра разумеюць, што культурная работа цяпер мае надзвычайнае значэньне, што, не паставіўшы яе на патрэбную вышыню, мы ня справімся з тымі задачамі, якія стаяць перад намі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва. У той-жа час нам даводзіцца наглядаць, як мы адстаем на культурным фронце, як наша культурная работа ні ў якай меры не адпавядае запатрабаваньням краіны.

Асноўны недахоп у нашай культурнай рабоце заключаецца ў тым, што цэлы шэраг організацый, якія вядуць гэту работу, робяць так, як ім захочацца. Кожная організацыя мае свае пляны. Між сабой гэтыя пляны ня зьвязаны. У выніку: хаотычнасьць, роўналежнасьць, няўзгодненасьць і зусім слабая эфэктыўнасьць у культрабоце. Культурная работа патрабуе карэннай ломкі, для яе патрэбны перш за ўсё масы. Масы павінны ўнесьці гэты пералом у культработу.

Культработа патрабуе адзінага пляну і адзінага плянуючага органу. Вось гэта пытаньне, пытаньне аб стварэньні адзінага пляну і адзінага кіраўніцтва выклікала на нарадзе вялікія спрэчкі. Што з сябе павінен ўяўляць гэты плян, кім ён павінен складацца, якія бакі работы ён павінен у першую чаргу ўлічваць, як пабудаваць гэты плян так, каб ён быў гнуткім, каб яго можна было выканаць, і каб ім былі прадугледжаны тыя ці іншыя асаблівасьці раёнаў, нацыянальна-вытворчых груп насельніцтва, хто павінен выконваць гэты плян,—усе гэтыя пытаньні былі старанна абгаворany на нарадзе; на ўсе гэтыя пытаньні нарада дала свой адказ.

Для правядзеньня ў жыцьцё гэтага пляну, для яго складаньня, для плянаваньня ўсёй культурнай работы трэба мець адпаведныя органы. Пытаньне аб тым, з каго павінен складацца гэты орган, не магло выклікаць якіх-небудзь няўыразнасьцяй. У яго павінны ўваходзіць галоўныя організацыі, якія вядуць работу. Але вось другое пытаньне, дзе павінен знаходзіцца гэты орган, выклікала гарачую дыскусію. Нарада пастанавіла, каб гэты орган знаходзіўся пры Наркомасьветы, а ў акругах і раёнах—пры інспэктурах народнай асьветы. Але гэта рашэньне ня было адзінадушным. Частка ўдзельнікаў нарады і асабліва прадстаўнікі ад профсаюзаў і коопэрацыі рашуча протэставалі супроць гэтага. Іх довады заключаліся ў тым, што гэта плянаваньне і кіраўніцтва будзе не пад сілу Наркомасьветы, а, з другога боку, пры наяўнасьці гэтага органу пры ім, можа заняпасьці культурная работа профсаюзаў, коопэрацыі і іншых організацый. Прапанова гэтых таварышоў заключалася ў тым, каб плянуючы-кіраўнічы орган знаходзіўся пры Дзяржпляне або пры ЦВК. Довады: Дзяржплян, плянуючы гаспадарку, жыльлёвае будаўніцтва і будаўніцтва устаноў па абслугоўваньню быту, павінен таксама плянаваць і культурныя ўстановы і культурную работу; плянаваньне культурнай работы ня можа быць адарвана ад плянаваньня гаспадаркі; культурны плян павінен ахопліваць сабою абсолютна ўсе нашыя мерапрыемствы як у галіне політыка-асьветнай работы, гэтак і ў галіне асьветы і навукі; усімі гэтымі галінамі работы займаецца вялізная колькасьць устаноў і організацый, пачынаючы ад Наркоматаў і канчаючы коопэрацыйнымі організацыямі і добраахвотнымі таварыствамі. Аб'яднаць іх культработу, падпарадкаваць іх мерапрыемствы адзінаму пляну і адзінаму кіраўніцтву—гэта пасільна толькі такому органу, як Дзяржплян.

Нарада, намеціўшы тыя формы культурных устаноў, якія мы павінны ствараць, будаваць, аддала нямала ўвагі пытаньню аб тым, якімі сродкамі, ужываньнем якіх мэтодаў у культурнай рабоце

мы зможам карэнным чынам перабудаваць культурны фронт. Нарада завастрыла нашу ўвагу на організацыі шырокай партыйна-савецкай грамадзкасьці навакол справы культурнага будаўніцтва, на шырокім ўжываньні мэтоду соцыялістычнага спаборніцтва на культурным фронце, на організацыі шырокага добраахвотніцкага культурнага актыву, на шырокім ўцягненьні працоўных мас у справу культурнага будаўніцтва шляхам скліканьня шырокіх конфэрэнцый па пытаньнях культурнага будаўніцтва, організаці шырокіх нарад і г. д.

Усё гэта такія шляхі і сродкі, пры выкарыстоўваньні якіх мы, сапраўды, зможам стварыць культурную рэволюцыю. Кажучы аб кадрах, нарада спынілася таксама на пытаньні і аб нашай інтэлігенцыі. Было падкрэсьлена, што цяпер, калі пытаньне аб культурных сілах набыло асабліва вялікае значэньне, трэба стварыць здаровыя абставіны навакол працы тэй часткі інтэлігенцыі, якая сапраўды зьяўляецца савецкай, не за страх, а за сумленьне працуе разам з компартыяй і савецкай уладай. Трэба даць як найбольш магчымасьці для праяўленьня ініцыятывы гэтай часткаю інтэлігенцыі ў культурным будаўніцтве; трэба рашуча змагацца з усякімі перагібамі ў адносінах да яе.

Апроч гэтых першых двух пытаньняў, на парадку дня партнарада заслухала даклады па пытаньні аб рэорганізацыі органаў народнай асьветы і аб культурнай працы сярод нацыянальных меншасьцяй. Спрэчкі па гэтых пытаньнях не адкрываліся, затое па іх былі прыняты падрабязныя тэзісы-рэзолюцыі. Кожны з культурных працаўнікоў павінен уважліва іх вывучыць дзеля таго, каб сваю работу пабудаваць згодна пастаноў нарады. Мы асабліва зьвяртаем увагу таварышоў на рэзолюцыю аб культурнай рабоце сярод нацыянальных меншасьцяй. У нашых беларускіх умовах апошняе пытаньне мае вялізарнае значэньне. Мы яму аддаем шмат увагі, мы маем ужо вялікія дасягненьні ў культрабоце сярод нацменшасьцяй, але ў той-жа час у нас ёсьць таксама і нямала недахопаў, іх трэба зьнішчыць. Рэзолюцыя па гэтым пытаньні паказвае нам, як гэтыя недахопы зьнішчыць і паставіць культработу сярод нацменшасьцяй на належную вышыню.

Нарада прыняла таксама практычныя пастановы і па пытаньні аб культрабоце ў калгасах і саўгасах.

# ТЭЗІСЫ АБ СЫСТЭМЕ НАРОДНАЙ АСЬВЕТЫ

*(Зацьверджаны партнарадаю).*

1. На сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, калі мы падыходзім да плянаваньня народнай гаспадаркі ня толькі ў саюзным, рэспубліканскім, акруговым маштабе, але даводзім плян да паасобнай фабрыкі і заводу, саўгасу і колгасу, нам таксама патрэбны адзіны плян культурнага будаўніцтва, які павінен быць шчыльна ўвязан і павінен абслугоўваць запатрабаваньні соцыялістычнага гаспадарчага будаўніцтва. У першую чаргу, згодна гэтага, трэба пабудаваць адзіную сыстэму народнай асьветы, не выключаючы, вядома, тых ці іншых адступленьняў, у залежнасьці ад мясцовых умоў.

II. Наша народная асьвета павінна: «У пэрыод дыктатуры пролетарыяту, г. зн., у пэрыод падрыхтоўкі ўмоў, якія робяць магчымым поўнае ажыцьцяўленьне комунізму, школа павінна быць ня толькі правадніком прынцыпаў комунізму наогул, але і праваднікам ідэёвага, організацыйнага выхаваўчага ўплыву пролетарыяту на поўпролетарскія і непролетарскія пласты працоўных мас, з мэтай выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм» (з програмы комуністычнай партыі (бальшавікоў)).

Стварыць з ўсёй падрастаючай моладзі новае пакаленьне людзей з псыхолёгіяй колектывізму, з цьвёрдай воляй, з грамадзка-патрэбнай кваліфікацыяй, з матэрыялістычным сьветапоглядам, на падставе якаснага разуменьня законаў разьвіцьця прыроды і грамады; узьняць сьве-

домасьць дарослага працоўнага насельніцтва, павялічваць і замацоўваць прынцыпы комунізму—вось якія мэты стаяць перад народнай асьветай.

III. Сыстэма народнай асьветы павінна быць пабудавана так, каб наша школа давала агульную політэхнічную асьвету, згодна програмнай устаноўцы ЎсеКП(б) і адначасова, каб яна забясьпечвала запатрабаваньні рэконструкцыйнага пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва патрэбнымі па колькасьці і па якасьці кадрамі.

IV. Вялізарнае значэньне для політэхнічнай асьветы мае ўдзел усёй школы (разам настаўнікаў і вучняў) у грамадзкай працы і працы саветаў, выканкомаў, розных дзяржаўных органаў, профсаюзаў і розных грамадзкіх добраахвотных організацый. Гэты ўдзел не павінен быць толькі ў парадку азнаямленьня з работаю, а актыўнага ўдзелу ў жыцьці гэтых організацый і дапамогі ў рабоце.

V. Выходзячы з гэтых установак, павінна быць пабудавана наступная сыстэма народнай асьветы:

1) Дзіцячы сад або ачаг (на фабрыцы, заводзе, у саўгасе і колгасе) для дзяцей дашкольнага ўзросту ад 5 да 8 год уключна, гэта значыць, што дзіця павінна знаходзіцца ў дашкольнай установе 4 гады (5-8 год).

2) Масавая політэхнічная сямігадовая школа з 2 концэнтрамі: першы концэнтр—4 гады і другі концентр—3 гады. Дзіця павінна знаходзіцца ў сямігадовай школе да 15 гадоў уключна. Школам гэтым даць наступныя назвы:

1) Фабрычна-заводзкая.
2) Комунальная.
3) Колгасная.
4) Саўгасная.

3) Сямігадовая школа павінна даваць дзецям вытворча-працоўнае выхаваньне непасрэдна на прадпрыемстве, саўгасе, колгасе і ў выключных выпадках, калі немагчыма будзе з прычыны мясцовых умоў даваць дзецям працоўныя навыкі на прадпрыемствах, патрэбна організоўваць пры школах спэцыяльныя майстэрні, пры чым падача працоўных навыкаў павінна быць шчыльна ўвязана з агульнай політэхнічнай асьветай.

Праца дзяцей, якім даюцца працоўныя навыкі ў парадку вучобы, як правіла, павінна аплачвацца, пры чым сродкі не павінны выдавацца на рукі, а ісьці на ўвесь колектыў школы, галоўным чынам, на траты па пазашкольнай політасьветрабоце для дзяцей.

4) Разам з тым работа сямігадовай школы комплексна павінна быць увязана з пазашкольнай політасьветнай работай для дзяцей: школьная політэхнічная вучоба і выхаваньне павінны дапаўняцца пазашкольнай політасьветвучобай і выхаваньнем і наадварот.

Ва ўсёй выхаваўчай рабоце школы сярод дзяцей вялізарная задача ўскладаецца на піонэрскія організацыі.

Формы пазашкольнай політасьветработы павінны быць наступныя:

1) дзіцячая бібліотэка,
2) тэхнічная дзіцячая станцыя,
3) дзіцячая агро-біо-станцыя,
4) дзіцячы клюб,
5) кіно для дзяцей,
6) тэатр для дзяцей,
7) экскурсіі,
8) школьнае самакіраўніцтва.

5) Сярэдняй школе ці II-й ступені працоўнай школы трэба надаць профэсійна-політэхнічны характар (гл. Ленін, т. XVIII, ч. 1, ст. 74), г. ё., побач з далейшым пашырэньнем і паглыбленьнем політэхнічных ведаў, якія даюцца сямігодкай, яна павінна забясьпечыць патрэбнымі кадрамі наша гаспадарчае і культурнае будаўніцтва.

У адпаведнасьці з апошнім перад сярэдняй школай стаяць дзьве задачы: а) падрыхтоўка кваліфікаваных рабочых, якія могуць быць пазьней вылучаны на працу тэхнікаў-функцыяналаў і б) падрыхтоўка сярэдняга тэхнічнага асабовага складу (тэхнікаў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, настаўнікаў, сярэдні мэдыцынскі асабовы склад і г. д.).

Першую задачу выконваюць: проф. політ. школы па розных спэцыяльнасьцях, ШСМ, школы ФЗУ, другую—тэхнікумы па адпаведнай спэцыяльнасьці. Тэрмін навучаньня ў школах вызначаецца ў 2-3 гады, у тэхнікумах—3-4 гады.

Прымаючы пад увагу надзвычайную патрэбу, якая адчуваецца прамысловась-

цю і сельскай гаспадаркай у тэхніках і надзвычайную патрэбу ў пэдагогах, якая выклікаецца ўвядзеньнем усеагульнага навучаньня, нарада лічыць патрэбным зьвярнуць асаблівую ўвагу на пашырэньне сеткі тэхнікумаў.

6) Вышэйшая школа, як вызначана пленумам ЦК УсеКП(б) у ліпені і лістападзе, з 3-4 гадовым курсам навучаньня, пры чым нарада лічыць патрэбным цяпер жа пачаць падрыхтоўку да організацыі на БССР ВНУ-прадпрыемства.

*VI. Дадатковая сыстэма для дарослых і перараросткаў.* Сыстэма народнай асьветы для дарослых і перарасткаў павінна выходзіць з тых жа асноўных установак. Сыстэма павінна будавацца так:

1) рабфак і колфакі дзённыя і вячэрнія, якія служаць для падрыхтоўкі рабочых, батракоў, беднякоў і колгасьнікаў у ВНУ.

Тэрмін навучаньня на рабфаках і колфаках—3½-5 год. Прыём у рабфакі на аснове 4-годкі або школ малапісьменных, пры чым рабфакі і колфакі павінны быць прымацованы да адпаведных ВНУ;

2) Профшкола, ФЗУ і ШСМ на аснове 4-годкі; тэрмін навучаньня—3 гады. Агульнаадукацыйныя веды даюцца за сямігодку;

3) Вячэрнія рабочыя, колгасныя і саўгасныя школы на аснове 4-годкі; тэрмін навучаньня—2-3 гады. Агульнаадукацыйныя веды даюцца за сямігодку.

4) Вячэрнія профполітэхнічныя школы і тэхнікумы; тэрмін навучаньня—3-4 гады.

5)Вячэрнія ВНУ; тэрмін навучаньня—4-5 год.

*VII. Завочнае навучаньне.* Завочнае навучэньне павінна даваць, па-першае, агульнае падвышэньне кваліфікацыі па тэй ці іншай галіне або дысцыпліне і, падругое,—сярэднюю і вышэйшую проф. політэхнічную адукацыю:

Сыстэма структурнай організацыі завочнага навучаньня ў асноўным павінна адпавядаць асноўнай і дадатковай сыстэме народнай асьветы і мець наступныя формы:

1) Завочны рабфак на аснове 4-годкі з 3½-4-гадовым курсам навучаньня.

2) Завочная проф. політэхнічная школа на аснове 4-х годкі з 3-х гадовым курсам навучаньня.

3) Завочная проф. політэхнічная школа і тэхнікум на аснове 4-х годкі з 2-4-гадовым курсам навучаньня.

4) Завочная ВНУ з 3-4 гадовым курсам навучаньня на аснове рабфаку, колфаку, проф.-політэхнічнай школы.

5) завочнае навучаньне па агульнаму падвышэньню кваліфікацыі, або па тэй ці іншай дысцыпліне. Тэрмін навучаньня —1-2 гады.

*VIII. Дадатковая сыстэма кароткатэрміновых курсаў для перакваліфікацыі і падвышэньня кваліфікацыі.* Рэконструкцыя народнай гаспадаркі, тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва і адставаньне ў мінулым культурнага будаўніцтва, асабліва ў галіне падрыхтоўкі кадраў, ставяць перад намі задачу паскарэньня падрыхтоўкі кадраў і перакваліфікацыі старых і выпушчаных раней з савецкай школы кіраўнічых тэхнічных кадраў.

У сувязі з тым, што наша нормальная школа, ня гледзячы на значнае пашырэньне сеткі, асабліва ў гэтым годзе, зможа забясьпечыць кадрамі толькі праз некалькі год, мы стаім перад крайняй неабходнасьцю больш узмоцненым тэмпам забясьпечыць соцыялістычнае будаўніцтва кадрамі праз організацыю розных кароткатэрміновых курсаў па перакваліфікацыі і падвышэньню кваліфікацыі кадраў, якія ўжо ёсьць або практыкаў тэй ці іншай галіны гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Сыстэма асьветы павінна быць гнуткай у залежнасьці ад галіны гаспадаркі, ад папярэдняй падрыхтаванасьці, у залежнасьці ад практычнага стажу работы павінны будавацца кароткатэрміновыя курсы.

Тэрміны навучаньня на гэткіх курсах павінны быць розныя, пачынаючы ад месяца і канчаючы 2-ма гадамі.

# ПРА АДЗІНЫ ПЛЯН І НОВЫЯ МЭТОДЫ КУЛЬТУРНАЙ РАБОТЫ

(*Тэзісы, зацьверджаныя партнарадай*)

1. Рэконструкцыйны пэрыод, бурнае соцыялістычнае будаўніцтва, масавая колектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі, ва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы і ліквідацыі кулацтва, як клясы, паставілі перад намі новыя задачы ў галіне культурнай і політыка-асьветнай работы: абярнуць фронт культурнага будаўніцтва ў адзін з баявых франтоў. Сучасны стан культурнай работы, тэмпы яе ні ў якай меры не адпавядаюць тэмпам гаспадарчага будаўніцтва, падвядзеньню найноўшай тэхнічнай базы пад нашу вытворчасьць, прыстасаваньню новых, соцыялістычных форм працы і агульнагаспадарчаму плянаваньню. Задачы, што стаяць перад намі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва, патрабуюць ад нас карэннай рэволюцыйнай перабудовы ўсіх зьвеньняў нашай культурнай работы, усіх яе паверхаў і вучасткаў.

2. Асноўны недахоп усяго нашага культурнага будаўніцтва заключаецца перш за ўсё ў разрозьненасьці, паралелізьме і анархічнай раскіданасьці яго ў БССР; так сама, як і ў іншых саюзных рэспубліках, ёсьць цэлы шэраг організацый і ўстаноў (політасьветы, культсэктары, профсаюзы, культаддзел Белкоопсоюзу, культаддзел колгасцэнтру, дорбоахвотныя культурныя таварыствы ды інш. аб'яднаньні), якія параўнаўча трацяць шмат сіл і сродкаў на культурнае будаўніцтва, вынікі якога ні ў якай меры не адпавядаюць прад'яўленым нам патрабаваньням.

3. У рабоце паказаных вышэй організацый мы маем прыклады надзвычайнай бясплянавасьці і хаотычнасьці: 1) адсутнічае адзіная лінія ў намячаемым будаўніцтве клюбаў, дамоў культуры, культбаз і дашкольных устаноў; 2) наглядаецца няўзгодненасьць у пытаньнях фізкультурнай работы, у організацыі розных курсаў і ў прыватнасьці курсаў па падрыхтоўцы ў ВНУ, у забесьпячэньні культінвэнтаром і мастацкім абслугоўваньні; 3) кожная з паказаных вышэй організацый сама па сабе намячае ўдарныя пункты работы, у выніку чаго мы маем згрупаваньне сродкаў і сіл на адным вучастку работы і агаленьне іншых вучасткаў.

Усё гэта разам прыводзіць да нізкай якасьці культработы і неадпаведнасьці зьместу яе з прад'яўленымі патрабаваньнямі нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

4. Гэтыя сур'ёзьнейшыя недахваты і прарывы ў культурнай рабоце з усёй катэгорычнасьцю высоўваюць перад намі пытаньне, перш за ўсё, аб стварэньні адзінага пляну культурнага будаўніцтва. Гэты плян, будучы адзіным па сутнасьці, павінен быць пабудаваны на падставе вучоту ўсіх асаблівасьцяй асобных раёнаў, нацыянальных і вытворчых груп насельніцтва і грамадзкіх організацый, ён павінен прадугледжваць, якія організацыі будуць ажыцьцяўляць асобныя яго часткі, хто і ў якім памеры павінен адпускаць сродкі і вылучаць патрэбныя сілы. Адзіны плян культурнага будаўніцтва павінен складацца пры ўдзеле самых шырокіх мас і шэрагу організацый. Пры складаньні яго трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на дакладнае вывучэньне ўсіх рэальных даных, якія характарызуюць становішча культурнай работы, сродкаў і сіл у раёне, у акрузе і ў маштабе ўсёй рэспублікі.

5. Для забесьпячэньня правядзеньня адзінага пляну культурнага будаўніцтва трэба мець адзіны кіраўніча-плянуючы орган. Гэты орган, створаны з прадстаўнікоў організацый і ўстаноў, якія вядуць культурную работу, павінен знаходзіцца пры Наркомасьветы. У склад яго, конкрэтна, павінны ўвайсьці прадстаўнікі наступных організацый: політасьветы, культаддзелу ЦСПСБ, культаддзелу Белкоопсаюзу, культаддзелу колгасцэнтру, комсамолу і добраахвотных таварыстваў. Старшынёю гэтага органу павінен быць народны комісар асьветы.

6. Перажываемы намі пэрыод ставіць перад намі шэраг новых задач у галіне культурнага будаўніцтва. Трэба перш за ўсё ў адпаведнасьці з характарам нашай вытворчасьці, нашымі ўстаноўкамі, новай тэхнічнай базай і новымі соцыялістычнымі мэтодамі работы нанова перабудаваць усю нашу культурную работу, намеціць новыя формы і мэтоды яе, мобілізаваць увагу шырокай партыйна-савецкай грамадзкасьці вакол задач культурнай работы, узьняць шырокія пласты працоўных мас на барацьбу за культуру, выявіць усе культурныя сілы краіны з мэтай уцягненьня іх у актыўнае будаўніцтва культуры. Сама культурная работа павінна зачэпліваць выключна ўсе бакі жыцьця працоўных нашага Саюзу і праводзіцца па лініі: выпрацоўкі пролетарскай ідэолёгіі гэтых мас, выхаваньня новых навыкаў працы і адпаведных якасьцяй характару ў кожнага працоўнага, падвышэньня пісьменнасьці насельніцтва і агульнай кваліфікацыі яго, организацыі разумнага адпачынку, прыстасаваньня ўсяго нашага выхаваньня і асьветы да прад'яўленых нам патрабаваньняў, падрыхтоўкі новых кадраў спэцыялістых і перападрыхтоўкі тых, якія ўжо ёсьць і г. д. На даным этапе разьвіцьця культурная работа павінна быць цесна ўвязана з перабудовай быту працоўных, яна павінна адыграць вялізарную ролю ў гэтай перабудове. У нашай агульнай культурнай рабоце мы павінны ўзяць цьвёрды курс на збліжэньне фізычнай працы з працаю разумоваю.

7. У адпаведнасьці з усім гэтым павінны быць нанова перабудаваны ўсе формы і мэтоды культурнай работы і намечана новая сетка культурных установ. На прадпрыемствах і ў сельскіх залюдненых пунктах павінны быць створаны нізавыя культурныя ачагі—чырвоныя куткі і культурныя пункты. Трэба ўзяць цьвёрды курс на стварэньне ў буйных саўгасах клюбаў, а для культурнага абслугоўваньня шырокіх сялянскіх мас і, перш за ўсё ў мясцовасьцях масавай колектывізацыі, дамоў культуры замест хат-чытален, якія там існуюць. У раённых цэнтрах павінны будавацца раённыя дамы культуры з культбазамі пры іх—як асяродак усіх сіл і сродкаў па абслугоўваньню насельніцтва раёну. У гарадох трэба будаваць магутныя раённыя клюбы, політыка-асьветныя комбайны з набліжэньнем іх да месца жыцьця рабочых і агульнасаюзных мас. Толькі ў асобных выпадках клюбы могуць будавацца пры асобных сапраўды магутных прадпрыемствах. Трэба таксама шырока практыкаваць организацыю культурных фурманак, кіно-перасовак, кніганош і г. д.

8. У сувязі з неабходнасьцю организацыі разумнага адпачынку і нашых пачынаньняў у галіне рэконструкцыі быту, трэба рашуча ставіць пытаньне аб максымальным выкарыстаньні зялёных плошчаў у напрамку разьвядзеньня магутных паркаў і садоў, организацыі пляжаў, лыжных і водных станцый, купальняў, пабудовы розных пляцовак у гэтых парках, настолькі патрэбных для культурнага абслугоўваньня насельніцтва. Дамы культуры і культурныя пункты ў сельскіх мясцовасьцях таксама павінны зьяўляцца ня толькі ачагамі асьветы і політыка-асьветнай работы, але і цэнтрамі здаровага адпачынку і разумных забаў. Вакол іх павінны быць таксама засаджаны паркі і сады і пабудаваны аздаравіцельныя ўстановы.

Нарада катэгорычна протэстуе супроць барбарскай вырубкі існуючых паркаў і садоў у гарадох і, у прыватнасьці, у Менску пры пабудове новых дамоў і лічыць патрэбным разгарнуць шырокую кампанію па пасадцы новых дрэў і стварэньню новых паркаў і садоў у гарадох.

9. Культурны фронт можа быць прыведзены ў суадпаведнасьць з фронтам гаспадарчага будаўніцтва: культурная рэволюцыя можа быць створана толькі ў тым выпадку, калі ў справу будаўніцтва культуры будуць уцягнуты найшырокія масы працоўных. Таму трэба прыняць усе захады да максымальнага ўцягненьня гэтых мас у культурнае будаўніцтва і мобілізаваць шырокую партыйна-савецкую грамадзкасьць вакол гэтай справы. Соцыялістычнае спаборніцтва на культурным фронце, якое да гэтага часу было закінутым, павінна адыграць вялічэзную ролю ў нашай рабоце. Соцыялістычным спаборніцтвам

мы зможам ня толькі паскорыць вырашэньне задач, якія зьвязаны з падрыхтоўкай новых кадраў, ліквідацыяй няпісьменнасьці, увядзеньнем усеагульнага навучаньня і г. д., але і дапаможам нам і нашым культурным установам, у прыватнасьці, школам пайсьці сапраўды ў ногу з эпохай соцыялістычнага наступу.

10. У мэтах карэннай перабудовы нашай работы трэба зьверху да нізу па усёй пэрыфэрыі скласьці аўторытэтныя выбарчыя саветы пры ўсіх клюбах, нардамох, культбазах, дамох культуры, чырвоных куткох і г. д., організаваўшы пры іх шэраг добраахвотных сэкцый; практыкаваць скліканьне шырокіх культурных конфэрэнцый з прадстаўнікоў працоўных мас і перш за ўсё з рабочых; стварыць шырокую сетку выбарчых культупаўнаважаных на прадпрыемствах, ў вёсках, колгасах і саўгасах; вылучыць добраахвотны актыў культурных працаўнікоў, організуючы з яго шырокія нарады па пытаньнях культурнага будаўніцтва.

11. Задачы агульнакультурнага будаўніцтва і абслугоўваньня працоўных мас павінны выконвацца ня толькі адпаведнымі культурнымі і політыка-асьветнымі ўстановамі нашай краіны, але і ўсімі ўстановамі, што ўваходзяць у сыстэму народнай асьветы. Максымальным разгортваньнем будаўніцтва дашкольных устаноў, адпаведным уцягненьнем усёй сеткі ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых школ у агульнакультурнае будаўніцтва, мобілізацыяй тых, хто вучыць і вучыцца вакол асноўных задач культурнага характару, усё гэта павінна адыграць вялікую ролю як у справе рэконструкцыі нашага быту, так і ў разьвіцьці пролетарскай культуры.

12. Пры разгортваньні новых форм і мэтодаў культурнай работы мы павінны сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на вывучэньне практыкі і становішча яе на месцах, на выяўленьне культурных сіл у нашай краіне, на вывучэньне і популярызацыю лепшых узораў культурнай работы. Толькі на падставе дакладнага вывучэньня ўсіх праводзімых мерапрыемстваў па культурнаму будаўніцтву, вучоту ўсяго таго, чым сапраўды характарызуецца культурны фронт, толькі на падставе гэтага мы можам рабіць правільныя вывады, прымаць тыя або іншыя захады да ўзьняцьця культурнай работы і плянава кіраваць ёю. У гэтай справе павінна адыграць асабліва вялікую ролю статыстыка і абмен вопытам культурнай работы.

13. Колькаснае пашырэньне ўстаноў і карэнная рэорганізацыя ўсёй сыстэмы культурнай і політыка-асьветнай работы, неабходнасьць якаснага палепшаньня яе настойліва патрабуюць ад нас форсаванай падрыхтоўкі культурных кадраў. З гэтай мэтай нарада лічыць патрэбным максымальна пашырыць прыём у існуючыя сярэднія школы, якія рыхтуюць політыка-асьветных працаўнікоў, адчыніць новыя ўстановы адпаведнага характару, а таксама стварыць спэцыяльнае аддзяленьне пры пэдфаку БДУ, Комвузе і Ўсебеларускай саўпартшколе. Разам з гэтым трэба вызначыць цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы наяўных культурных і політыка-асьветных кадраў, папярэдне дакладна вывучыўшы пытаньне аб гэтых кадрах. Нарада констатуе невыкананьне ранейшых рашэньняў партыі ў адносінах замацаваньня на працяжны тэрмін працаўнікоў на культурным фронце. Ставячы пытаньне аб культурных кадрах, трэба зьвярнуць таксама сур'ёзную ўвагу на нашу інтэлігенцыю, на прыцягненьне яе да актыўнага ўдзелу ў культурным будаўніцтве, рашуча вядучы змаганьне супроць усякага роду перагібаў у адносінах да савецкай інтэлігенцыі.

14. У сувязі з рэорганізацыяй усёй культурнай і політыка-асьветнай работы трэба сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на выдавецкую справу, на ўзьняцьце якасьці выпускаемай літаратуры, на плянаваньне работы ў выдавецкай галіне, улічваючы ўсю патрэбу нашай краіны і, у прыватнасьці, зьвязаную з разгортваньнем культурнага будаўніцтва, бытавога абслугоўваньня і колектывізацыі вёскі. Трэба таксама ўпарадкаваць справу з кінофікацыяй і радыёфікацыяй.

# ТЭЗІСЫ АБ СТАНОВІШЧЫ І ЗАДАЧАХ КУЛЬТУРНА-МАСАВАГА АБСЛУГОЎВАНЬНЯ НАЦМЕНШАСЬЦЯЙ БССР

*(Зацьверджаны партнарадаю).*

«Сутнасьць нацыянальнага пытаньня заключаецца ў тым, каб зьнішчыць тую адсталасьць (гаспадарчую, палітычную і культурную) нацыянальнасьцяй, якую яны атрымалі ў спадчыну ад мінулага, каб даць адсталым народам магчымасьць дагнаць цэнтральную Расію ў дзяржаўных, культурных і гаспадарчых адносінах» (з прамовы т. Сталіна на X зьезьдзе РКП).

1) Выкананьне дырэктыў партыі аб ліквідацыі існуючага разыходжаньня паміж гаспадарча-культурным узроўнем асобных нацыянальнасьцяй знайшло сваё практычнае праламленьне ў БССР. Побач з пасьпяховым ажыцьцяўленьнем задачы соцыялістычнага будаўніцтва, мы маем таксама значныя дасягненьні ў галіне гаспадарча-культурнага будаўніцтва сярод нацменшасьцяй. Краіна з году ў год расьце, і ў ёй разгортваецца культурная і палітвыхаваўчая работа, значна разгорнута сетка культурных устаноў на роднай мове розных нацыянальнасьцяй: лікпункты, школы, клюбы, тэатры, сярэднія навучальныя ўстановы і аддзяленьні ў вышэйшых навучальных і навукова-дасьледчых установах. Разгорнута барацьба з ухіламі і скажэньнямі на ідэолёгічным фронце: нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам розных колераў (яўрэйскім, польскім і г. д.).

2) Пры тых дасягненьнях, якія мы маем, усё-ж праводзімая культмасавая работа сярод нацменшасьцяй БССР зьяўляецца недастатковай і патрабуе больш шпаркага тэмпу і больш поўнага задавальненьня ўзросшых культурных запатрабаваньняў у сувязі са шпаркім тэмпам індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі вёскі. Гіганцкі размах соцыялістычнага будаўніцтва, перабудова вёскі на новы соцыялістычны лад, задача ліквідацыі кулацтва, як клясы, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, патрабуюць паглыбленьня і сыстэматызацыі ўсёй культмасавай работы і ў прыватнасьці і асабліва сярод нацменшасьцяй. Нераўнамернае палітычнае і культурнае разьвіцьцё асобных нацыянальнасьцяй краіны патрабуе дыфэрэнцыяванага падыходу ў культурным абслугоўваньні асобных нацыянальнасьцяй і ўзмацненьня работы сярод найбольш адсталых

Ва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы ўзмацняюцца сярод нацменшасьцяй варожыя нам тэндэнцыі, узмацняецца работа рабінаў, ксяндзоў, сэктантаў, нацыянал-дэмократычных і шовіністычных элемэнтаў. Гэтыя пытаньні знаходзяць свой адбітак і на ідэолёгічным фронце, аб чым сьведчаць меўшыя месца ў нацшколах і культурных установах (польскіх, яўрэйскіх ды і інш.) праяўленьні антысэмітызму, вялікадзяржаўнага шовінізму і шовінізму розных колераў (польскага, яўрэйскага), рэлігійныя настроі і забабоны. Для барацьбы з гэтымі плынямі патрэбна мобілізацыя ўсіх сіл культурнага фронту і забесьпячэньне выразнай клясавай лініі ва ўсёй культурна-масавай рабоце, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу, побач з барацьбой супроць беларускага нацдэмократызму і антысэмітызму, на барацьбу супроць шовінізму розных колераў—польскага, яўрэйскага ды інш. Інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне як у школах нацменшасьцяй, так і ва ўсёй палітасьветрабоце павінна быць у цэнтры ўвагі ўсіх організацый.

3) БССР налічвае звыш 10 розных, акрамя беларускай, нацыянальнасьцяй з агульным лікам насельніцтва ў 1.200.000, што складае каля 20%. Па сваёй колькасьці яны падзяляюцца на наступныя 3 групы: 1-я група з насельніцтвам звыш 100.000 кожная (яўрэі, расійцы, палякі), 2-я група з насельніцтвам ад 1000 да 3500 кожная (украінцы, літоўцы, латышы, немцы, эстонцы, татары, цыганы), 3-я група—асобныя народнасьці, нязначныя па сваёй колькасьці і раскіданыя па ўсёй тэрыторыі БССР.

4) Згодна перапісу 1926 г., сярэдні ўзровень пісьменнасьці ўсіх нацыяналь-

нацьцяй быў вышэй сярэдняга ўзроўню па БССР, які складаў 41%, што тлумачыцца значнай адсталасьцю асноўнай нацыянальнасьці—беларусаў, сярод якіх % пісьменных складаў 36%. Па пісьменнасьці на першым месцы ідуць латышы—74%, яўрэі—70%, літоўцы, немцы, татары—60%. За апошнія гады, дзякуючы разгорнутай рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод насельніцтва БССР, % пісьменных узросту 12-35 г. даведзены да 70%. З-за адсутнасьці сталага вучоту ліквідацыі няпісьменнасьці сярод нацменшасьцяй немагчыма ўстанавіць % няпісьменных у сучасны момант. З тых вестак, якія ёсьць за 1927-28 і 1928-29 г. г., відаць, што ў гэтыя гады было 128 нац. лікпунктаў, на якіх навучаліся 2960 чал., што зьяўляецца зусім недастатковым. Асноўным недахопам у гэтай галіне зьяўляецца адсутнасьць пэрспэктыўных плянаў па ліквідацыі няпісьменнасьці на роднай мове (за выключэньнем яўрэйскай і польскай нацыянальнасьці, у якіх плян не ажыцьцяўляецца), адсутнасьць вучоту няпісьменных і поўная адсутнасьць ліквідацыі няпісьменнасьці на роднай мове сярод дробных груп нацменшасьцяй.

5) Колькасныя і якасныя паказальнікі ў галіне соцыяльнага выхаваньня сярод нацменшасьцяй паказваюць наяўнасьць шэрагу дасягненьняў: значна пашырана сетка школ 4-х годак і 7-х годак на роднай мове сярод асноўных нацменшасьцяй: 481 школа 4-х годка, 112 7-х годак, 5 школ сялянскай моладзі і 46 дзіцячых садоў. Узрос ахоп дзяцей школай на роднай мове. Процант ахопу яўрэйскіх дзяцей школай 4-х годкай складае 60%, польскіх—53%, латыскіх—80-85%. Палепшылася матар'яльнае становішча школ нацменшасьцяй (абсталяваньне, памяшканьне, паляпшаецца соцыяльны склад вучняў).

Найлепш забясьпечанымі школьнай сеткай зьяўляюцца: па 4-х годках польскае насельніцтва, удзельная вага—13,3% пры ўдзельнай вазе насельніцтва ў 2%, а па 7-х годках—яўрэйскае насельніцтва—20,1%, пры ўдзельнай вазе ў 8,2%, што тлумачыцца пераважнасьцю расьсяленьня яго ў гарадох і мястэчках.

Адмоўнымі бакамі ў галіне соцвыхаваньня зьяўляецца адсутнасьць школ на роднай мове для малых груп нацменшасьцяй, слабое разгортваньне сеткі 7-х годак, асабліва для ўкраінцаў, літоўцаў, немцаў і астатніх нацыянальнасьцяй, зусім нязначная колькасьць школ сялянскай моладзі. Недастаткова яшчэ забясьпечаны нацыянальныя школы падручнікамі і дапаможнікамі на роднай мове (на літоўскай мове ёсьць адзін падручнік, астатнія выпісваюцца з-за мяжы). Зусім мала разгорнута дашкольнае выхаваньне на роднай мове, асабліва па лініі грамадзкіх арганізацый. Таксама ненормальным зьявішчам трэба лічыць значны процант аднакомплектавых школ: латыскіх—75%, польскіх—60%, літоўскіх—70% да агульнага ліку школ гэтых нацыянальнасьцяй. Недастаткова забясьпечаны школы памяшканьнямі.

6) Політасьветработа сярод нацменшасьцяй зьяўляецца найбольш слабым месцам як па лініі народнае асьветы, так і па лініі профэсійных ды іншых арганізацый. Гэта галіна работы сярод нацменшасьцяй зусім слаба разгорнута:

а) Нацклюбаў маем: яўрэйскіх—2, польскіх—2, латыскіх—2 і 2 літоўскіх чырвоных куткі. Абслугоўваньне нацменшасьцяй рабочымі клюбамі профсаюзаў на роднай мове нават і там, дзе нацменшасьць складае значную колькасьць членаў саюзаў, недастатковае, масавая работа (гурткі, даклады, лекцыі) сыстэматычна зусім не праводзіцца.

б) Асобных бібліотэк нацменшасьцяй, акрамя 2-х яўрэйскіх, няма. У агульных бібліотэках (у акруговых цэнтрах) ёсьць нацаддзяленьні, але ў іх мала літаратуры на нацмовах, частка літаратуры ўстарэла, а папаўняюцца бібліотэкі новай літаратурай зусім слаба. Так у клюбных бібліотэках беларускіх кніг—7,9%, яўрэйскіх—4,2%, польскіх—0,7%, астатніх нацыянальнасьцяй—0,5.

в) Нардамы, за рэдкім выключэньнем, таксама не вядуць ніякай масавай работы на мовах нацменшасьцяй, яны не забясьпечаны адпаведнымі працаўнікамі. Для падрыхтоўкі політасьветчыкаў існуе польаддзяленьне і яўаддзяленьне пры

Магілеўскім політасьветтэхнікуме, але яны не задавальняюць патрэбу ў працаўнікох.

г) З 526 хат-чыталень маем: беларускіх—358 (76%), яўрэйскіх—18 (3,4%), польскіх—40 (7,6%), латыскіх—4 (0,8%), літоўскіх—3 (0,6%), нямецкіх—1. Склад хатнікаў у большасьці не адпавядае свайму прызначэньню. Гэта сетка хатчыталень нацменшасьцяй вельмі недастаткова і за апошнія гады слаба павялічваецца.

д) Існуючая сетка вячэрніх школ розных тыпаў падзяляецца наступным чынам: яўрэйскіх—36, польскіх—19. Разьмешчаны яны, галоўным чынам, у гарадох. Лік іх зьяўляецца зусім недастатковым. Што датычыцца астатніх нацменшасьцяй, дык для іх вячэрніх школ на роднай мове зусім няма.

Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне ва ўсёй сыстэме політасьветработы сярод нацменшасьцяй яшчэ слаба пастаўлена. Што датычыцца невялікіх нацменшасьцяй, дык сярод іх на роднай мове зусім ніякай работы не праводзіцца. Трэба адзначыць адсутнасьць сталага вучоту як сеткі, так і наогул правадзімай работы па лініі політасьветы як з боку органаў народнай асьветы, так і з боку профэсійных і грамадзкіх організацый.

7) Масавая профтэхасьвета на роднай мове да апошняга году амаль зусім ня была разгорнута. У сучасны момант ёсьць толькі 3 школы на яўрэйскай мове (профшкола мэталістых, хэмікаў і аддзяленьне менскай аб'яднанай школы) і некалькі нясеткавых майстэрань. На мовах іншых нацменшасьцяй профшкол няма. Ува ўсіх профшколах нацменшасьці прадстаўлены наступным чынам:

| | Беларусаў | Яўрэяў | Расійцаў | Палякаў | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|
| 1927—28 . . | 59 | 33,2 | 4,6 | 2,4 | 0,8 |
| 1928—29 . . | 59,1 | 34,8 | 3,5 | 1,7 | 0,9 |
| 1929—30 . . | 56,8 | 38,4 | 2,8 | 1,3 | 0,7 |

Як відаць з гэтых даных, зусім слаба прадстаўлены ў масавых профтэхустановах палякі і нацыянальнасьці, якія лічацца пад рубрыкай «іншыя» (0,7%), у той час, калі іх удзельная вага да агульнага ліку насельніцтва складае 1,7%. Асноўнай задачай у галіне профтэхасьветы зьяўляецца далейшае пашырэньне сеткі нацыянальных школ і пашырэньне ахопу профасьветай тых нацыянальнасьцяй, якія найбольш слаба прадстаўлены.

8) У галіне друку і выдавецкай работы ёсьць значныя дасягненьні. Выдаюцца 3 яўрэйскія газэты, з іх 2 юнацкія, адна польская газэта, адна літоўская. Тыраж гэтых газэт 29610 экзэмпляраў. Латыскія газэты распаўсюджваюцца ў ліку 1200 экз. Пры БелАПП знаходзяцца дзьве сэкцыі: яўрэйская і польская.

Значна ўзрасла выдавецкая дзейнасьць. Так, у 24-5 годзе выдана на мовах нацменшасьцяй 177 друкаваных аркушоў, у 28-29 г.—393, а па пляну на 29/30 г. вызначана 1228 аркушоў (рост на 300%).

Асноўным недахопам ў выдавецкай рабоце зьяўляецца недастатковае выданьне масавай літаратуры, асабліва па інтэрнацыянальнаму і антырэлігійнаму выхаваньню, дзіцячай літаратуры і дарагоўля кніг. Трэба таксама адзначыць адсутнасьць коордынацыі выдавецкіх пляпаў паміж асобнымі рэспублікамі, што прыводзіць часта да дубліраваньня.

9) У галіне мастацтва ёсьць таксама дасягненьні: маем 2 яўрэйскіх тэатры, з іх 1 вандроўны; 1 польскі вандроўны, дзяржаўны хор і аддзяленьне музэю. Вандроўнымі тэатрамі абслугоўваецца местачковае і сельскае насельніцтва. Трэба адзначыць адсутнасьць п'ес для драмгурткоў, а таксама для вандроўных тэатраў.

10) Па лініі навукова-дасьледчай работы ёсьць пры БАН два нацыянальных сэктары—яўрэйскі і польскі, катэдра па вывучэньню гісторыі Літвы і комісія па вывучэньню колёніі латышоў. Гэтымі сэктарамі праведзена значная работа па вывучэньню гісторыі і быту народнасьцяй. Выданы друкаваныя матар'ялы, і падрыхтоўваецца праца да друку. Побач з гэтым у дзейнасьці нацсэктароў мелі месца шэраг прарываў, праяўленьне нацыянал-дэмократызму і шовінізму—польскага, яўрэйскага, што ў прыватнасьці тлумачыцца недастатковым забесьпячэньнем сэктароў навуковымі, марксыцкімі сіламі, засьмечанасьцю ідэолёгічнанаяўстойлівымі элемэнтамі, слабым ара-

бачэньнем сэктароў і зусім недастатковымі партыйнымі праслойкамі. У сувязі з рэорганізацыяй БАН нацыянальныя сэктары павінны ўвайсьці ў агульныя інстытуты адпаведнай спэцыяльнасьці, з тым аднак, што ў гэтых інстытутах яны захоўваюць сваю самастойнасьць і вывучаюць пытаньні гаспадаркі і культуры нацыянальных меншасьцяй.

11) Аналіз становішча і падрыхтоўкі кадраў паказвае, што за апошнія гады мы маем значныя дасягненьні ў гэтай галіне: ёсьць 3 пэдагогічных тэхнікумы (2 яўрэйскія, 1 польскі); яўрэйскае аддзяленьне і польская катэдра на пэдфаку, яўрэйскае і польскае аддзяленьне ў Магілеўскім палітасьветтэхнікуме, яўрэйскае аддзяленьне саўпартшколы і с. г. яўр. тэхнікум. Удзельная вага нацменшасьцяй у ВНУ наступная: яўрэяў—27,6%, палякаў—1,7%, астатніх—2%.

Аднак становішча вылучэньня і падрыхтоўкі пролетарскіх нацменкадраў для работы на роднай мове не адпавядае запатрабаваньням і тэмпам рэконструкцыйнага пэрыоду як па колькасьці, так і па якасьці. Мы маем востры недахоп кадраў-пэдагогаў па ўсіх галінах для ўсіх нацменшасьцяй; асабліва дрэнна стаіць справа з пэдагогамі для немцаў і эстонцаў. Зусім нязначная праслойка партыйцаў і комсамольцаў сярод пэдагогаў. Асабліва востра адчуваецца недахоп у навуковых сілах. Так, напр., у БАН на 16 штатных адзінак у яўрэйскім сэктары мы маем 9 чал., сярод якіх толькі 2 комуністыя. Склад грамадаведаў у школах нездавальняючы. Так, сярод яўрэйскіх грамадаведаў 13% не адпавядаюць свайму прызначэньню, а 27 недастаткова падрыхтаваны. Нездавальняючая колькасьць студэнтаў-палякаў у Горацкай акадэміі (14 чал.), у вэт'інстытуце (6 чал.). Амаль што па ўсіх акругах мае месца недаўкомплектаванасьць нац'інспэктуры. Профорганізацыі пры організацыі розных курсаў не адчыняюць курсаў на нацыянальных мовах.

Мае месца таксама разрыў паміж запатрабаваньнем контынгентаў для нацыянальных устаноў, якія рыхтуюць кадры, і базай гэтых контынгентаў пры амаль што поўнай адсутнасьці да гэтага году якіх-небудзь мерапрыемстваў па падрыхтоўцы рабочай, батрацкай і бядняцкай моладзі ў тэхнікумы і ВНУ.

12) Плянаваньне культасьветнай работы сярод нацменшасьцяй як з боку НКА і яго органаў на месцах, так і з боку профэсійных і іншых організацый знаходзіцца яшчэ да гэтага году ў нездавальняючым становішчы. Няма яшчэ культурнай пяцігодкі па ўсіх лініях у нацыянальным разрэзе. Таксама нездавальняюча пастаўлены вучот і статыстыка праводзімых мерапрыемстваў. Схэма ЦСУ па шмат якіх галінах ня мае нацыянальнага разрэзу. Уся культурная работа распылена, што ўскладняе належнае кіраўніцтва як з організацыйнага, так і мэтодычнага боку.

Забесьпячэньне выкананьня задач, што пастаўлены партыяй у галіне культурнага будаўніцтва пры абвостранай клясавай барацьбе, патрабуе правядзеньня цэлага шэрагу організацыйных і фінансавых мерапрыемстваў па палепшаньню культурна-масавага абслугоўваньня і паглыбленьню інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня сярод рабочых і працоўных нацменшасьцяй. Гэтымі мерапрыемствамі павінны быць:

1) Безадкладнае палепшаньне культурнай работы сярод нацменшасьцяй ва ўсіх галінах народнай асьветы, уключыўшы плян культурнага будаўніцтва сярод нацменшасьцяй асобным разьдзелам у агульную культурную пяцігодку.

У аснову складаньня пляну культурна-масавага абслугоўваньня нацменшасьцяй трэба пакласьці поўны ахоп усіх нацыянальных меншасьцяй усебаковым культурным абслугоўваньнем, асабліва адстаўшых і пашырэньне сеткі існуючых устаноў.

Плян павінен ахапіць усе галіны: ліквідацыю няпісьменнасьці, усеагульнае навучаньне, дашкольнае выхаваньне, падрыхтоўку кадраў, профтэхасьвету і палітасьветработу. У кола плянаваньня культурных мерапрыемстваў павінна быць уключана і мерапрыемства па лініі профсаюзных, коопэрацыйных і грамадзкіх організацый. Плян павінен быць даведзены да раёну.

**Па лініі соцвыхаваньня і масавай профтэхасьветы:**

а) Трэба стаць на шлях шырокага разгортваньня дашкольных устаноў сярод нацменшасьцяй: дзіцячых садоў і ачагоў, летніх пляцовак як у гарадох, так і ў колгасах, асабліва па лініі ўстаноў, што адчыняюцца коопэрацыйнымі і грамадзкімі організацыямі.

б) Забясьпечыць перавод нацменаўскіх школ на новую організацыйную структуру згодна схэмы народнай асьветы, пашырыць сетку школ сялянскай моладзі і фабрычна-заводзкіх сямігодак і адчыненьне 3-іх концэнтраў. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на набліжэньне 1-комплектовай нацменаўскай школы да тыпу 2-х і 3-х комплектовай і разгортваньне сеткі ў колгасах, устанавіўшы норму для інтэрнацыянальных колгасаў і ў тых мясцовасьцях, дзе насельніцтва распылена, у 12-15 вучняў для 1-комплектовай школы.

в) У пяцігадовым пляне павінны быць прадугледжаны сродкі на пашырэньне школьнага будаўніцтва і абсталяваньне школ нацменшасьцяй. Трэба таксама пашырыць сетку інтэрнатаў пры 7-х і 4-х гадовых школах для нацменшасьцяй і павялічыць лік стыпэндый для дзяцей беднаты.

г) Прымаючы пад увагу шматмоўнасьць у школах нацменшасьцяй, лічыць патрэбным зрабіць нацменшколу 5-ці гадовай, але з такім разьлікам, каб 5-ы год быў за лік адчыненьня нулявых груп усіх 7-х гадовых і 4-х комплектовых школ, з ахопам школай дзяцей, пачынаючы з 7-мі гадовага ўзросту.

д) Пры далейшым разгортваньні сеткі масавых профтэхустаноў на роднай мове для асноўных нацменшасьцяй краіны, трэба ўзяць рашучы курс на падвышэньне ўдзельнай вагі студэнтаў з груп дробных нацменшасьцяй у агульных профтэхустановах.

е) Пашырыць выданьне падручнікаў на роднай мове нацменшасьцяй для ўсіх тыпаў навучальных устаноў, асабліва для сярэдніх і вышэйшых зьвеньняў, маючы на ўвазе поўную незадаволенасьць апошнімі. Пры гэтым трэба коордынаваць пляны выданьня падручнікаў усіх рэспублік, каб ня было дубліраваньня. Таксама ўзмацніць работу па прасоўваньню літаратуры ў масы.

**Па лініі політасьветработы:**

а) Патрэбна забясьпечыць ліквідацыю няпісьменнасьці сярод рабочых і працоўных усіх нацменшасьцяй у тэрміны, якія вызначаны для агульнай ліквідацыі няпісьменнасьці, узяўшы рашучы курс на пашырэньне сеткі лікпунктаў і груп малапісьменных на роднай мове.

б) Патрэбна прадугледзець па пляну пашырэньне сеткі вячэрніх школ нацменшасьцяй усіх концэнтраў на роднай мове, забясьпечыўшы іх належнымі кадрамі падрыхтаваных пэдагогаў і належнай колькасьцю падручнікаў.

в) Пашырыць нацаддзяленьні ў агульных бібліотэках і папоўніць бібліотэкі літаратурай на мовах нацменшасьцяй як у дзяржаўных, так і профэсійных бібліотэках. Побач з гэтым трэба прыняць належныя захады да павялічэньня выданьня Цэнтрвыдатам кніг на мовах нацменшасьцяй, галоўным чынам, масава-політычных і па пытаньнях тэхнікі, колектывізацыі, а таксама і бэлетрыстыкі, узяўшы рашучы курс на зьніжэньне цэн на нацменаўскую літаратуру.

г) У мэтах найлепшага абслугоўваньня нацменшасьцяй у клюбах, нардамох і г. д., трэба ва ўсёй сыстэме політустаноў, якія абслугоўваюць раёны, дзе ёсьць нацменшасьці, організаваць нацменаўскія сэктары, як падсобныя органы праўленьняў, альбо саветаў гэтых устаноў, на чале якіх павінен быць адзін з платных працаўнікоў данай установы, конструяваўшы належным чынам і склад працаўнікоў гэтых устаноў. У акруговых цэнтрах (Менск, Гомель, Віцебск і Бабруйск), дзе знаходзіцца значная колькасьць яўрэйскага , польскага і латыскага насельніцтва, лічыць патрэбнай організацыю нацыянальных клюбаў, якія ў той-жа самы час павінны зьяўляцца апорнымі цэнтрамі мэтодычнай політасьветработы.

**Па лініі кадраў:**

Задача падрыхтоўкі пролетарскіх нацменаўскіх кадраў патрабуе рашучага пералому як у тэмпах, так і ў колькасьці, без чаго немагчыма забясьпечыць належнае культамасавае абслугоўваньне нацменшасьцяй. Выходзячы з гэтага, патрэбна:

а) Пашырыць прыёмы ў нацыянальныя пэдтэхнікумы і аддзяленьні пэдфаку і політасьветтэхнікумаў (польскі і яўрэйскі), даводзячы нормы прыёмаў у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі ў пэдагогах для адпаведных зьвеньняў навучальных установ. Для забесьпячэньня пэдагогамі школ 2-га концэнтру лічыць патрэбным організаваць польскае і яўрэйскае аддзяленьні пры адчыняемых інстытутах.

б) Для забесьпячэньня пэдагогамі дашкольных установ організаваць побач з існуючымі аддзяленьнямі і пэдтэхнікумамі яўрэйскае аддзяленьне пры дашкольным тэхнікуме і шэраг кароткатэрміновых курсаў для падрыхтоўкі нацменаўскіх дашкольных працаўнікоў.

в) Прымаючы пад увагу недахват пэдагогаў па розных спэцыяльнасьцях, што падрыхтоўваюцца ва ўстановах БССР і адсутнасьць магчымасьці падрыхтаваць пэдагогаў у БССР для ўсіх нацменшасьцяй, за выключэньнем польскай і яўрэйскай, лічыць неабходным вызначыць спэцыяльныя сродкі на контрактацыю і павялічэньне стыпэндыі студэнтам з установ па-за межамі БССР, асабліва для латышоў, немцаў, літоўцаў і эстонцаў.

г) Лічыць патрэбным пашырэньне сеткі нацаддзяленьняў у ранішніх і вячэрніх рабфаках, забясьпечыўшы іх належным складам пэдагогаў.

д) Прадугледзець бюджэтам організацыю сталых курсаў для падрыхтоўкі рабочых, батракоў, беднаты і колгасьнікаў у нацтэхнікумы і нацаддзяленьні пэдфаку.

е) У мэтах забесьпячэньня патрэбнымі кадрамі навуковых працаўнікоў, лічыць неабходным пашырэньне ліку асьпірантуры пры ўстановах БССР і СССР, а таксама паставіць пытаньне перад належнымі органамі аб командыраваньні ў БССР адпаведнай колькасьці навуковых працаўнікоў для работы ў нацсэктарох БАН і ВНУ.

ж) Улічваючы зусім слабую партыйную праслойку сярод пэдагогаў грамадаведаў і нязначную колькасьць пропагандыстых, лічыць патрэбным організацыю яўрэйскага аддзяленьня пры Комвузе.

з) Пры організацыі розных курсаў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы актыву, па лініі партыйных, профсаюзных і комсамольскіх організацый павінна быць улічана неабходнасьць організацыі пры іх груп на мовах нацменшасьцяй.

і) У мэтах забесьпячэньня пастаноўкі масавай агітпропаганды сярод нацменшасьцяй на роднай мове і магчымасьці скарыстаньня для гэтай мэты спэцыялістых нацменаў, лічыць патрэбным уключыць у навучальныя пляны, як асобны прадмет, яўрэйскую і польскую мову і літаратуру ў Горацкай с.-г. Акадэміі, на мэдфаку і на факультэце народнай гаспадаркі (аддзяленьне савецкага будаўніцтва) для студэнтаў адпаведных нацменшасьцяй.

к) Для больш поўнага задавальненьня запатрабаваньня ў вучобе найшырокіх нацыянальных мас рабочых і працоўных, лічыць патрэбным разгарнуць завочнае навучаньне па ўсіх галінах ведаў, прадугледзеўшы організацыю нацсэктару пры адчыняемым інстытуце завочнага навучаньня.

5. Для ажыцьцяўленьня організацыйнага, плянавага і мэтодычнага кіраўніцтва культурна-масавым абслугоўваньнем нацменшасьцяй, неабходна пашырыць і ўзмацніць націнспэктуру як у НКА, так і на месцах. Пры гэтым трэба конструяваць апарат народнай асьветы і іншых організацый такім чынам, каб, акрамя нацыянальнай інспэктуры, былі адпаведныя працаўнікі па групах, якія маглі-б абслугоўваць і нацыянальныя патрэбы. Увесь апарат і яго сэктары, а ня толькі націнспэктура павінны быць адказны за справу пастаноўкі абслугоўваньня нацменшасьцяй.

Група націнспэктароў пры НКА павінна быць павялічана і разьмеркавана па

2-х асноўных сэктарох: організацыйна-плянавым і ідэолёга-мэтодычным. Для распрацоўкі мэтодычных пытаньняў, зьвязаных з абслугоўваньнем нацменшасьцяй, якія ня маюць спэцыяльнай інспэктуры, павінны быць прыцягнуты адпаведныя працаўнікі з устаноў як у парадку добраахвотнасьці, так і платнасьці.

Патрэбна таксама, каб організацыі (ЦСПСБ, Колгасцэнтр, Жылсаюз, Сампрамсаюз) мелі штатныя адзінкі па абслугоўваньню нацменшасьцяй (па 1 адз.).

6. Патрэбна абавязаць ЦСУ рэорганізаваць сыстэму вучоту такім чынам, каб было забясьпечана правядзеньне вывучэньня становішча культурнага будаўніцтва ў нацыянальным разрэзе.

# ПАСТАНОВА ЎСЕБЕЛАРУСКАЙ ПАРТНАРАДЫ ПА ПЫТАНЬНЮ АБ РЭОРГАНІЗАЦЫІ ОРГАНАЎ НАР. АСЬВЕТЫ

1. Выходзячы з задач, якія стаяць у сучасны момант перад органамі народнай асьветы, партнарада выказваецца за рэорганізацыю органаў народнай асьветы на аснове:

а) максымальнага аслабаненьня НКА ад непасрэдна-адміністрацыйных функцый і перадачы непасрэднага кіраўніцтва ўсімі навучальнымі ўстановамі (акрамя ВНУ )акруговым і раённым органам;

б) перанясеньня цэнтру цяжару непасрэднага кіраўніцтва на раёны, пры адпаведным узмацненьні раённай інспэктуры;

в)ператварэньня НКА ў цэнтр, які плянуе ўсю работу па народнай асьвеце, падрыхтоўцы кадраў, масавай культурнай рабоце; ажыцьцяўляе ідэолёгічнае і мэтодычнае кіраўніцтва ўсёй гэтай работай і кіруе масавымі культурнымі мерапрыемствамі, якія праводзяцца партыяй і савецкай уладай, г. зн., ператварэньня НКА ў сапраўдны штаб культурнай рэволюцыі;

г) падзелу працы і дакладнага разьмежаваньня функцый паміж асобнымі працаўнікамі апарату, з пэрсанальнай адказнасьцю кожнага за даручаную яму работу і максымальнага скарачэньня сярэдніх зьвеньняў паміж колегіяй НКА і кожным працаўніком апарату;

д) організацыі вакол органаў народнай асьветы навуковых і пэдагогічных сіл і максымальнага іх прыцягненьня, на асновах добраахвотнасьці, да работы органаў народнай асьветы;

е) сталага контролю над работаю органаў народнай асьветы з боку пролетарскай грамадзкасьці і сталай дапамогі ў гэтай рабоце з боку партыйных, профсаюзных і грамадзкіх організацый.

2. У мэтах максымальнага вызваленьня НКА ад адміністрацыйных функцый:

а) перадаць усе навучальныя ўстановы, якія знаходзяцца да сучаснага моманту ў распараджэньні НКА—у падначаленьне акруговых, або раённых органаў народнай асьветы, пакінуўшы іх на дзяржаўным бюджэце. У падначаленьні НКА пакінуць толькі ВНУ, прыцягнуўшы акруговыя партыйныя і савецкія органы да контролю за работай і дапамогі ВНУ, якія знаходзяцца на тэрыторыі іх акруг;

б) перадаць непасрэднае кіраўніцтва відовішчнымі прадпрыемствамі, якія знаходзяцца ў падначаленьні НКА, спэцыяльнаму аб'яднаньню, якое дзейнічае на падставе гаспадарчага разрахунку, усклаўшы ідэолёгічнае кіраўніцтва іх работаю на навукова-мэтодычны сэктар НКА.

3. У адпаведнасьці з задачамі, якія стаяць перад НКА, падзяліць работу НКА на 4 сэктары: а) організацыйна-плянавы; б) навукова-мэтодычны; в) кадраў і г) масавых культурных мерапрыемстваў.

4. Намесьнік наркома або член колегіі, які стаіць на чале сэктару, непасрэдна кіруе работаю функцыянэраў (інспэктароў), з якіх кожны мае дакладна ўстаноўленыя абавязкі і правы.

Функцыянэры, якія працуюць у галінах работы, што цесна зьвязаны паміж сабою, аб'ядноўваюцца ў групы. У гэтыя групы ўваходзяць, акрамя працаўнікоў апарату, і асобы, якія прыцягваюцца на

аснове добраахвотнасьці да работы ў даных галінах. Групы разам распрацоўваюць плян работы, абгаварваюць важнейшыя пытаньні работы, падрыхтоўваюць пытаньні да колегіі. Члены групы замяняюць адзін другога ў выпадку командыроўкі ды інш.

5. Організацыйна-плянавы сэктар падзяляецца на 3 групы: а) організацыйную, б) інспэктарскую і в) плянавую.

У задачу організацыйнай групы ўваходзяць: распрацоўка матар'ялу па організацыйных пытаньнях, па пытаньнях прававога і матар'яльнага становішча працаўнікоў асьветы, кодыфікацыя існуючых законапалажэньняў і распараджэньняў па пытаньнях народнай асьветы, распрацоўка пытаньняў прававога палажэньня і матар'яльнага забесьпячэньня вучняў і г. д.

У задачы інспэкторскай групы ўваходзяць: інспэктаваньне мясцовых органаў народнай асьветы па пытаньнях організацыі і кіраўніцтва народнай асьветы, становішча плянавай работы, уцягненьне грамадзкасьці ў работу органаў НКА, організацыя масавых мерапрыемстваў і г. д.

У адпаведнасьці з апошняй задачай група складаецца з інтэгральных інспэктароў, работа паміж якімі падзяляецца не па тыпах установ НКА, а па акругах (на кожныя 2-3 акругі адзін інспэктар). Акрамя таго, ствараецца спэцыяльная група інспэктароў па рабоце сярод нацыянальных меншасьцяй.

У задачу плянавай групы ўваходзіць плянаваньне ўсёй работы па культурнаму будаўніцтву і падрыхтоўцы кадраў, а таксама і плянаваньне фінансавай базы для культурнага будаўніцтва.

6. Навукова-мэтодычны сэктар ажыцьцяўляе ідэолёгічнае і мэтодычнае кіраўніцтва і контроль за работаю ўсіх установ па народнай асьвеце, распрацоўвае прынцыповыя пытаньні культурнага будаўніцтва, вядзе програмную мэтодычную работу ўсіх навучальных і політыка-асьветных установ без залежнасьці ад таго, пад ведамам якіх ведамстваў яны знаходзяцца.

Пры ідэолёгічна-мэтодычным сэктары організуецца група па пачатковай асьвеце, група па вышэйшай асьвеце, група па сельска-гаспадарчай асьвеце, група па індустрыяльнай асьвеце, па соцыяльна-экономічнай, мэтодычнай, па мастацкай асьвеце і мастацкіх прадпрыемствах, група па масавай політасьветрабоце, з нацменшасьцямі, па дашкольнай рабоце, група па масавай мастацкай рабоце і г. д.

Для кіраўніцтва ўсёй работай сэктару пры НКА організуецца дзяржаўны вучоны савет, куды ўваходзяць усе асноўныя працаўнікі сэктару і пэрсональна прызначаныя навуковыя працаўнікі і пэдагогі, якія працуюць пад кіраўніцтвам намесьніка Наркома па навукова-мэтодолёгічнаму сэктару.

7. Сэктар кадраў ажыцьцяўляе опэрацыйнае кіраўніцтва ВНУ, якія знаходзяцца пад ведамам НКА, праводзіць работу па распрацоўцы профіляй кадраў, організуе бесьперапынную вытворчую практыку, праводзіць работу па перападрыхтоўцы нарасьветаўскіх кадраў, кіруе работаю па падрыхтоўцы навуковых кадраў, вядзе вучот і разьмеркаваньне нарасьветаўскіх кадраў.

8. Сэктар масовых політасьветных мерапрыемстваў кіруе ўсёй масавай і політыка-асьветнай работаю і ў першую чаргу мерапрыемствамі, якія праводзяцца ва ўдарным парадку—паходамі (культурны паход, дашкольны паход, бібліотэчны паход і г. д.).

Пры сэктары організуюцца групы:

а) ліквідацыі няпісьменнасьці;

б) дашкольнага паходу;

в) бібліотэчнага паходу;

г) масавай політасьветнай работы ў вёсцы;

д) група барацьбы з бяспрытульнасьцю і г. д.

9. Для кіраўніцтва масавымі культурнымі мерапрыемствамі і ў першую чаргу мерапрыемствамі, якія ажыцьцяўляюцца ў парадку паходаў і для коордынацыі работы, што вядзецца ў гэтай галіне рознымі дзяржаўнымі, гаспадарчымі, партыйнымі, комсамольскімі, профсаюзнымі і грамадзкімі організацыямі, пры сэктары масавых мерапрыемстваў організуецца рэспубліканскі савет культпаходаў, куды ўваходзяць усе прадстаўнікі паказаных вышэй організацый і асноўныя работнікі адпаведных галін работы.

**Акруга і раён**

10. Бяручы курс на сьціsканьне функцый акругі, на перанясеньне цэнтру цяжару кіраўніцтва народнай асьветай у раён, на стварэньне ў раёне самастойных і аўторытэтных органаў народнай асьветы, ні ў якім разе, аднак, нельга дапусьціць паслабленьня акруговых орган ў народнай асьветы. Наадварот, узмацненьне (перш за ўсё ў якасных адносінах) акруговых органаў зьяўляецца папярэдняй умовай хутчэйшага правядзеньня ўсёй работы па ўзмацненьню раённага апарату.

11. Работа акруговай інспэктуры падзяляецца паміж інспэктарамі па тыпах культурна-асьветных устаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі акругі. Колькасьць інспэктароў устанаўляецца ў залежнасьці ад колькасьці культурных устаноў, якія знаходзяцца на тэрыторыі данай акругі, і аб'ёму іх работы.

Сярод інспэктароў павінен быць адзін інспэктар па плянавай рабоце, якая па меры ўмацаваньня раённых апаратаў і перанясеньня ў раён цэнтру цяжару кіраўніцтва стане асноўнай работай акруговых органаў. Орыентыровачна можна ўстанавіць, напрыклад, наступны падзел функцый паміж інспэктарамі: 1) акруговы інспэктар, 2) інспэктар-плянавік, 3) інспэктар па ніжэйшай асьвеце, 4) інспэктар па падвышанай асьвеце (2 концэнтр профасьветы, тэхнікум і г. д. ), 5) інспэктар па політасьветрабоце, 6) інспэктар па дзіцячых садох, дамох, ачагох і г. д., 7) піонэрработнік.

12. Для каардынацыі дзейнасьці розных органаў і організацый у галіне культурнага будаўніцтва, для прыцягненьня да гэтай работы шырокіх пластоў савецкай грамадзкасьці, пры акруговым выканаўчым комітэце, пад кіраўніцтвам акр. інспэктара, організуецца савет па культурнаму будаўніцтву ў складзе прадстаўнікоў мясцовых партыйных, комсамольскіх, профсоюзных, коопэрацыйных організацый, добраахвотных організацый, настаўніцтва, вучняў, рабочых прадпрыемстваў і членаў сэкцый па народнай асьвеце, гарсавету і г. д. Дзейнасьць савету па культурнаму будаўніцтву і парадак яго організацыі павінны быць азначаны асобным палажэньнем.

13. Важнейшай задачай, якая стаіць перад намі, зьяўляецца ўзмацненьне раённых органаў народнай асьветы. Пры даным іх становішчы ня можа быць і гутаркі аб вырашэньні задач, што стаяць перад імі, у прыватнасьці задач па культурнаму ўздыму вёскі. Для таго, каб дабіцца нормальнай работы раённай інспэктуры і яе ўмацаваньня, патрэбна: а) палепшаньне матар'яльнага становішча раённых работнікаў, б) павялічэньне колькасьці работнікаў раённай інспэктуры, в) спыненьне адрыву работнікаў, што да гэтага часу наглядаецца, ад іх непасрэдных абавязкаў, г) паставіць работу па падвышэньні кваліфікацыі і перападрыхтоўцы раённых і акруговых інспэктароў, д) ужыць захады да тэрміновай падрыхтоўкі новых кадраў раённых працаўнікоў, зьвярнуўшы сур'ёзную ўвагу на работу пэдолёга-пэдагогічнага і політыка-асьветнага аддзяленьняў пэдфаку БДУ, а таксама курсаў організатараў народнай асьветы, што адчыняюцца пры комвузе , е) прызнаць неабходным, каб культпроп ЦК КП(б)Б разам з НКА ўжо ў гэтым годзе адчыніў пры пэдфаку, ці комвузе месячныя курсы па падрыхтоўцы раённых інспэктароў.

14. Работа раённай інспэктуры павінна падзяляцца на тры галіны: а) агульнае кіраўніцтва, організацыйна-плянавая работа, б) работа па соц. выхаваньні і в) політасьветработа.

У адпаведнасьці з гэтым у дапамогу раённаму інспэктару павінны быць даны інспэктары па соцвыху і па політасьветрабоце з тым, каб кожны з іх меў пад сваім ведамам ня больш 60-80 культустаноў.

Пры райвыканкоме, пад кіраўніцтвам раённага інспэктара, організуецца савет па культурнаму будаўніцтву з тымі-ж мэтамі і на тых-жа асновах, як і акруговыя саветы (гл. пункт 11).

# У НОГУ З СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭКОНСТРУКЦЫЯЙ

П. ПАНКЕВІЧ

## САЎГАС І КОЛГАС, ЯК БАЗА ПОЛІТЭХНІЧНАГА ВЫХАВАНЬНЯ

Ленін лічыў, што асновай політэхнічнага выхаваньня павінна быць буйная соцыялістычная вытворчасьць—электрастанцыя, завод, саўгас. У сувязі з шпаркім тэмпам колектывізацыі сельскай гаспадаркі тут яшчэ набывае важнае значэньне і колгас. Зараз паўстае пытаньне, як трэба організаваць політэхнічнае выхаваньне ў саўгасе і колгасе?

Для політэхнічнага выхаваньня патрэбны дзьве галоўныя умовы: соцыялістычная форма буйнай вытворчасьці і дастатковы ўзровень разьвіцьця тэхнікі вытворчасьці. Колгас зьяўляецца соцыялістычнай формай сельскай гаспадаркі. З гэтага пункту погляду колгас мае ўсе мажлівасьці для разгортваньня політычнага выхаваньня. Але-ж колгас не зьяўляецца пасьлядоўна соцыялістычным тыпам сельскай гаспадаркі. Побач з абагульваньнем сродкаў вытворчасьці колгас мае і некаторую долю прыватнай уласнасьці ў галіне быту, абмену, разьмеркаваньня продукцыі. Праўда, у розных катэгорыях колгасу прыватная ўласнасьць мае розную ўдзельную вагу. Найбольш высокай формай колгасу зьяўляецца комуна, дзе прыватная ўласнасьць зьнішчаецца. Аднак, і комуна мае тую асаблівасьць, што яна зьяўляецца коопэрацыяй былых дробных уласьнікаў-земляробаў і, будучы добраахвотным вытворчым аб'яднаньнем, захоўвае ў сабе мажлівасьці распаду на дробныя гаспадаркі, калі-б таго жадала большасьць членаў комуны. Усё гэта стварае тое, што колгас не зьяўляецца пасьлядоўна соцыялістычным тыпам сельскай гаспадаркі, дзякуючы чаму ён не дае ўсіх прадпасылак для ажыцьцяўленьня разгорнутага політэхнічнага выхаваньня. Тое-ж самае трэба сказаць і адносна другой умовы—узроўню разьвіцьця тэхнікі вытворчасьці. Апошняя ў колгасе пакуль што зьяўляецца даволі адсталай. Тут яшчэ і дагэтуль скарыстоўваюцца такія сродкі вытворчасьці, якія атрыманы ад далёкіх часоў дакапіталістычнага разьвіцьця грамадзтва. Найноўшая сучасная тэхніка яшчэ толькі пачынае заваёўваць належнае месца ў колгасах. Гэта таксама абмяжоўвае мажлівасьці ажыцьцяўленьня разгорнутага політэхнічнага выхаваньня. Напэўна, паказанымі прычынамі тлумачыцца тое, што Ленін, пералічваючы электрастанцыю, завод і саўгас, як базу політэхнічнага выхаваньня, аніводнага слова не гаворыць пра колгас, ня гледзячы на тое, што комуна была значна распаўсюджана ўжо ў першыя гады рэволюцыі. Калі мы сьцьвярджаем, што колгас ня можа быць базай *разгорнутага* політэхнічнага выхаваньня, дык гэта ня значыць, што ён наогул ня можа быць базай політэхнічнага выхаваньня *ў тэй ці іншай ступені.* Паколькі колгас ёсьць соцыялістычная форма сельскай гаспадаркі, пастолькі ён і мае прадпасылкі для політэхнічнага выхаваньня. Але-ж гэтыя прадпасылкі бываюць неаднолькавымі ў розных катэгорыях колгасаў. Значыцца, у розных катэгорыях колгасаў ёсьць і *розныя ступені і формы політэхнічнага выхаваньня.* Апошняе тут толькі ня можа быць пасьлядоўна разгорнутай сы-

стэмай да таго часу, пакуль колгас ня зробіцца пасьлядоўна социялістычным тыпам сельскай гаспадаркі. Але-ж тады колгас, напэўна, перастане быць колгасам і набудзе якую-небудзь новую форму.

Зусім другое трэба сказаць адносна саўгасаў. Саўгас ёсьць пасьлядоўна социялістычны тып сельска-гаспадарчага прадпрыемства. Апроч гэтага, у саўгасе ёсьць і параўнаўча высокая па ўзроўню разьвіцьця тэхніка вытворчасьці. Усё гэта ўтварае прадпасылкі для разгорнутай сыстэмы політэхнічнага выхаваньня. Праўда, тут сустракаюцца розныя цяжкасьці. Ня гледзячы на тое, што тэхніка ў саўгасе параўнаўча з колгасамі значна высокая, усё-ж такі яна адстае ад сусьветнай тэхнікі. Аўтоматызацыя, электрыфікацыя і хэмізацыя процэсу вытворчасьці ў саўгасе яшчэ пакуль што не дасягнула тае вышыні, якая мажліва пры сучасным становішчы навукі і тэхнікі. Але-ж у сувязі з шпаркім тэмпам індустрыялізацыі Савецкага Саюзу гэта недарэчнасьць будзе зьнішчана ў бліжэйшы час.

Сэнс політэхнічнага выхаваньня заключаецца ў тым, каб азнаёміць вучняў як тэорытычна, гэтак і практычна з асноўнымі прынцыпамі організацыі буйнай вытворчасьці ў розных важнейшых яе відах.

У Леніна мы знаходзім конкрэтныя думкі адносна таго, якія важнейшыя галіны вытворчасьці павінны вывучацца ў процэсе політэхнічнага выхаваньня.

Ён паказвае на электрычнасьць, мэханіку, хэмію, тэхнолёгію, агрономію, організацыю вытворчасьці плюс яшчэ гісторыю і наогул грамадзкія навукі. Зразумела, на розных ступенях політэхнічнай школы гэтыя навукі павінны выкладацца рознымі мэтодамі ў розным аб'ёме і форме. Але-ж тут павінна быць адна ўстаноўка—усебаковае вывучэньне галоўных відаў социялістычнай вытворчасьці праз непасрэдны ўдзел вучняў у гэтай вытворчасьці.

Што прадстаўляе сабою саўгас? Зараз саўгас не зьяўляецца комплексам толькі тых зьяў, якімі характарызуецца сельская гаспадарка (паляводзтва, жывёлагадоўля, глебазнаўства і г. д.), але-ж і ўключае ў сабе цэлы шэраг процэсаў, якімі характарызуецца і сучасная буйная прамысловасьць — электрычнасьць, мэханіка, хэмія і г. д. Зараз пры саўгасе існуюць электрастанцыі і розныя заводы па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны, таксама мэханічныя рамонтныя майстэрні і розныя сродкі зносін—аўтомашыны, паравыя цягнікі і г. д. Ня гледзячы на тое, што саўгасы спэцыялізуюцца па характару сваёй продукцыі, яны усё-ж такі па комплексу вытворчых процэсаў маюць унівэрсальны характар. Гэта ўнівэрсалізацыя вытворчага процэсу і стварае спрыяючыя ўмовы для разгортваньня політэхнічнага выхаваньня.

Політэхнічная школа зьяўляецца ня толькі продуктам індустрыялізацыі нашага Саюзу, але-ж і яе зброяй. Політэхнічнае выхаваньне павінна садзейнічаць распаўсюджваньню тэхнічных і сельска-гаспадарчых ведаў сярод працоўнага насельніцтва: яно павінна мець сваім об'ектам ня толькі рабочых, але і рамесьнікаў і сялян. Гэтых апошніх (рамесьнікаў і працоўных сялян) трэба пераварыць у катле індустрыяльнай социялістычнай культуры, з тым, каб узьняць іх на вышэйшую ступень грамадзкага разьвіцьця, перавесьці на рэйкі вытворчай коопэрацыі. Паказаная задача можа быць выканана толькі тады, калі політэхнічнае выхаваньне будзе мець сваёй базай социялістычную буйную прамысловасьць і саўгас. Роля саўгасу ў справе колектывізацыі сельскай гаспадаркі надзвычайна вялікая. Ён зьяўляецца для працоўнага сялянства ўзорам социялістычнага сельска-гаспадарчага прадпрыемства і павінен паказваць усе перавагі буйнай вытворчасьці перад дробнай. Апроч таго, саўгас павінен дапамагаць насельніцтву і колгасам сваімі матар'яльнымі сродкамі вытворчасьці і агрономічнай консультацыяй у мэтах распаўсюджваньня найноўшых удасканаленых мэтодаў сельска-гаспадарчых работ і павялічэньня сельска-гаспадарчай кваліфікацыі насельніцтва. Вядучая кіруючая роля саўгасу на вёсцы і ў раёне суцэльнай колектывізацыі садзейнічае таму, што *ён робіцца цэнтрам асьветы,* ачагом распаўсю-

джваньня соцыялістычнай культуры. Вось чаму політэхнічнае выхаваньне, якое вырастае з сыстэмы буйнай прамысловасьці і саўгасаў, зьяўляецца ня толькі мэтодам зьмены прыроды людзей, але-ж і мэтодам уздыму соцыялістычнай вытворчасьці.

Як трэба вывучаць саўгас і колгас? Ёсьць думка, што трэба пачынаць вывучэньне саўгасу і колгасу з паасобных частак і потым пераходзіць да цэлай гаспадаркі. Абгрунтоўваецца гэта думка тым, што, па-першае, зразумець цэлае можна толькі тады, калі будуць вывучаны яго паасобныя часткі; па-другое, цэлае зьяўляецца складанай зьявай, тым часам як паасобныя часткі ёсьць найпростыя элемэнты, якія могуць быць бяз цяжкасьці ўсьвядомлены вучнямі, у той час, як складаная зьява ім непасільна, і, па-трэцяе, дзеці маюць сынтэтычнае мысьленьне, якое патрабуе пераходу ад конкрэтнага да адцягненага, ад элемэнтарных момантаў да абагульваньня, ад блізкага да далёкага. Ня цяжка зразумець, што ўсе гэтыя меркаваньні сьведчаць аб паўзучым эмпірызьме тых, хто спрабуе імі ўмацаваць свае памылковыя позыцыі. Тут перш за ўсё высоўваецца на першы плян ня клясавая ўстаноўка ў выхаваньні, а прырода дзіцяці, яго інтарэсы, псыхіка. Для нас жа рашаючым момантам зьяўляецца сама ўстаноўка на ажыцьцяўленьне прынцыпаў комуністычнага выхаваньня, пры чым, гэтыя прынцыпы мы павінны ажыцьцяўляць, улічваючы асаблівасьць прыроды вучняў рознага ўзросту. Мы не забываем ні таго, ні другога, тым часам як эмпірыкі концэнтруюць усю ўвагу на «прыродзе» і плююць на нашу клясавую ўстаноўку. Ці правільна тое, што зразумець цэлае можна толькі тады, калі будуць вывучаны яго паасобныя часткі? Ці трэба сапраўды раней азнаёміцца з тым, што такое трактар, шматпольле, сартыроўка насеньня, ворыва, баранаваньне і г. д., а потым вывучаць прынцыпы пабудовы саўгасаў і колгасаў? Мы згодны з тым, што нельга зразумець цэлага без вывучэньня паасобных частак. Але-ж гэта ня значыць, што паасобныя часткі павінны вывучацца раней, чым вывучаецца цэлае, бо без вывучэньня цэлага нельга таксама зразумець сутнасьці паасобных частак. Што нам можа даць вывучэньне трактара ці сартыроўкі насеньня ў саўгасе і колгасе, калі мы ня будзем ведаць соцыялістычнай прыроды гэтых гаспадарак? Перад намі будуць выступаць паасобна тэхніка вытворчасьці і сыстэма вытворчых адносін, тым часам як гэтыя моманты павінны разглядацца ў іх органічнай сувязі. Што нам можа даць вывучэньне грамадзкага жыцьця, культуры і быту ў колектыўнай гаспадарцы ці ў саўгасе, калі мы ня будзем ведаць сутнасьці эканомічнай базы, характэрнай для паказаных гаспадарак? Без аднаго мы ня можам зразумець другога. Вось чаму трэба мець цэласны падыход да вывучэньня саўгасаў і колгасаў, ахопліваючы іх усебакова, з пункту погляду дыялектычнага матэрыялізму, ва ўсіх узаемадачыненьнях зьяў і процэсаў, у сьвятле адзінства і барацьбы процілегласьцяй і пераходу аднэй процілегласьці у другую. Ці здольны нашы дзеці для такога падыходу да рачаіснасьці? Вопыт савецкай школы дае на пастаўленае пытаньне станоўчы адказ. Мы павінны рашуча адхіліць і іншыя аргумэнты эмпірыстых, быццам паасобныя часткі больш лёгка вывучаюцца, чым складанае цэлае, і быццам дзеці маюць сынтэтычнае мысьленьне, якое штурхае іх на пазнаньне сьвету праз індукцыйны мэтод. Зараз ужо нават некаторыя буржуазныя і дробнабуржуазныя пэдагогі капіталістычных краін усьвядомілі бязгрунтоўнасьць традыцыйных патрабаваньняў пэдагогікі—пераходу ад лёгкага да цяжкага, ад простага да складанага, ад блізкага да далёкага, ад конкрэтнага да адцягненага. Тое, што часамі лічылася лёгкім, простым, блізкім і конкрэтным, сапраўды аказвалася для вучняў процілеглым—цяжкім, складаным, далёкім і адцягненым. Пры гэтым высьветлілася, што ў дзяцей вельмі часта бывае цікавасьць і захапленьне не да лёгкага, а да цяжкага, не да простага, а да складанага, не да блізкага і конкрэтнага, а якраз наадварот—да далёкага і адцягненага. Для прыкладу мы возьмем думкі нямецкіх пэдагогаў романтыкаў—Шарэльмана і Ганзбэрга, якія будавалі выхаваўчы процэс выключна на ву-

чоце індывідуальных асаблівасьцяй дзяцей і іх інтарэсаў і, ня гледзячы на гэта, самі адмовіліся ад ужываньня вышэй паказаных прынцыпаў традыцыйнай пэдагогікі, у той час, як некаторыя нашы пэдагогі абараняюць гэтыя прынцыпы на тэй падставе, быццам яны зьяўляюцца найлепшымі асновамі выкладаньня пры вучоце псыхолёгічных асаблівасьцяй і інтарэсаў дзяцей. «Я ўжо даўно сьцьвярджаў,—кажа Шарэльман,—што выкладаньне фізыкі павінна весьціся не ў ляборторыі, што самыя рацыянальныя веды па фізыцы набываюцца на вуліцы і на фабрыцы». [1]).

«Ты думаеш мабыць,—працягвае ён,—што гэта проста бязглузьдзіца ўзяць выходным пунктам такія складаныя зьявы, як аўтомобіль і дугавую лямпу? Выкладаньне павінна, быццам, пачацца з найпростых вопытаў іназіраньняў? Так, тэорытычна гэта вельмі тонка прадумана, але не па дзіцячаму. Інтарэс дзіцяці цягне яго да складанага, а ня простага. І псыхолёгічна старая школьная мудрасьць «ад простага да складанага» зусім няправільная і памылковая. Але складанага дзіця ня можа зразумець? Зусім правільна, гэта яно нават і не павінна разумець. Няхай яно зразумее столькі, колькі дапушчае яго інтарэс і разумовыя сілы, і гэта ўжо што-кольвек [2]) Тут Шарэльман адкрыта выказваецца супроць традыцыйных прынцыпаў пэдагогікі і патрабуе пачынаць выкладаньне не ад простага, а ад складанага. Нельга забываць, што гэта сьцьвярджае пэдагог, які асабліва тонка ўспрымае дзіцячыя перажываньні і асабліва ўважліва адносіцца да дзіцячых інтарэсаў. «Менавіта дзяцей, дзяцей, якія ўладаюць сьвежымі пачуцьцямі і прагнасьцю да новых ўспрыйманьняў, якія яшчэ ня прыступлены сумяціцай нашых культурных забаеў, больш за ўсё прыцягваюць слугі нашай культуры—машыны. Колькі гэткі 6-8 гадовы хлапец жадае ведаць, напр., аб пабудове аўто, мяжуе проста з непраўдападобнасьцю. Яго прыцягвае кожная гайка і кожны медны крук. Чаму ён сядзіць якраз тут? Якая яго мэта? Чаму тая ці іншая частка мае тую ці іншую форму? І сотні гэткіх пытаньняў iльлюцца струменем і патрабуюць адказу перш за ўсё ад тых, хто па сутнасьці павінен быў бы ведаць усё гэта і, нарэшце, да свайго сораму, павінен прызнацца, што ён ня можа даць здавальняючага адказу адносна пабудовы аўто і шмат якіх іншых штодзённых рэчаў?» [3]).

Якім мэтодам карыстаецца Шарэльман пры азнаямленьні дзяцей з машынамі, можна бачыць з наступнага: «На вуліцы сабраўся натоўп. Каля тротуару спыніўся аўтомобіль, які раптам абвясьціў забастоўку. Яго абкружае маса дзяцей і дарослых. Што сапсавалася? Як гэта здарылася? Пасылаюць за мэханікам, які дасьледуе супольна з сваім памочнікам аўтомобіль. Некаторыя часткі здымаюцца. Можна заглянуць у нутро. Гаспадар аўтомобіля выслухоўвае падрабязнае тлумачэньне мэханіка пра пабудову машыны. Я дапушчаю (Шарэльман) абкружаючых устаўляць у гэта тлумачэньне свае заўвагі. Дзеці вельмі дакладна часткова азнаёміліся з пабудоваю аўтомобіля» [4]).

Гэткія-ж думкі сустракаюцца і ў Ганзбэрга.

Мя сьвядома падкрэсьлілі думкі Шарэльмана адносна вывучэньня машын, ня гледзячы на тое, што паказаны пэдагог па свайму сьветапогляду зьяўляецца дробнабуржуазным. У выказваньнях Шарэльмана цікава тое, што ён раіць знаёміць дзяцей, нават 6-8 год, з рознымі складанымі машынамі, пакольк ў іх да гэтага ёсьць цікавасьць. Шарэльман і Ганзбэрг надта ўважліва адносяцца да псыхолёгічных асаблівасьцяй вучняў, кладуць у аснову выкладаньня цікавасьць школьнікаў і адначасова патрабуюць пры выкладаньні выходзіць ня з простага, а *складанага,* зварочваючы ўвагу на вывучэньне сучаснай тэхнікі. І гэта паказаныя пэдагогі ня толькі раілі, але-ж і практычна ажыцьцяўлялі ў сваіх школах. Мы павінны ўлічыць іх вопыт.

[1]) Генр. Шарэльман—„Трудовая школа". Пераклад з ням. Рашэўскай. Выд. „Работник просвещения". Масква. 1924, стар. 73.

[2]) Там-жа. стар. 74.

[3]) Там-жа, стар. 71.

[4]) Там-жа, стар. 68-69.

*Політэхнічнае выхаваньне ня зводзіцца да вывучэньня вышэйшых форм тэхнікі.* Тав. *Крупская* ў сваіх тэзісах дакладу на 1-й сэсіі Дзяржаўнага вучонага савету наркомасьветы РСФСР за 1929 г. зусім няправільна прыпісала мне тэндэнцыю зводзіць політэхнічнае выхаваньне, да азнаямленьня з вышэйшымі формамі сучаснай тэхнікі. Такіх думак я ніколі ня выказваў. Наадварот, я ўсюды падкрэсьліваў формулёўку Маркса, паказваючы, што політэхнічнае выхаваньне заключаецца ў тэорытычным і практычным азнаямленьні з асноўнымі прынцыпамі пабудовы розных галін буйнай вытворчасьці. Паколькі вывучаюцца вышэйшыя формы сучаснай буйнай вытворчасьці, само сабой зразумела, будуць вывучацца і вышэйшыя формы тэхнікі. Але-ж гэта апошняе разглядаецца не ізолявана ад сыстэмы вытворчых адносін, а ў аспэкце ўсёй структуры буйнай вытворчасьці. Мы на гэта зараз зварочваем увагу для таго, каб падкрэсьліць, што саўгас і колгас павінны вывучацца ня з пункту погляду толькі вышэйшых форм тэхнікі, але-ж з пункту погляду ўсіх асаблівасьцяй, якімі характарызуецца социялістычная прырода гэтых гаспадарак. Тут якраз трэба зьвярнуць вялікую ўвагу *на характар вытворчых адносін*. Вось чаму мы раім пачынаць вывучэньне саўгасу і колгасу ня з прыватных момантаў, а *з агульных прынцыпаў пабудовы социялістычнай сельска-гаспадарчай вытворчасьці.*

Што мы разумеем тут пад агульнымі прынцыпамі?

1) Суадносіны паміж саўгасамі і колгасамі, з аднаго боку, і пролетарскай дзяржавай, з другога боку;

2) сыстэма кіраўніцтва гэтымі гаспадаркамі;

3) іх організацыйная структура;

4) характар вытворчых адносін;

5) характар тэхнічнай базы;

6) социяльны склад рабочых саўгасу і колгасьнікаў і, урэшце,

7) узаемаадносіны паміж гэтымі гаспадаркамі і абкружаючым насельніцтвам, а таксама ўдзел у клясавай барацьбе. Калі гэтыя прынцыпы будуць усьвядомлены, можна перайсьці да вывучэньня паасобных момантаў вытворчага працэсу, а потым, абагульваючы ўсё прапрацаванае, трэба зноў вярнуцца да агульных прынцыпаў, якія ўжо зараз будуць разгледжаны ў новым асьвятленьні, дзякуючы аналізу набытага матар'ялу за мінулы час пры вывучэньні социялістычных гаспадарак па асобных частках.

Вывучаючы саўгас ці колгас, трэба карыстацца гісторычным мэтодам. Вучні павінны цікавіцца пытаньнем, як узьнік саўгас і колгас, якія этапы свайго разьвіцьця ён пераражыў, якое яго становішча ў сучасны момант, і якія існуюць пэрспэктывы яго далейшага разьвіцьця (пяцігодка). Пры гэтым нельга забываць ролю данай гаспадаркі ў агульнай сыстэме социялістычнай экономікі Савецкага Саюзу, увязваючы мясцовы краязнаўчы матар'ял з задачамі клясавай барацьбы пролетарыяту і задачамі социялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Прыступаючы да вывучэньня вытворчага процэсу ў саўгасе і колгасе, трэба памятаваць, што гэта вывучэньне павінна быць ня толькі тэорытычным, але-ж і практычным: дзеці павінны ўдзельнічаць актыўна ў працы і клясавай барацьбе. Калі-б вучні ня ўдзельнічалі ў процэсе вытворчасьці, мы ня мелі-б у наяўнасьці політэхнічнага выхаваньня. Як-жа трэба організаваць працу дзяцей у социялістычнай гаспадарцы? Гэта пытаньне яшчэ новае, і ў гэтай галіне ў нас зусім невялікі вопыт. Пры вырашэньні гэтага пытаньня трэба ўлічваць наступныя моманты:

1) дзеці павінны вывучаць саўгас і колгас усебакова;

2) яны павінны сыстэматычна і плянава перакідвацца з аднэй работы на другую, затрымоўваючыся на кожнай з іх пастолькі, паколькі гэта патрэбна для ўсьведамленьня яе сутнасьці, а не для набыцьця спэцыяльнай кваліфікацыі;

3) па кожнаму віду работы зварочваецца ўвага не на ўсе дробязі, а на самае галоўнае, істотнае, пры чым галоўным, істотным тут будзе тое, што дапамагае высьветліць тып социялістычнай гаспадаркі;

4) пераход з аднае работы на другую павінен мець строга пасьлядоўны характар;

5) паступовасьць пераходаў можа ўстанаўлівацца ў залежнасьці ад складанасьці процэсу вытворчасьці, ад парадку пераапрацоўкі сыравіны і асабліва ад парадку сельска-гаспадарчых работ па асобных пэрыодах году, г. зн., па прынцыпу сэзоннасьці;

6) пры вызначэньні характару работы для дзяцей трэба ўлічваць іх узрост і агульную здольнасьць, падбіраючы для іх толькі пасільныя работы;

7) самы падбор работы для вучняў павінен быць падпарадкаваны не гаспадарчым мэтам, а выключна задачам комуністычнага выхаваньня;

8) работы, якія шкодны для здароўя, не павінны даручацца вучням; прынцып аховы працы і гігіены тут трэба выконваць строга, няўхільна і настойліва;

9) дзеці павінны быць заняты ня стольκі фізычнай працай, сколькі працай за ўдасканаленымі мэханізмамі, аўтоматамі-машынамі;

10) праца ў вытворчасьці павінна быць увязана з програмай выкладаньня ў школе;

11) чаргаваньне фізычнай і разумовай працы павінна быць прыстасавана да ўмоў вытворчасьці, з аднаго боку, і да псыхолёгічных асаблівасьцяй вучняў, з другога боку. Паказанае чаргаваньне можа быць двух відаў: ці па гадзінах аднаго і таго-ж дня, ці па цыклях на працягу пэўнага часу. Калі чаргаваньне фізычнай і разумовай працы адбываецца на працягу аднаго і таго-ж дня, тады лепш працоўны дзень пачынаць з разумовай працы, пад якою разумеюцца заняткі ў школе, а потым, у другую палову дня, трэба перайсьці да фізычнай працы, якая адбываецца на полі ці на фабрыцы. Адваротны парадак немэтазгодны таму, што пасьля фізычнай працы вучні зморваюцца, і ім цяжка сконцэнтроўваць сваю ўвагу на прапрацоўцы розных тэорытычных пытаньняў у школе. Пасьля разумовай працы, зразумела, бывае таксама зморанасьць, але-ж апошняя не перашкаджае рабоце на полі ці на фабрыцы па тэй прычыне, што ўжо сама перамена работы, пераходы па розных цэхах заводу, прабываньне на сьвежым паветры ў часе сельска-гаспадарчых работ садзейнічае ажыцьцяўленьню заняткаў і паслабленьню зморанасьці. Аднак, у сельскай гаспадарцы бываюць выпадкі, калі трэба займацца фізычнай працай абавязкова ня ў другую палову дня, а ў першую, раніцаю. Тады мэтазгодна ўстанавіць чаргаваньне па цыклях. Скажам, тыдзень ці два вучні займаюцца кожны дзень толькі сельска-гаспадарчай работай, а другі тыдзень ці два працуюць толькі ў школе, сыстэматызуючы і абагульваючы сабраны матар'ял на вытворчасьці. Працяглясьць гэтых цыкляў бывае розная ў залежнасьці ад падрыхтоўкі вучняў і складанасьці заданьняў. Але-ж трэба імкнуцца да таго, каб ня было надта вялікіх цыкляў (па трох тыднях і па месяцу), бо ў такіх выпадках ёсьць пагроза, што дзеці, выконваючы заданьні па данаму цыклю, будуць забываць тое, што яны вывучылі ці прапрацавалі па ранейшаму цыклю. Для сельскай гаспадаркі цыклявая сыстэма чаргаваньня, напэўна, больш падыходзіць, чым пасутачная, тым часам як для індустрыйных прадпрыемстваў, наадварот, больш падыходзіць пасутачная сыстэма, чым цыклявая.

У мэтах удзелу ў вытворчасьці вучні павінны быць разьмеркаваны па пэўных групах. Лепш за ўсё тут карыстацца зьвеньнявой сыстэмай, якая ўжываецца ў піонэрскіх організацыях.

Колькасьць вучняў ў кожным зьвяне не павінна перавышаць 10 чалавек. Могуць быць выпадкі, калі трэба ўкомплектоўваць зьвеньні па 5 чалавек. Кожнае зьвяно павінна мець перад сабою пэўную задачу па вытворчай і грамадзкай рабоце. Адны зьвеньні могуць быць заняты сартыроўкай і ачысткай насеньня, другія—ворывам, трэція—пасевам збожжа, чацьвертыя—удзельнічаць на пасяджэньні рабачкому ці экономнарады і г. д. На кожны від работы можа быць намечана некалькі зьвеньняў розных школьных груп. Разьмеркаваньне дзяцей па зьвеньнях павінна быць добраахвотным, але-ж удзел ў рабоце таго ці іншага зьвяна для кожнага вучня зьяўляецца абавязковым.

Для таго, каб разьмеркаваньне зьвеньняў па розных відах работы ў саўгасе і колгасе мела плянавы характар і ня было тут беспарадку, трэба організаваць асобную комісію, якая складалася-б з прад-

стаўнікоў школы, гаспадарчых органаў і колгассаюзу. Гэта комісія павінна існаваць пры кіраўнічым органе саўгасу і колгасу.

Ці трэба ўтвараць пры школе майстэрні і зямельныя дзялянкі ў саўгасах і ў раёне суцэльнай колектывізацыі? Паколькі школа павінна вывучаць саўгас і колгас у іх непасрэдных асаблівасьцях, гэтыя гаспадаркі павінны прадаставіць школе ўсе мажлівасьці для правільнай організацыі політэхнічнага выхаваньня. Яны зьяўляюцца свайго роду жыцьцёвымі лябораторыямі, дзе вучні павінны працаваць, дасьледваць, экспэрымэнтаваць.

Паколькі саўгас і колгас, якія спарадзілі ўмовы для політэхнічнай школы, зьяўляюцца ў сваю чаргу непасрэдным об'ектам яе вывучэньня, утвараць майстэрні і зямельныя дзялянкі пры школе зараз непатрэбна і нават шкодна.

Замест таго, каб трымаць дзяцей у сфэры колектыўнай дзейнасьці сельскагаспадарчых рабочых і колгасьнікаў, мы ізолявалі-б іх ад супрацоўнага жыцьця саўгасаў і колгасаў, калі-б пачалі займацца працоўным выхаваньнем у майстэрнях і на прышкольных вучастках.

Кажучы аб процэсе працы, Маркс адзначае наступныя яго моманты: 1) мэтазгодную дзейнасьць; 2) прадмет, на які дзейнічае праца і 3) сродкі вытворчасьці, якімі яна дзейнічае. Усе гэтыя моманты існуюць у саўгасах і колгасах. Адносна мэтазгоднай дзейнасьці Маркс піша: «Павук робіць опэрацыі, якія напамінаюць опэрацыі ткача, і пчала пабудовай сваіх васкавых ячэек пасрамляе некаторых людзей-архітэктараў. Але і самы дрэнны архітэктар ад найлепшай пчалы з самага пачатку адрозьніваецца тым, што раней, чым будаваць ячэйку з воску, ён ужо пабудаваў яе ў сваёй галаве. У канцы процэсу працы атрымоўваецца вынік, які ўжо перад пачаткам гэтага процэсу меўся ідэальна, г. зн. ва ўяўленьні работніка. Ён ня толькі мяняе форму таго, што дадзена прыродай: у тым, што дадзена прыродай, ён ажыцьцяўляе ў той-жа час і сваю сьвядомую мэту, якая як закон вызначае спосаб і характар яго дзеяньняў і якой ён павінен падпарадкаваць сваю волю». [1]). Прасачыць, як сьвядома мы мяняем форму таго, што дадзена прыродай, як мы змагаемся з прыродай і падпарадкуем яе сваёй волі праз організацыю колектыўнай гаспадаркі, зьяўляецца важнейшай задачай політэхнічнага выхаваньня. Такім чынам колектыўная сельская гаспадарка выступае перад намі, як спосаб клясавай барацьбы і як сродак падпарадкаваньня прыроднай стыхіі патрэбам грамадзкага чалавека. Характар мэтазгоднай дзейнасьці дзеці могуць зразумець на прыкладах вынаходства і конструкцыйнай работы і пераважна накіраваных на рацыяналізацыю соцыялістычнай вытворчасьці. Агульным прадметам працы чалавека спачатку зьяўляецца зямля і наогул уся прырода. Але потым зямля, калі яна пачынае даваць чалавеку сродкі вытворчасьці (напр., камень у якасьці кідальнай зброі ці сякеры, кавалак дрэва ў якасьці лука і стралы і г. д.), сама ператвараецца праз процэс земляробства ў сродкі працы. Прасачыць гэты дыялектычны пераход зямлі з аднаго становішча ў другое—з прадмету працы ў сродкі вытворчасьці ў конкрэтных умовах колектывізацыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца неабходнай працай нашых вучняў. Сродкі вытворчасьці саўгасаў і колгасаў павінны паказаць, як конкрэтна чалавек прыстасоўвае да сваіх патрэб матэрыю прыроды, як ён контролюе і рэгулюе абмен матэрый паміж сабою і прыродай: «Сродкі працы,—піша Маркс,—ёсьць прадмет ці комплекс (згушчэньне) прадметаў, якія рабочы зьмяшчае паміж сабой і прадметам працы і якія служаць для яго ў якасьці правадніка яго ўзьдзеяньняў на гэты прадмет. Ён карыстаецца мэханічнымі, фізычнымі, хэмічнымі ўласьцівасьцямі цел для таго, каб у адпаведнасьці з сваёй мэтай прымусіць іх як сілы дзейнічаць на другія целы». [2]) Далей Маркс паказвае, што «Экономічныя эпохі адрозьніваюцца ня тым, што вырабляецца, а тым, як выробляецца, якімі сродкамі працы», што «сродкі працы зьяўляюцца паказальнікамі тых грамадзкіх адносін, пры якіх ад-

---

[1]) К. Маркс: „Капитал“ т. I. Под ред. Рязанова и Степанова. Госиздат. М. Л. 1923. Стар. 149.

[1]) Там-жа, стар. 150.

бываецца праца», [1]) і што, урэшце, з усіх сродкаў вытворчасьці найбольш характэрнымі для пэўнай гісторычнай эпохі зьяўляюцца мэханічныя сродкі. Адсюль відаць, якое важнае значэньне мае вывучэньне тэхнікі вытворчасьці ў саўгасах і колгасах, бо па характару гэтай тэхнікі можна часткова меркаваць і аб сутнасьці нашай эпохі. Калі вывучаецца пытаньне, аб продукцыі нашых социялістычных прадпрыемстваў, трэба зьвярнуць увагу вучняў на тое, што «продукт працэсу працы ёсьць матэрыя прыроды, якая прыстасавана да чалавечых патрэб шляхам зьмены формы», што ў продукце праца злучылася з прадметам працы, што «яна тут набыла форму рэчы, а прадмет падпаў апрацоўцы». Такім чынам вытворчы процэс у саўгасах і колгасах павінен разглядацца ў сьвятле ўзьдзеяньня грамадзкага чалавека на прыроду як на прадмет яго працы, праз скарыстаньне пэўных сродкаў вытворчасьці, якія зьяўляюцца правадніком гэтага ўзьдзеяньня.

Побач з найноўшай тэхнікай мы сустракаем у саўгасах і колгасах і адміраючыя сродкі працы, якія характэрны для мінулых гісторычных эпох. Вывучаючы найноўшую тэхніку, дзеці павінны зацікавіцца і тым, як узьнікла гэта тэхніка. Кожная машына мае тры часткі: рухавік, перадатачны мэханізм і рабочую частку. Кожная частка машыны мае сваю гісторыю. Вывучэньне тэхнікі павінна ісьці па дзьвюх лініях: па лініі конструкцыі і гісторыі машыны. Аналіз трэба пачынаць з конструкцыі, ня гледзячы на тое, што яна часамі зьяўляецца складаным об'ектам вывучэньня. Пры гэтым, тут недастаткова ўстанавіць толькі асаблівасьці кожнай часткі машыны паасобку, але-ж трэба зьвярнуць увагу і на ўзаемаадносіны паміж гэтымі часткамі. Без падкрэсьліваньня сувязі і ўзаемаадносін паміж паасобнымі элемэнтамі машыны нельга зразумець ні якаснай асаблівасьці кожнага элемэнту, ні сутнасьці самой машыны. Напрыклад, сэнс перадатачнага мэханізму можна ўцяміць толькі ў сувязі з рухавіком і рабочай часткай машыны, сэнс розных валікаў, шасьцерань, шарніраў, эксцэнтрыкаў і г. д. можна ўсьвядоміць ня толькі ў сувязі іх паміж сабою, але-ж ў сьвятле агульнай конструкцыі перадатачнага мэханізму. Сэнс усёй машыны можна зразумець толькі ў сыстэме вытворчасьці на даным прадпрыемстве, так сама як сэнс прадпрыемства можна зразумець толькі ў сыстэме гаспадаркі данай краіны.

Пры вывучэньні конструкцыі машыны неабавязкова зварочваць увагу на кожную дэталь: досыць будзе, калі абмежавацца тут важнейшымі часткамі. Пры гэтым, на розных ступенях політэхнічнай школы паказаныя часткі павінны разглядацца ў неаднолькавым аб'ёме іх адзнакаў. Дзеці малодшых груп будуць падыходзіць да машыны больш прымітыўна і элемэнтарна, чым дарослыя вучні. Трэба дачакацца, каб вучні зьвярнулі ўвагу на перадачу руху ад аднэй часткі машыны да другой і на пераходы аднаго віду тэорыі ў другую—электрычнай у цеплавую, цеплавой у мэханічную і г. д.

Ад конструкцыі машыны трэба перайсьці да гісторыі. Дзеці павінны ўбачыць у кожнай новай конструкцыі мэханізму элемэнты папярэдніх конструкцый, а таксама пераходы адных элемэнтаў у другія.

Калі зьвярнуцца да гісторыі рухавіка, дык тут можна намеціць такія пераходы: чалавек, як рухавік, вецер, вада і наогул сілы прыроды, жывёлы (конь ды інш.), паравы рухавік, рухавік унутранага згараньня і электрычнасьць. Усе гэтыя living рознавіднасьці рухавіка можна сустрэць амаль што ў кожным саўгасе і колгасе. Напрыклад, ручны ткацкі варштат ці ручная швейная машына прыводзіцца ў рух непасрэдна чалавекам, вятрак—сілаю ветра, вадзяны млын ці нават турбіна на электрастанцыі—сілай вады, звычайны плуг ці калёсы—сілай каня і г. д. Усё гэта дзеці могуць назіраць непасрэдна ў сельскай гаспадарцы. Тут важна толькі, каб яны правільна зразумелі тое, якая рознавіднасьць рухавіка ўвязваецца з тэй ці іншай гісторычнай эпохай. Дзеці павінны ўцяміць, што для нашага часу характэрнымі рухавікамі зьяўляюцца пара, мотор унутранага згараньня і электрычнасьць, будучае належыць электрычнасьці. Работу пары яны могуць вы-

[1]) Там-жа. Стар. 151.

вучаць на чыгунцы ці на лёкомобілях, якія прыводзяць у рух паравыя турбіны электрастанцыі. Прынцыпы пабудовы паравога катла даюць конкрэтнае ўяўленьне аб тым, як цеплавая энэргія ператвараецца у мэханічную праз скарыстаньне высокага ціску пары, што ўтворана пры высокай тэмпэратуры шляхам ператварэньня вады ў газ. Дзеці павінны навучыцца рысаваць схэмы і рабіць модэль паравога катла.

Лепш за ўсё можна азнаёміцца з дзейнасьцю паравой машыны на электрастанцыі, калі апошняя прыводзіцца ў рух шляхам паравога рухавіка. Тады тут прапрацоўваюцца вучнямі наступныя галоўныя моманты:

1) паравы кацёл з прыладамі—топка, манометр, забясьпечны кляпан, вадамернае шкло;

2) парапровод;

3) паравы рухавік з часткамі—валік, поршань і шкалка;

4) сальнік, шатун, потым і маховое кола, умацованае на падшыпніках. Паравыя лёкомобілі характарызуюцца тым, што ў іх паравы кацёл і рухавік злучаны ў адно цэлае, прадстаўляючы сабою агульную машыну. Дзеці павінны аўладаць элемэнтарнымі прыёмамі догляду за паравой машынай і вырашаць самыя простыя тэхнічныя задачы. Возьмем для прыкладу такую задачу. У рухавікох лёкомобіляў магутнасьцю да 33 конскіх сіл на 1 конскую сілу-гадзіну траціцца столькі пары, колькі яе атрымоўваецца з 14 клгр. вады; у рухавікох з магутнасьцю ад 35 да 200 конскіх сіл траціцца на 1 конскую сілу-гадзіну столькі пары, колькі яе атрымоўваецца з $7\frac{1}{2}$ кгр. вады. Пры наяўнасьці на станцыі лёкомобілю ў 150 конскіх сіл і пры ўмове яго работы на працягу сутак у 16 гадз. гэты лёкомобіль зробіць работу ў 2400 конскіх сілгадзін і страціць вады $(7\frac{1}{2} \times 2400) =$ 18.000 клгр. Таксама можна вылічыць трату змазачнага масла для лёкомобіляў, калі ведаць, што для лёкомобіляў у 33 конскіх сілы трэба на 1 конскую сілу ў гадзіну валікавага масла 3 грамы і машыновага масла 5 гр., а для лёкомобіляў ад 50 да 200 конскіх сіл пры тых-жа умовах трэба валікавага масла 1 грам і машыновага—2 грамы. Пры вылічэньні апалу для лёкомобіляў можна карыстацца табліцай: [1])

| Траціцца на 1 конскую сілу-гадзіну | Лёкомобіль | |
|---|---|---|
| | Магутн. да 30 к. с. | Магутн. ад 50 да 220 к. с. |
| | у грамах | |
| 1) Каменны вугаль . . | 1700 | 1100 |
| 1) Сухі торп . . . . . | 3700 | 2400 |
| 3) Дровы сухія бярозавыя ці сасновыя . . | 3800 | 2600 |
| 4) Апілкі драўляныя . | 4000 | 3000 |
| 5) Сухая салома . . . | 5900 | 4000 |

Гэткія задачы даволі простыя, і яны па сіле нашым вучням. Пасьля паравой машыны можна вывучыць рухавік унутранага згараньня. Тут перш за ўсё трэба скарыстаць трактар ці зноў электрастанцыю, калі апошняя прыводзіцца ў рух рухавікамі ўнутранага згараньня. Трактар зьяўляецца надта складанай машынай, і падрабязна яго вывучыць дзеці, зразумела, ня здолеюць. Тут трэба спыніцца толькі на галоўных момантах. Трактар мае важнейшыя часткі: рухавік з прыладамі, перадатачны мэханізм, стырно, раму і ходавую частку (колы ці гусеніцы). Рухавік складаецца з цэлага шэрагу частак—валікі, поршні ,шатуны, кляпаны, каленчаты вал і г. д. Сюды-ж адносяцца яшчэ радыятар, парбюратар, магнэто, прылады для змазкі ды інш. Дзеці павінны ўцяміць, што ў рухавіку спальваецца гаручы матар'ял—нафта, газа, бэнзін, што рухавік прыводзіць у рух каленчаты вал, ад якога рух перадаецца праз перадатачны мэханізм на заднія колы ці наогул на ўсе чатыры колы, і што моторы бываюць двух і чатырох-тахтныя ў залежнасьці ад суадносін выбухаў гаручага матар'ялу ў моторы з парадкам круценьня каленчатага валу. Асабліва трэба зьвярнуць увагу дзяцей на сутнасьць радыятара, задача якога ахаладжваць рухавік у часе работы, а таксама на сутнасьці карбюратара, дзе гаручы матар'ял ператвараецца ў газ, і, урэшце, на магнэто, якое зьяўляецца электрычнай машынай для запальваньня гаручай мешаніны

---

[1]) А. А. Кушновский. „Устройство сельской электростанции“: Госиздат М. Л. 1928. Стар. 46-47.

ў валіках рухавіка, праз электрычны струмень. Вельмі важна, каб дзеці навучыліся карыстацца змазачнымі прыладамі, а таксама кіраваць стырном. Далей трэба спыніцца на розных відах трактараў, якія ўжываюцца ў сельскай гаспадарцы для рознага характару работ— агародных, садовых, палявых, лясных і г. д. Трэба прасачыць работу трактара ў часе ворыва, баранаваньня, пасеву, сенажаці, жніва, перавозкі хлеба ды інш.

Пасьля вывучэньня трактара трэба перайсьці да электрычнасьці. Тут об'ектам вывучэньня будзе электрастанцыя. Дзеці павінны азнаёміцца з тым, што электрастанцыі бываюць гідраэлектрычнымі (вадзянымі), паравымі і нафтавымі па характару мэханічнага рухавіка. Вывучэньне электрастанцыі павінна адбывацца паступова, па частках: мэханічны рухавік, дынамо-машына, разьмеркавальная дошка, трансформатары, правады, ізолятары і вымерваючыя прылады—вольтмэр, ампэрмэтр і г. д. Цэнтральным пунктам тут будзе дынамо-машына (генэратар), якая складаецца з дзьвюх частак: нярухомай—статора і рухомай—ратора. Дзеці павінны ўцяміць, як утвараецца электрычны струмень і чаму ён падзяляецца на сталы і пераменны. Пасьля таго, як вывучана электрастанцыя, трэба азнаёміцца з ужываньнем электрычнасьці ў саўгасах і колгасах. Тут могуць быць такія прыклады—электраплуг, прывядзеньне ў рух электрычнасьцю веялкі, сартыроўкі, трыера, саламарэзкі, корнярэзкі, сэпаратара, маслабойкі, помпы для вады, электрычныя даільныя прылады, награвальныя прылады—інкубатар, печ, паяльнік і г. д. Усё гэтыя машыны зьяўляюцца даступнымі для дзяцей як па сваёй конструкцыі, гэтак і па характару вытворчых опэрацый, неабходных для іх абслугоўваньня.

Важную галіну політэхнічнага выхаваньня складае вывучэньне расьліны, жывёлы і зямлі з усімі яе асаблівасьцямі. Тут можна сабраць вялізарны матар'ял па прыродазнаўству і хэміі. Увага дзяцей павінна быць накіравана на парадак і мэтоды скарыстаньня ўгнаеньня, на сэлекцыю, на аналіз глебы, на вызначэньне мэтэоролёгічных зьяў, на гадоўлю птушак і жывёл.

Урэшце, трэба сконцэнтраваць увагу дзяцей на вывучэньні характару продукцыі, на парадку яе скарыстаньня і мэтодах яе пераапрацоўкі. У сувязі з пераапрацоўкай сельска-гаспадарчай сыравіны вучні павінны папрацаваць на заводах маслабойных, вінакураных, скураных, на тэкстыльнай фабрыцы і г. д.

Пры разгортваньні політэхнічнага выхаваньня нельга забывацца і на тое, што вучні павінны актыўна ўдзельнічаць у грамадзкіх організацыях і вывучаць дзейнасьць кіруючых органаў саўгасаў і колгасаў.

У кароткім артыкуле нельга вычарпаць усю проблему політэхнічнага выхаваньня ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі. Мы імкнуліся намеціць важнейшыя моманты гэтага выхаваньня толькі ў агульных рысах. Програмы, якія зараз пераапрацоўваюцца, павінны даць конкрэтны матар'ял па організацыі політэхнічнага выхаваньня ў кожнай групе нашай школы.

Узьнікае пытаньне, ці могуць вучні справіцца з вырашэньнем тых складаных задач, якія высоўваюцца соцыялістычнай вытворчасьцю? Вопыт некаторых перадавых савецкіх школ паказвае, што з гэтымі задачамі можа справіцца любая масавая школа. Толькі трэба ўмець правільна выбраць об'ект, організаваць дзіцячую працу, улічыць асаблівасьці дзяцей пры выхаваньні, увязваць школьную програму з вытворчай дзейнасьцю вучнёўскага колектыву і ўсё гэта падпарадкаваць задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Прывядзём некалькі прыкладаў адносна таго, як наша школа ў БССР прымае ўдзел у вытворчай і грамадзкай працы на вёсцы. У газэце «Піонэр Беларусі» за 1930 г. мы чытаем наступнае:

«Капаткевіцкая сямігодка ўзяла шэфства над бліжэйшым колгасам. Для таго, каб лепш скарыстаць свае сілы, організаваны брыгады з вучняў. Кожная брыгада выходзіць у колгас з конкрэтным заданьнем па тым, альбо іншым пытаньні. Напрыклад, брыгада па збору попелу сабрала для колгасу 100 пуд. попелу, брыгада па абагульненьню жывёлы ўжо абагуліла ўсю жывёлу ў колгасе» (Дзяткор Гай)

«Вучні Расосенскай сямігодкі наладзілі суботнік у дапамогу комуне «Комуністычны шлях». Мы там рабілі кармушкі, вазілі сена, малацілі збожжа і пасьля яго ачысьцілі». (Краўцоў).

«Піонэрская брыгада колгасу «Орка» сабрала на вёсцы 50 пудоў попелу і ссыпала ў адзін засек. Цяпер піонэры дапамагаюць колгасьнікам чысьціць збожжа. Яны стаяць па чарзе ля трыера, круцяць яго, насыпаюць насеньне. Піонэры старэйшага зьвяна дапамагаюць рамантаваць канюшні». (Васіль).

«Сьвіслацкая сямігодка (Бабруйскае акругі) рыхтуецца да веснавой сяўбы. Усе піонэры і школьнікі вышлі на тры дні ў сельсаветы раёну. За гэтыя тры дні праведзены на вёсках 21 сход па пытаньні веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі і 9 вечароў. Да зернаачышчальных абозаў былі прымацаваны школьнікі, якія працавалі ў тры зьвяны. Усяго ачысьцілі 4.800 пуд. збожжа і сабралі 85 пуд. попелу. На трактарную колёну сабралі 39 р.». (Дзяткоры Вэрнштэйн і Длентух).

«Прудоўскі дзіцячы колгас... організаваў зернаачышчальны абоз, адсартаваў гаспадаркам беднаты і серадняком 66½ цэнтнэраў насеньня ў вясновую кампанію мінулага году і 45 цэнт. у васеньнюю кампанію, пратруціўшы формалінам 50 цэнтнэраў насеньня... На сваім агародзе вырасьцілі 1500 качаноў капусты, некаторыя з іх былі вагою ў 11 кілёграм. Вырасьцілі 60 цэнт. бульбы, 17 цэнт. кармовых буракоў вагою да 4 кілёгр. кожны бурак...».

«Вучні і піонэры Дукорскай сямігодкі прынялі актыўны ўдзел у перавыбарах сельсавету. Мы організавалі 14 брыгад і прымацавалі кожную з іх да насельнага пункту свайго сельсавету. У брыгадзе налічвалася па 20 чалавек. Мы пісалі і разносілі позвы, малявалі лёзунгі, плякаты і вывешвалі іх. Дзякуючы актыўнай працы на сходы прыходзілі ўсе выбаршчыкі». (Г. Фрыд).

Гэтых прыкладаў дастаткова для таго, каб паказаць, што школа ў БССР ужо прымае актыўны ўдзел у вытворчай і грамадзкай рабоце на вёсцы, у саўгасах і колгасах. Удзел жа вучняў у клясавай барацьбе і соцыялістычным будаўніцтве і ёсьць аснова політэхнічнага выхаваньня.

---

Н. А. ДАРОЖКІН

# СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧУЮ АСЬВЕТУ НА НОВЫЯ РЭЙКІ

Значэньне і роля сельска-гаспадарчай асьветы ва ўмовах соцыялістычнай рэконструкцыі, індустрыялізацыі ўсёй нашай народнай гаспадаркі, ва ўмовах, калі цэлыя раёны зьяўляюцца раёнамі суцэльнай колектывізацыі, прадстаўляюцца асабліва грандыёзнымі.

Зусім бясспрэчна, што агрономічная няпісьменнасьць альбо малапісьменнасьць ставяць працаўніка ў галіне сельскай гаспадаркі па-за межамі грандыёзных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Тое, што справа сярэдняй сельска-гаспадарчай асьветы ў нас у БССР пастаўлена дрэнна, даўно ўстаноўлены факт.

Шматразовая пераапрацоўка навучальных плянаў сельска-гаспадарчых тэхнікумаў нічога па сутнасьці не дала, бо гэтыя пляны перакройваліся чыста мэханічна, усё зводзілася да скарачэньня гадзін адных прадметаў, да павялічэньня па другіх. Мэтавая ўстаноўка навучальных плянаў была выключна прыстасавана да падрыхтоўкі спэцыяліста для індывідуальнага сэктару сельскае гаспадаркі.

У асноўным недахопы старых навучальных плянаў і програм былі наступныя: 1) шматпрадметнасьць; 2) адсутнасьць належнага мінімуму марксыцка-ленінскіх дысцыплін; 3) адарванасьць школы ад вытворчасьці; 4) адсутнасьць сувязі прыродазнаўчых прадметаў з спэцыяльнымі; 5) програмы па экономічна-організацыйнаму цыклю былі складзены па падручніках і прынцыпах нэонароднікаў.

Усё гэта адпавядала, як я ўжо зазначаў, старой мэтавай устаноўцы—рыхта-

ваць спэцыяліста для індывідуальнага сэктара сельскае гаспадаркі, для хутарской кулацкай гаспадаркі.

Таму асноўная задача была—пераапрацаваць навучальныя пляны, аслабаніць іх ад шматпрадметнасьці, павялічыўшы марксыцка-ленінскія дысцыпліны, наблізіць, зьвязаць школу з вытворчасьцю, у сувязі з гэтым грунтоўна пераапрацаваць програмы з тым, каб рыхтаваць спэцыяліста для буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Цяпер разгледзім, як і што мы зрабілі.

**Навучальныя пляны с.-г. тэхнікумаў**

Пры складаньні навучальных плянаў у аснову былі пакладзены вузкая спэцыялізацыя, якой патрабуе буйная соцыялістычная сельская гаспадарка (саўгасы, колгасы), зьнішчэньне шматпрадметнасьці, забясьпечаньне марксыцка-ленінскімі дысцыплінамі і ўвядзеньне спэцыялізацыі, пачынаючы з 1-га курсу. Што датычыцца тэрміну навучаньня, дык ён быў устаноўлены Саюзным СНК ад 13/1 30 г.

Для выкананьня паказаных задач навукова-мэтодолёгічным комітэтам НКА былі выпрацаваны наступныя прынцыпы для складаньня навучальных плянаў сельска-гаспадарчых тэхнікумаў.

**Прынцыпы навучальнага пляну для сельска-гаспадарчых тэхнікумаў**

(3 гады $\times$ 10 м. $\times$ 24 д. $\times$ 8 гадз. $=$ 5760)

| Назва дысцыплін | Лік гадзін | | | | | | Разам | % да тэорытыч. часткі навучальнага пляну |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I курс | | II курс | | III курс | | | |
| | У тыдз. | У год | У тыдз. | У год | У тыдз. | У год | | |
| Грамадазнаўства (сюды ўваходзіць і літаратура) | 12 | 360 | 10 | 300 | 6 | 180 | 840 | 29,2 |
| Прыродазнаўча-матэматычныя | 14 | 420 | 10 | 300 | — | — | 720 | 25 |
| Спэцыяльныя | 4 | 120 | 10 | 300 | 24 | 720 | 1140 | 39,6 |
| Разам... | 30 | 900 | 30 | 900 | 30 | 900 | 2700 | 93,8 |
| Фізвых і ваенізацыя. | 2 | 60 | 2 | 60 | 2 | 60 | 180 | 6,3 |
| Разам... | 32 | 960 | 32 | 960 | 32 | 960 | 2880 | 100 |
| Вытворчая практыка | 32 | 960 | 32 | 960 | 32 | 960 | 2880 | — |
| Усяго... | 32 | 1920 | 32 | 1920 | 32 | 1920 | 5760 | — |

Увагі: 1. Прыродазнаўча-матэматычныя прадметы (фізыка, хэмія) павінны будавацца з набліжэньнем да спэцыяльных прадметаў.

2. Спэцыяльныя прадметы падзяляюцца на агульна-спэцыяльныя і вузка-спэцыяльныя 2 : 3, з нязначным адхіленьнем у той або іншы бок ў залежнасьці ад характару данай установы.

3. Вытворчая практыка адбываецца ў школьнай гаспадарцы, у саўгасах і колгасах. 1-ы год—агульная практыка, 2-гі і 3-ці—выключна па вузкай спэцыяльнасьці.

З гэтых прынцыпаў можна бачыць, што спэцыялізацыя пачынаецца з першага курсу, што марксыцка-ленінскія дысцыпліны разьмеркаваны па ўсіх курсах і г. д.

Для таго, каб паказаць рэзкую розьніцу выпрацаваных навучальных плянаў ад раней існаваўшых, для прыкладу возьмем навучальны плян сельска-гаспадарчага тэхнікуму імя Цурупы ў Барысаве.

Па навучальным пляне 1928 г. Стара-Барысаўскага сельска-гаспадарчага тэхнікуму быў 31 прадмет. Грамадзкі цыкль складаў 14-15%, спэцыялізацыя пачыналася з 3-га курсу. Такім чынам гэта была па сутнасьці агульнаадукацыйная школа, без належнай марксыцка-ленінскай падрыхтоўкі.

Па выпрацаванаму навучальнаму пляну на 1929-30 г. маем 20 прадметаў. Грамадзкі цыкль складаў 29%, спэцыялізацыя пачынаецца з першага курсу. У гэтым навучальным пляне ў організацыйна-экономічны цыкль уведзена конкрэтная экономіка. Напрыклад, на аддзяленьні сьвінаводзтва ўведзен прадмет экономіка сьвінаводзтва і г. д.

Гэты прыклад зьяўляецца лепшым паказальнікам розьніцы паміж раней існаваўшым навучальным плянам і сучасным.

**Тэхнікумы і вытворчасьць**

Як агульнае правіла, раней школа была зусім адарвана ад вытворчасьці; ня ведаючы яе, яна не магла справіцца з ускладзенымі абавязкамі.

Школа павінна быць органічна зьвязана з вытворчасьцю.

Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове адзначыў па гэтым пы-

таньні... «*рашуча пазбавіцца ад элемэнтаў формалізму ды неорганізаванасьці ў правядзеньні бесьперапыннай вытворчай практыкі і забясьпечыць пасьпяховае яе правядзеньне, як сыстэмы і формы вытворчага навучаньня. Палепшыць органічную сувязь органаў прамысловасьці (прадпрыемстваў, трэстаў ды іншых аб'ядnаньняў) з вышэйшымі тэхнічнымі навучальнымі ўстановамі, тэхнікумамі і навукова-тэхнічнымі інстытутамі ў справе падрыхтоўкі новых спэцыялістых*»; у другім месцы тае-ж пастановы гаворыцца: «*рашучае пашырэньне і якаснае палепшаньне вытворчай практыкі, павялічэньне тэрмінаў вытворчай практыкі з давядзеньнем колькасьці часу, які аддаецца* вытворчаму навучаньню, да *40-50%, устанаўленьне чаргаваньня тэорытычнага навучаньня з вытворчай практыкай на прадпрыемстве, прыстасавальна да асобных галін вытворчасьці—з больш доўгім тэрмінам на прадпрыемстве*».

Для выкананьня пастаноў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) устаноўлены суадносіны тэорыі з практыкай, як 1:1 (5 месяцаў кожны год тэорыі і 5 месяцаў практыкі). Пэрыоды чаргаваньня практыкі і тэорытычнага навучаньня прыстасаваны да асаблівасьцяй вытворчасьці данай спэцыяльнасьці. Гэта яскрава можна прасачыць на наступных прыкладах.

## 1. Барысаўскі тэхнікум жывёлагадоўлі

Тэрмін прыёму ў Стара-Барысаўскі жывёлагадоўчы тэхнікум устанаўляецца наступны: 15 красавіка і 1 жніўня, штогодна.

Для правядзеньня тэорытычнай і практычнай работы разьмеркаваньне па курсах наступнае:

**Прыём 1 жніўня**

| | I курс | II курс | III курс |
|---|---|---|---|
| Тэорыя . . . | з 1/VIII па 15/X | з 1/VIII па 15/X | практыка |
| Практыка . | „ 15/X „ 1/I | „ 15/X „ 1/I | тэорыя |
| Адпачынак | „ 1/I „ 1/II | „ 1/I „ 1/II | адпачынак |
| Тэорыя . . . | „ 1/II „ 15/IV | „ 1/II „ 15/IV | практыка |
| Практыка . | „ 15/IV „ 1/VII | „ 15/IV „ 1/VII | тэорыя |
| Адпачынак | „ 1/VII „ 1/VIII | „ 1/VII „ 1/VIII | адпачынак |

**Прыём 15 красавіка**

| | I курс | II курс | III курс |
|---|---|---|---|
| Тэорыя . . . | з 15/IV па 1/VII | з 15/IV па 1/VII | практыка |
| Практыка . | „ 1/VII „ 15/IX | „ 1/VII „ 15/IX | тэорыя |
| Адпачынак | „ 15/IX „ 15/X | „ 15/IX „ 15/X | адпачынак |
| Тэорыя . . . | „ 15/X „ 1/I | „ 15/X „ 1/I | практыка |
| Практыка . | „ 1/I „ 15/III | „ 1/I „ 15/III | тэорыя |
| Адпачынак | „ 15/III „ 15/IV | „ 15/III „ 15/IV | адпачынак |

## 2. Каніцкі тэхнікум паляводзтва.

**Плян правядзеньня прыёму ў тэхнікум колектыўнага земляробства і вучэбных заняткаў у сувязі з бесьперапыннай вытворчай практыкай.**

I. Колькасьць прыёму ў тэхнікум:

| | |
|---|---|
| на аддзяленьне збожжавых культур з травасеяньнем . . . . . . . . . . . | 120 асоб. |
| на аддзяленьне корня-клубняплодаў . . . . . . . . . . . . . . . . | 120 » |
| Разам . | 240 асоб. |

2. Набор у тэхнікум на абодва аддзяленьні правесьці ў ліпені м-цы з тым, каб 1-га жніўня ўсе аддз. корня-клубняплодаў паслаць на вытворчую практыку на 2,5 месяцы (пэрыод уборкі і захоўваньня корня-клубняплодаў), а з аддз. зернавых культур з травасеяньнем распачаць тэорытычныя заняткі ў тэхнікуме.

Пасьля гэтага заняткі павінны ісьці па наступнаму раскладу:

| ТЭРМІНЫ. | Колькі мес. | Аддз. корня-клубняплод. | | | Аддз. збожжав. культ. і траў. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 курс | 2 курс | 3 курс | 1 курс | 2 курс | 3 курс |
| 1. VIII-15 X | 2,5 | Выт. прак. | Тэорыя . . | Практ. . . | Тэорыя . . | Практ. . . | Тэорыя . |
| 15. X-1. I . | 2,5 | Тэорыя . | Практ. . . | Практ. . . | Практ. . . | Тэорыя . . | Тэорыя . . |
| 1. I-1. II . | 1,0 | Вакацыі . | Практ. . . | Тэорыя . . | Практ. . . | Тэорыя . . | Практ. . . |
| 1. II-15. IV | 2,5 | Тэорыя . . | Тэорыя . | Тэорыя . . | Тэорыя . . | Практ. . . | Практ. . . |
| 15. IV-1.VII | 2,5 | Выт. прак. | | | | | |
| 1. VII-1.VIII | 1,0 | Вакацыі . | | | | | |

### 3. Лужасьнянскі тэхнікум лёну і канапель.

Проект вытворчай практыкі, тэрміны яе адбыцьця ў сувязі з прыёмам два разы ў год і пры бесьперапынным навучальным годзе па Лужасьнянскаму ільнапяньковаму тэхнікуму.

Адчыненьне тэхнікуму мяркуецца з 1-га кастрычніка 1930 г. з двума аддзяленьнямі:

1-ае аддзяленьне—культура лёну і канапель,

2-ае „ першапачатковая апрацоўка ільну і канапель і сартыроўка валакна

Па 1-му аддзяленьню (культура лёну і канапель)

Прыем з 1-15 кастрычніка ў колькасьці 90 чалавек.

| Тэорыя | Практыка. |
|---|---|
| Пачатак з 15 кастрыч. па 1 студзеня, з 1 студзеня па 1 лютага—водпуск, працяг з 1 лютага па 15 красавіка. | Пачатак з 15 красавіка па 1 ліпеня, з 1 ліпеня па 1 жніўня—водпуск, працяг з 1 жніўня па 15 кастрыч. |

Для ўсіх трох курсаў аднолькава.

Па 2-му аддзяленьню (першапачатковая апрацоўка лёну і канапель і сартыроўка валакна).

Прыём з 1-15 красавіка ў колькасьці 90 чалавек.

| Тэорыя. | Практыка. |
|---|---|
| Пачатак з 15 красавіка па 1 ліпеня, з 1 ліпеня па 1 жніўня—водпуск, працяг з 1 жніўня па 15 кастрыч. | Пачатак з 15 кастрыч. па 1 студзеня з 1 студзеня па 1 лютага—водпуск, працяг з 1 лютага па 15 красав. |

Для ўсіх трох курсаў аднолькава.

Чаргаваньне такім парадкам тэорыі з практыкай будучаму спэцыялісту яшчэ на студэнцкай лаўцы дасьць магчымасьць пазнаёміцца і набыць навыкі ў вытворчасьці, вывучыць яе (вытворчасьць), бо ён сваю працу ў вытворчасьці пачне з простага чорнарабочага і павінен закончыць спэцыялістым.

Школа-ж будзе мець цесную органічную сувязь з вытворчасьцю, будзе ў курсе патрэб і запатрабаваньняў вытворчасьці, якія апошняя прад'яўляе да спэцыяліста, і ў такім выпадку будзе хутка выпраўляць недахопы ў падрыхтоўцы спэцыялістаў.

Праўда, трэба адзначыць, што да гэтага часу вытворчыя органы не ўсьвядомілі сабе, што падрыхтоўка спэцыялістаў ёсьць справа ня толькі Наркомасьветы, а справа таксама і вытворчых органаў, таму яшчэ і зараз далёка неахвотна ідуць насустрач Наркомасьветы ў сэнсе прадастаўленьня практыкі студэнтам, дзеля чаго ў паасобных выпадках можа быць зрыў прыведзеных вышэй плянаў.

Складаньне праграм закончыцца на працягу бягучага месяца. Пры складаньні праграм павінны быць улічаны наступныя моманты:

1. Праграма складаецца для падрыхтоўкі спэцыяліста буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі (саўгасы, колгасы).

2. Праграма (па кожнай дысцыпліне) павінна быць пранізана марксызмам-ленінізмам.

3. Праграмы па прыродазнаўчых прадметах павінны быць складзены так, каб спэцыяльныя прадметы зьяўляліся іх працягам.

4. Усе праграмы павінны быць пранізаны элемэнтамі ваенізацыі і антырэлігійнымі.

5. Праграмы павінны быць разьлічаны на праходжаньне іх пры актыўным мэтодзе выкладаньня і пры бесьперапыннай вытворчай практыцы.

Так перабудоўваецца сярэдняя сельска-гаспадарчая асьвета па новаму шляху, у цеснай сувязі з запатрабаваньнем соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

В. Ф. КУПРЭВІЧ

# АГРОНОМІЗАЦЫЯ ШКОЛЫ І ДЗІЦЯЧЫ с.-г. КОЛЕКТЫЎ

Задачы соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі паставілі перад школай ва ўсёй шырыні пытаньне аб яе агрономізацыі. Разам з тым набываюць аграмаднае значэньне задачы выкоўваньня ў вучня звычак колектывізму, падрыхтоўкі організатараў колектыўнай гаспадаркі і організатараў колектыўнай працы.

Для выкананьня гэтых задач, відавочна, трэба перайсьці ад мэтодаў нагляданьня за жыцьцём да мэтодаў актыўнага ўдзелу ў перабудове яго. Пэдагогічны процэс павінен быць пабудаваны на процэсах рэконструкцыі гаспадаркі, а ня толькі на яе вывучэньні. На падставе некаторага вопыту можна сказаць, што ва ўмовах нашай школы выходнымі прадумовамі для організацыі такога процэсу павінны быць наступныя: 1) агрономізацыя настаўніка, 2) належнае выкрыстаньне прышкольнай дзялянкі і актыўны ўдзел школы ў грамадзка-агрономічных мерапрыемствах і 3) організацыя школьнага сельска-гаспадарчага колектыву.

### Пра агрономізацыю настаўніка

Асноўнымі момантамі работы ў гэтым напрамку, па маёй думцы, зьяўляюцца тэорытычная падрыхтоўка, набыцьцё практычных ведаў і звычак і аўладаньне мэтодамі (а часам і зьместам) агрономічнага экспэрымэнту.

Найбольш цяжка стаіць пытаньне з набыцьцём практычных сельска-гаспадарчых звычак і агрономічным экспэрымэнтам. Н. К. асьветы павінен як мага хутчэй прыйсьці на дапамогу настаўніку ў гэтых адносінах праз організацыю курсаў і практыкумаў. Зразумела, бяз сталай агрономізацыі настаўніка зусім немагчыма прыступіць да праводзеньня ў жыцьцё агрономізацыі вучня.

### Агрономізацыя вучня і выкарыстаньне школьнай зямельнай дзялянкі

Сучасныя «політэхнічныя» програмы, па якіх працуе школа, ні ў малай ступені не агрономізаваны. Праведзены ў іх толькі так званы «сельска-гаспадарчы ўхіл». Таму ў першую чаргу для агрономізацыі вучня, шляхам яго ўдзелу ў жыцьці і набыцьця ім адпаведных ведаў і звычак, трэба скласьці *вытворчы* плян па агрономізацыі тэмы з програмы, распрацоўка якой мае адбыцца. Плян можна будаваць паводле такіх разьдзелаў:

а) конкрэтная мэтавая ўстаноўка тэмы;

б) лябораторна-дасьледчая работа (досьледы па апрацоўцы глебы, угнаеньняў, прарошчваньню пры розных умовах, пасеву розным па якасьці насеньнем ды інш.);

в) працоўныя процэсы і звычкі (ачыстка насеньня, рамонт інвэнтару, пасадка, пабудова рассаднікаў і г. д.;

г) экскурсіі;

д) грамадзка-агрономічная работа (растлумачэньне і контроляваньне выкананьня агромінімуму, організацыя выставак, удзел у розных кампаніях ды інш.).

Зразумела, прыведзены падзел вытворчага пляну зьяўляецца штучным і на практыцы павінен выліцца ў адзіны пэдагогічны процэс.

Асноўнай матар'яльнай базай для выкананьня вытворчага пляну, бясспрэчна, павінен зьяўляцца школьны зямельны вучастак. Ва ўмовах жа суцэльнай колектывізацыі матар'яльная база вызначаецца колгасам, напрыклад, колгасны гарод, сад, птушнік, ці што іншае.

Для таго, каб школьны вучастак зьявіўся месцам для набыцьця практычных звычак і ведаў, пры яго організацыі трэба мець на ўвазе наступнае: ён павінен адпавядаць запатрабаваньням усіх груп данае школы, быць сапраўды паказальным, але для гэтага ня хопіць ні сіл, ні сродкаў.

Асаблівае значэньне набывае правільная «разьбіўка» школьнага вучастку. Як

прыклад, ніжэй падаю схэму разьбіўкі школьнага вучастку на плошчы ½ га.

| | Сортаапрабаваньне № 9 | | Высадкі № 10 | |
|---|---|---|---|---|
| Узорныя севазвароты (палявыя) № 1<br>Досьледы з угнаеньнямі № 2<br>Дзічкі № 3<br>Прышчэпы № 4 | Капуста (па ўгнаеньню) | Буракі | Гарох | Бульба (раньнія гатункі) |
| Матачныя пароды дрэў (яблыні, ігрушы, сьлівы, вішні) з пасадкаю агрэсту, парэчак, маліны і клубніц № 5<br>Лекавыя травы № 6<br>Сортаапрабаваньне № 7<br>Высадкі № 8 | Розныя гатункі капусты (салат, шпінат, гуркі па ўгнаеньню) | Кораньплоды, памідоры, цыбуля, часнок, укроп | Гарох, боб, фасоля № 12 | Бульба (раньнія гатункі) |

На ідэальнасьць гэтай схэмы не даводзіцца разьлічваць, але ўсё-ж яна адказвае шмат якім запатрабаваньням. З узорных палявых севазваротаў (вуч. № 1) можна выкарыстаць, напрыклад, валакаламскі 8-мі польны севазварот (1 папар, 2—жыта+канюшына, 3—канюшына 1-га году, 4—канюшына 2-га году, 5—ярына, 6—папар, 7—жыта, 8—ярына). Досыць паказальнымі зьяўляюцца 8-мі і 4-х польныя севазвароты для пяшчаных глеб (1—лубінавы папар, 2—жыта з падсевам сэрадэлі, 3—бульба па гноі, 4—ярына+канюшына, 5—канюшына 1-га году, 6—канюшына 2-га году, 7—жыта, 8—ярына; або 1—лубінавы папар, 2—жыта, 3—бульба па гноі, 4—авёс). Пазбаўленым ад шэрагу недахопаў зьяўляецца севазварот, прыняты на фэрме Ціміразеўскай сельска-гаспадарчай акадэміі. (1—папар, 2—жыта, 3—прапашнае, 4—авёс+канюшына, 5, 6, 7—канюшына, 8—ярына).

## Організацыя дзіцячага сельска-гаспадарчага колектыву

Для выхаваньня організатараў колектыўнай гаспадаркі і работнікаў колектыўных гаспадарак, бясспрэчна, найбольш пэўным сродкам зьяўляецца стала організаваная праца ў колектыве, перад кожным сябрам якога стаяць зусім конкрэтныя задачы. Аднак, вопыту ў гэтым кірунку мы маем вельмі мала. Агульна прынятага палажэньня пра школьныя дзіцячыя колектывы покуль што няма. Няма і адпаведнага статуту. У сувязі з гэтым, я дазволю сабе ніжэй прывесьці распрацаваны мною статут для школьнага дзіцячага колектыву, што організаваны пры Смалявіцкай беларускай сямігодцы.

Пры складаньні статуту я выходзіў з наступных палажэньняў: 1) колектыў організоўваецца па ініцыятыве піонэратраду і працуе пад наглядам раённага бюро Ю. П., 2) асноўнай яго задачай зьяўляецца колектывізацыя вёскі (а ў колгасе—пераход да вышэйшай формы, напр., комуны) і выхаваньне работніка колектыўнай гаспадаркі, 3) канкрэтнасьць мэт і задач перад кожным сябрам колектыву, 4) поўная ўвязка дзейнасьці колектыву з агульным школьным пэдагогічным процэсам, 5) максымальная прастата організацыі працы.

## Статут школьнага дзіцячага сельска-гаспадарчага колектыву (па гародніцтву)

1. Вучні аднае школы, у мэтах вывучэньня рацыянальнай пастаноўкі і перавага колектыўнае гаспадаркі, а таксама набыцьця звычак колектывізму і практычных звычак, організуюць школьны дзіцячы колектыў па гародніцтву.

У раёнах з неколектывізаванай сельскай гаспадаркай асноўнай мэтай колектыву зьяўляецца колектывізацыя мясцовага насельніцтва.

II. Сябрамі колектыву могуць быць дзеці працоўных ад 8 да 16 год. Новыя сябры, згодна іх заяў, (пісьмовых, цівусных) прымаюцца бюро колектыву і зацьвярджаюцца агульным сходам.

III. Сябры колектыву абавязваюцца:

1) Дакладна выконваць усе даручаемыя ім работы, згодна вытворчаму пляну колектыву і заданьням зьвяна.

2) Дакладна выконваць правілы распарадку ў часы працы.

3) Уцягваць у работу на колектыўным гародзе неорганізаваных таварышоў.

4) Агітаваць сярод дзяцей працоўных за 100% уступленьне ў піонэрорганізацыю.

5) Прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх кампаніях, якія праводзяцца сельсаветам, зямельным аддзелам, сельска-гаспадарчай коопэрацыяй, школай ды інш.

6) Агітаваць сярод насельніцтва за пераход да колектыўнай гаспадаркі (арцелі, комуны).

7) Здабытыя веды і звычкі пераносіць на працу ў колгасных гародах.

IV. Справамі колектыву кіруе агульны сход. Для кіраваньня справамі колектыву між сходамі выбіраецца бюро колектыву з 3-х асоб. У бюро колектыву вылучаецца прадстаўнік ад раённага бюро Ю. П. і прадстаўнік ад савету плянаваньня.

V. Для правядзеньня работы ўсе сябры колектыву падзяляюцца на наступныя зьвеньні:

1) Зьвяно лябораторна-дасьледчай работы.

2) Зьвяно грамадзка-агрономічнае.

3) Зьвяно практычнай работы і вучоту.

4) Зьвяно тэхнікі сельскай гаспадаркі.

5) Зьвяно сельска-гаспадарчай тэхнікі і прылад.

6) Зьвяно барацьбы з пустазельлем і шкоднікамі.

7) Зьвяно організацыі колектыўнай гаспадаркі на вёсцы.

8) Зьвяно сувязі.

V. Зьвеньні комплектуюцца паводле прынцыпу добраахвотнасьці. Ад кожнага зьвяна вылучаецца ўпаўнаважаны. Усе ўпаўнаважаныя зьвеньняў складаюць савет плянаваньня. У савет плянаваньня вылучаюцца два прадстаўнікі ад школьнага савету, і ад савету плянаваньня вылучаецца адзін прадстаўнік у школьны савет.

VII. Абавязкі зьвеньняў савету плянаваньня і бюро колектыву:

1) Лябораторна-дасьледчае зьвяно намячае і плянуе пастаноўку розных досьледаў як на гародзе, так і ў школьнай лябораторыі.

2) Зьвяно грамадзка-агрономічнае займаецца падрыхтоўкай выставак, організуе экскурсіі вакольных сялян на свой гарод, распрацоўвае проекты ўдзелу ў правядзеньні розных кампаній і проекты агродапамогі вакольным гаспадаркам.

3) Зьвяно практычнай работы і вучоту займаецца вучотам работы паасобных зьвеньняў; вядзе агульны дзеньнік і рахункаводзтва; вытварае рэвізіі.

4) Зьвяно тэхнікі сельскае гаспадаркі распрацоўвае проекты тэхнікі пасадкі, дастаўкі вады, апрацоўкі глебы ды інш.

5) Зьвяно сельска-гаспадарчай тэхнікі і прылад будуе розныя сельска-гаспадарчыя прылады (асаджвае рыдлёўкі, робіць граблі, аэратары ды інш.), сочыць за іх станам і цэласьцю, робіць іх выдачу і прыём.

6) Зьвяно барацьбы са шкоднікамі і пустазельлем сочыць за якасьцю насеньня, зьяўленьнем пустазельля і шкоднікаў, складае проекты змаганьня са шкоднікамі.

7) Зьвяно організацыі колектыўнай гаспадаркі на вёсцы складае проекты агітацыйнай і практычнай работы вучняў па колектывізацыі вёскі (працуе ў контакце са зьвяном грамадзка-агрономічным), выкарыстоўвае ў сваёй рабоце матар'ялы «Програмы гурткоў па організацыі колектыўнай гаспадаркі ў вёсцы (навук.-мэтод. комітэт, Менск 1930 г.).

8) Зьвяно сувязі трымае сувязь з рознымі організацыямі і ўстановамі, складае проекты экскурсій у вакольныя гаспадаркі, кожнае зьвяно заводзіць сшытак, куды запісвае, што зроблена зьвяном і яго асобнымі сябрамі па ўсіх даручаных галінах.

Кожнае зьвяно адказвае за пастаноўку работы ў вызначаным для яго кірунку. Пры нарадах на работу сябры зьвяна назначаюцца на работу, адпаведна прызначэньню іх зьвяна.

Пры адсутнасьці практычнай работы па спэцыяльнасьці якога-небудзь зьвяна, сябры яго назначаюцца на любую іншую работу, але з такім разьлікам, каб вучні працавалі па ўсіх культурах, якія ёсьць на гародзе.

9) Савет плянаваньня складае агульны вытворчы плян колектыву, для чаго выкарыстоўвае проекты работы паасобных зьвеньняў, сочыць за выкананьнем вытворчага пляну, вылучае са свайго складу старшыню і сэкратара.

Увязка вытворчага пляну з вакольным жыцьцём робіцца зьвяном сувязі пад кіраўніцтвам вылучанага для гэтага сябра савету плянаваньня.

Агульны вытворчы плян колектыву разглядаецца школьным саветам і зацьвярджаецца раённым бюро Ю. П. і раённым інспэктарам Нарасьветы.

10) Бюро колектыву робіць нарады зьвеньням на работу, нясе адміністрацыйныя абавязкі.

Спаборніцтва між зьвеньнямі адбываецца пад непасрэдным наглядам савету плянаваньня і бюро колектыву.

VIII. Сродкі колектыву складаюцца: 1) з сум, адпушчаных школай, 2) з сродкаў ад грамадзкіх установаў і організацый і 3) ад розных збораў і ахвяраваньняў.

IX. У часе летняга адпачынку ўстанаўліваюцца дзяжурствы на гародзе паасобных зьвеньняў. Савет плянаваньня і бюро таксама ўстанаўліваюць дзяжурствы сваіх сябраў.

X. Зусім непапраўныя сябры колектыву, якія не падпарадкоўваюцца пастановам агульнага сходу, адмаўляюцца ад работы ў сваіх зьвеньнях, займаюцца шкодніцтвам і дэзорганізуюць работу колектыву, з сябраў колектыву выключаюцца.

Увага. Выключэньне дапушчаецца толькі пры поўнай немагчымасьці выпраўленьня сябра колектыву.

XI. Прыбыткі колектыву цалкам ідуць на яго патрэбы (набыцьцё насеньня, прылад ды інш).

XII. Уся дзейнасьць колектыву адбываецца пад непасрэдным наглядам органаў НК асьветы і раённага бюро Ю. П.

У паданым статуце па магчымасьці прадугледжваюцца як агульныя організацыйныя пытаньні, так і пытаньні організацыі працы. Падзел на зьвеньні (ці брыгады) з яскрава пастаўленымі перад імі мэтамі дае мажлівасьць вельмі спрасьціць кіраваньне работаю і яе вучот, а таксама цалкам увязаць работу з агульным пэдагогічным процэсам.

Асабліва адказным месцам зьяўляецца складаньне вытворчага пляну. У сувязі з гэтым, статутам прадугледжваецца ўдзел у складаньні пляну ўсіх зьвеньняў (па мэтоду проектаў), г. зн., кожнае зьвяно складае проект, які ўваходзіць у агульны вытворчы плян як часткі ці дэталі яго. Вылучаныя ў савет плянаваньня прадстаўнікі школьнага савету (настаўнікі) ўвязваюць вытворчы плян з агульнымі задачамі школы і пэдагогічным процэсам.

Статут, магчыма, не пазбаўлены шэрагу недахопаў. Аб апошніх пажадана было-б, каб таварышы, якія займаюцца гэтымі пытаньнямі, выказаліся на старонках часопісу.

Г. САГАЛОВІЧ

# ЗАКОН ПРА С.-Г. ПАДАТАК ПАВІНЕН СТАЦЬ ПРАДМЕТАМ ШКОЛЬНАЙ ПРАПРАЦОЎКІ

Няма патрэбы гаварыць пра тое, што школа наша можа і павінна ў плян сваёй працы ўключыць пытаньне папулярызацыі новага закону пра вылічэньне адзінага с.-г. падатку. Пытаньне гэта можа стаць прадметам вывучэньня як на занятках па грамадазнаўству, гэтак і па матэматыцы.

Пагутарыўшы з дзяцьмі аб тым, чым новы закон пра адзіны с.-г. падатак адрозьніваецца ад ранейшага і якія ільготы ён дае колектыўным гаспадаркам, паасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, гаспадаркам, якія пашырылі свае засевы, гаспадаркам, якія падвышаюць ураджайнасьць і паляпшаюць сваю жывёлу і г. д., можна перайсьці да вырашэньня шэрагу задач з тым, каб паказаць дзецям, як на справе ўсё гэта выконваецца.

У сваім артыкуле хачу паказаць, у якім парадку і ў якой пасьлядоўнасьці гэта можна прарабіць на занятках па арытмэтыцы, або ў выпускной групе школы 1-й ступені, або ў 5-й групе 7-гадовай школы. Матар'ялам для працы могуць служыць:

1. Давыдаў, «Адзіны с.-г. падатак на 1930-31 г.», цана 3 кап.
2. «Савецкая Беларусь» ад 21-га сакавіка 1930 г.
3. «Праўда» ад 3-га красавіка 1930 г.

I.

Сялянская сям'я з 7-мі едакоў мае гаспадарку:

засеву—6 дзесяцін,
сенажаці—1 дзесяціну
гароду—$^{1}/_{4}$ дзесяціны
коняй—2 галавы
кароў—2.

Вылучіўшы прыбытак гэтай сям'і са сваёй гаспадаркі, калі ў раёне пражываньня гэтай сям'і ўстаноўлены наступныя нормы прыбытковасьці:

| | | |
|---|---|---|
| дзесяціна засеву | — 46 | руб. |
| „ сенажаці | —20 | „ |
| „ гароду | —160 | „ |
| конь | —23 | „ |
| карова | —20 | „ |

дзеці робяць неабходныя вылічэньні і запаўняюць таблічку згодна наступнай формы:

| Назва гаспадаркі | Колькасьць | Норма прыбытку | Сума р. | Сума к. |
|---|---|---|---|---|
| Засеў | | | | |
| Луг | | | | |
| Гарод | | | | |
| Коні | | | | |
| Каровы | | | | |
| **Разам** | | | | |

Падлічыўшы такім чынам усю суму, якая абкладаецца, дзеці разьвязваюць наступныя задачы:

1) Няхай гэта сям'я ў параўнаньні з мінулым годам павялічыла засеў на $1\frac{1}{2}$ дзесяціны. Наколькі зьменшыцца сума, якая абкладаецца, калі згодна новаму закону пра с.-г. падатак гэтыя паўтары дзесяціны падаткам не абкладаюцца?

2) Няхай у гэтай сям'і ёсьць два чалавекі, якія маюць прыбыткі пабочныя ад сельскай гаспадаркі—адзін ад кавальскага рамяства, а другі—ад шавецкага. Наколькі прыдзецца павялічыць суму, якая абкладаецца, калі каваль мае ў год чыстага прыбытку 320 руб., а шавец—480 руб., пры чым, згодна інструкцыі ападаткаваньню падлягае толькі 50% гэтых двух прыбыткаў?

3) Наколькі прыдзецца павялічыць суму, якая абкладаецца, калі на падставе палажэньня аб вылічэньні с.-г. падатку да сумы прыбытковасьці, якая перавышае 500 рублёў, робіцца надбаўка ў памеры 10% гэтае сумы.

4) Колькі прыбытку падае на кожнага едака сям'і, калі з агульнай сумы прыбытку, які абкладаецца, вылічаецца па 20 руб. на едака як сума, якая не абкладаецца?

5) Колькі падатку належыць з кожнага едака сям'і, калі падатак вылічваецца наступным чынам:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| з першых | 25 | руб. па | 4 | кап. | з рубля. |
| з наступных | 75 | руб. — | 7 | кап. | „ |
| „ | 50 | „ — | 10 | „ | „ |
| „ | 50 | „ — | 15 | „ | „ |
| „ | 50 | „ — | 20 | „ | „ |
| „ | 50 | „ — | 22 | „ | „ |
| „ | 100 | „ — | 25 | „ | „ |
| „ | 200 | „ — | 28 | „ | „ |

6) Колькі ўсяго падатку належыць з усёй сям'і?

Навучыўшыся такім чынам вылічваць падатак, які належыць з паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, дзеці змогуць дапамагчы старэйшым у сям'і разабрацца ў гэтым пытаньні.

Цяпер пяройдзем да пытаньня аб тым, як вылічваецца падатак з колектыўных гаспадарак.

II

У арцелі налічваецца 310 паасобных гаспадарак з колькасьцю ў 1390 едакоў. Арцель мае гаспадарку:

| | | |
|---|---|---|
| засеву | 1300 | дзесяцін |
| сенажаці | 104 | „ |
| гароду | 26 | „ |
| пад кармовыя буракі | 38 | „ |
| „ травы | 18 | „ |
| „ лён | 55 | „ |
| коняй | 260 | галоў, |
| кароў | 72 | „ |

Вылічыць усю прыбытковасьць арцелі ад сваёй гаспадаркі, калі ў данай мясцовасьці ўстаноўлены наступныя нормы прыбытковасьці:

| | | | |
|---|---|---|---|
| засеў | 60 | руб. з | дзесяціны, |
| сенажцаь | 24 | „ | „ |
| лён | 26 | „ | „ |
| гарод | 180 | „ | „ |
| конь | 26 | „ з | галавы |
| карова | 24 | „ | „ |

Што датычыцца зямлі, якая засеяна травамі і буракамі, дык яна абкладаньню не падлягае.

Зрабіўшы неабходныя вылічэньні і склаўшы табліцу паводле ўзору, пра які гаварылася вышэй, дзеці пад кіраўніцтвам настаўніка разьвязваюць наступныя задачы:

1) Згодна пастановы ЦВК і СНК СССР ад 4-га красавіка 1930 году, звальняюцца ад ападаткаваньня як рабочае быдла колгасаў, гэтак і каровы. Вылічыць, насколькі ад гэтай ільготы колгасам зьмяншаецца сума, якая абкладаецца?

2) Згодна тэй жа пастановы робіцца скідка ў памеры 50% ад прыбытковасьці з плошчы гародаў. Вылічыць, наколькі зьменшыцца сума, якая абкладаецца, ад гэтай ільготы колгасам?

3) У параўнаньні з мінулым годам гэтая арцель пашырыла свой засеў на 132 дзесяціны. Наколькі павінна быць зьменшана сума, якая абкладаецца, калі, згодна закону пра падатак, гэтая плошча не падлягае абкладаньню?

4) У складзе арцелі ёсьць бядняцкія гаспадаркі, звольненыя ў мінулым годзе ад падатку. Наколькі прыдзецца зьменшыць суму прыбытку колгасу, якая абкладаецца, калі бядняцкіх гаспадарак у ёй налічваецца 80 з гаспадаркай у 180 дзесяцін пахаці, калі вядома, што 75% прыбытку ад пахаці не падлягае ападаткаваньню?

5) Наколькі трэба павялічыць суму прыбытку арцелі, што абкладаецца, калі арцель апроч прыбыткаў ад сельскай гаспадаркі мае розных прыбыткаў на 725 руб., пры чым ападаткаваньню падлягае толькі 40% гэтай сумы?

6) Колькі падатку належыць з кожнага едака арцелі, калі першыя 30 руб. агульнага прыбытку, якія падаюць на аднаго едака арцелі, ападаткаваньню не падлягаюць, а з астатняй сумы прыбытку падатак бярэцца па 5 капеек з рубля?

7) Наколькі трэба зьменшыць увесь падатак арцелі, калі за мерапрыемствы да падвышэньня ўраджайнасьці і паляпшэньня жывёлагадоўлі арцелі дадзена скідка з агульнай сумы падатку 20%?

Такім чынам, чытач бачыць, што прапрацоўка пытаньня пра вылічэньне адзінага с.-г. падатку зусім простая і вельмі даступная дзецям вышэйпаказаных груп нашай школы. Выкананьне гэтай працы з дзяцьмі нашай школы ёсьць акт вялікай палітычнай значнасьці.

---

**САВЁНАК, ШЭЙНІНА**

# ПРА ДАШКОЛЬНУЮ ЎСТАНОВУ Ў КОЛГАСЕ

> „Рэволюцыя—не рэволюцыя, калі яна не выяўляе найбольшай увагі дзецям; яны—тое будучае, у імя якога рэвалюцыя творыцца".
>
> (Ленін).

Бурны рост соцыялістычнага будаўніцтва—індустрыялізацыя краіны і колектывізацыя вёскі ва ўсю шырыню ставіць пытаньне аб комуністычным выхаваньні маладога пакаленьня.

Выхаваць моцную зьмену барацьбітоў за соцыялістычнае будаўніцтва вёскі, пакаленьне, якое ўмее жыць і працаваць у колектыве—задача, якая мае вялізарнае палітычнае значэньне ў далейшым разьвіцьці соцыялістычнага будаўніцтва.

З другога боку, колгас становіцца апорным пунктам соцыялістычнага будаўніцтва вёскі як у галіне падвышэньня ўраджайнасьці, так і ў культурна-бытавых пытаньнях, адсюль уцягненьне жанчыны-сялянкі ў вытворчую і грамадзка-палітычную работу колгасу набывае выключнае значэньне.

Вось гэтыя дзьве вялікія задачы могуць быць вырашаны пры 100% ахопе дзяцей дзіцячымі ўстановамі.

Дашкольная ўстанова ў колгасе павінна стаць цэнтрам барацьбы з рэшткамі на стаць цэнтрам барацьбы за новы быт дзіцяці, жанчыны, сям'і і ўсёй грамадзкасьці вёскі.

«Ніводнага колгасу без дашкольнае ўстановы»—гэты лёзунг павінен быць зьдзейсьнены.

Ідэя колектыўнага выхаваньня дзяцей уцямлена ня толькі работніцамі вытворчасьці ў гарадох, якія па сваёй ініцыятыве адкрываюць грамадзкія дзіцячыя ўстановы, але і сялянкамі. У які-б колгас, саўгас, або неорганізаваную вёску ні заехаць, варта толькі ўзьняць пытаньне аб дзіцячай ўстанове, як уся грамадзкасьць вёскі, асабліва настаўніцтва горача адклікаюцца на гэта, дапамагаюць як у адшуканьні сродкаў, так і ў організацыі работы.

Трэба выкарыстаць імкненьне шырокіх сялянскіх мас і зараз жа распачаць работу.

Пытаньне-ж гэта з прычыны важнасьці вышэйпастаўленых задач ня можа быць адкладзена. Апрача таго, у гутарках з сялянкамі, асабліва шматсямейнымі, мы высьнілі, што наяўнасьць дзіцячай ўстановы хутчэй бы прыцягнула ў колгас тую частку жанчын, якая яшчэ хістаецца. Яшчэ адзін мотыў за тое, каб да організацыі дзіцячых устаноў прыступіць зараз жа Гэта—у сучасны момант пры ліквідацыі кулацкіх гаспадарак—памяшканьні і некаторае абсталяваньне, якія можна выкарыстаць для дзіцячых устаноў, што мела-б вялікае выхаваўчае значэньне як для дзіцячага, так нават і для дарослага насельніцтва.

Прымаючы пад увагу, з аднаго боку, грамадзкае значэньне дашкольнай справы, з другога—цяжкасьці і навізну яе, работу па адчыненьню дзіцячых устаноў трэба наладзіць правільна. Да пытаньня аб стварэньні адпаведных умоў для выхаваньня дзяцей падыйсьці ўдумліва і сур'ёзна. Дзеля гэтага раённая ўлада павінна неадкладна мобілізаваць усю грамадзкасьць на выкананьне гэтай работы.

З боку НКА павінна быць вылучана група спрактыкаваных дашкольных працаўнікоў, якія-б выехалі ў колгасы для наладжваньня дашкольных устаноў.

Нядаўна ў Менску адбылася ўсебеларуская конфэрэнцыя дашкольных працаўнікоў, на якой мы чулі ад працаўнікоў з раёнаў, што ў некаторых колгасах дзіцячыя ўстановы вырастаюць стыхійна і, ня маючы кіраўніцтва, наладжваюць няправільна работу па выхаваньню дзяцей. Гэта гаворыць за тое, што выехаўшыя таварышы павінны будуць заняцца ня толькі організацыяй новых устаноў, але інструктаваньнем ужо адкрытых.

Гэтая-ж конфэрэнцыя ў сваёй рэзолюцыі прыняла яшчэ адну форму дапамогі з боку гарадзкіх працаўнікоў колгасам,—гэта часовую замену працаўнікамі з тым, каб практычны працаўнік з колгасу, прыехаўшы ў горад, прыглядзеўся да работы іншых устаноў, павучыўся.

Гэту пастанову трэба будзе выкарыстаць як мага шырэй, каб правільна наладзіць работу ў колгасных установах. Пераходзячы да практыкі організацыі дашкольных устаноў пры колгасах, трэба спыніцца на тыпе гэтых устаноў.

Паказаць цяпер конкрэтна, які тып установы найбольш адпавядае запатрабаваньням колгасу, вельмі цяжка. Тып установы ў большасьці залежыць ад ступені абагуленьня маёмасьці, ад эконамічнай устойлівасьці колгасу і ад жыльлёвай згрупаванасьці сяброў колгасу.

Так, напрыклад, у комуне з поўным аб'яднаньнем маёмасьці найбольш адпавядае па тыпу дзіцячы дом з інтэрнатам.

Пры іншых формах няпоўнага абагуленьня маёмасьці, напр., с.-гас. арцель ды інш. досыць мець дзіцячы сад з доўгатэрміновым прабываньнем дзяцей ў летні час (зімой 6, а ўлетку 8-10 гадзін).

Там, дзе сябры колгасу згрупаваны ў адным месцы ў вялікай колькасьці і дзяцей шмат, трэба адкрываць дашкольны дзіцячы сад (дзеці ад 4 да 8 год) асобна і яслі (дзеці да 4 год) асобна. Там-жа, дзе няма магчымасьці, або недастатковая колькасьць дзяцей дашкольнага і ясельнага ўзросту, адкрываюць сад-яслі, які абслугоўвае ўсіх дзяцей, дзе ясельнікі вылучаны ў асобны пакой і маюць асобную кіраўніцу.

Для організацыі такіх дзіцячых устаноў патрабуюцца адпаведныя матар'яльныя і жыльлёвыя ўмовы.

1) Важнейшай умовай нормальнай работы ў дзіцячай установе трэба лічыць наяўнасьць кваліфікаванага дашкольнага працаўніка, які быў бы і грамадзкім працаўніком у колгасе. Пажадана, каб была вылучана з сяброў колгасу найбольш адпавядаючая жанчына, якая-б пасьля кароткіх курсаў магла прыступіць да работы і на працягу работы ўвесь час магла падвышаць сваю кваліфікацыю. У дапамогу пэдагогу прыцягваюцца дэлегаткі, комсамолкі і некаторыя маткі. Апрача пэдагога, дзіцячы сад павінен пэрыодычна абслугоўвацца ўрачом.

Для тэхнічнага абслугоўваньня саду (гатаваньне стравы, прыбіраньне), вылучаюцца колгасьніцы або на сталую работу, або чарговыя.

2) Памяшканьне павінна адпавядаць санітарна-гігіенічным запатрабаваньням: сонечнае, цёплае, сухое. У зьвязку з раскулачваньнем і высяленьнем непрацоўнага элемэнту падшукаць памяшканьне ня цяжка; набыўшы яго, трэба будзе паклапаціцца аб фортках, уборнай і асобнай кухні. На кожную групу 20-25 дзяцей трэба мець асобны пакой для работы і для сну. Пакой для работы павінен быць памерам у 3 куб. мэтры на кожнае дзіця.

3) Пры дзіцячай установе павінен быць двор і садзік, дзе-б дзеці маглі праводзіць час на сьвежым паветры, арганізоўваць працу ў прыродзе і гульні як узімку, так і ўлетку.

4) Вельмі ўдумліва трэба аднесьціся да абсталяваньня ўнутры ўстановы.

Мэбля на 25 дзяцей павінна быць наступная:

а) Сталы: 1 вялікі стол для яды і агульнай працы ў 2½ мэтры даўжыні, 80 сантымэтраў шырыні і 50-60 вышыні. Некалькі столікаў для індывідуальнай работы дзяцей, даўжынёю 1 м., шырынёю—80 сант. і вышынёю 50-60 сант. Сталы павінны быць пакрыты цыратай.

б) Крэсьліцы па ліку дзяцей павінны быць такой вышыні, каб пры сядзеньні ногі стаялі на падлозе, вышыня ножак мела 26-30 сант., вышыня плечак—ад 25-30 сант., шырыня сядзеньня—28-31 сант.

в) Шафа для посуду і матар'ялу і этажэрка, або палічкі для працы дзяцей павінны быць вышынёю ў рост дзяцей.

г) Вешалкі для разьдзяваньня і для ручнікоў. Вешалка павінна быць з верхняй палічкай, каб было куды паставіць кубкі, зубныя шчоткі і парашок. Вешалка прыбіваецца на такой вышыні, каб дзеці самастойна маглі ёю карыстацца.

е) 1-2 вісячыя рукамыйнікі з мядніцамі.

Калі дзіцячы сад працуе больш 6 гадзін, трэба ўкладаць дзяцей спаць сярод дня. Для гэтага патрэбны ложкі ўсім дзецям да 6--ці год (шасьцігодкі ў гэтую пару займаюцца спакойнай працаю).

Ложкі павінны быць складанымі( козлы, абітыя палатном), каб можна было іх расставіць і сабраць у тым выпадку, калі група мае толькі адзін пакой.

Некалькі скрынак (дастаць у кооопэратыве, або зьбіць самім) для матар'ялаў і для сьмецьця.

**Бялізна**

2 зьмены ручнікоў (ручнікі малога памеру 75-80 сант.), 1 зьмена халацікаў па 1½-2 мэтры на халацік, 1 зьмена трусоў на лета, ¾ мэтры на кожныя, 6 сьцірак для выціраньня посуду дзяцьмі.

Пасьцельную-ж бялізну: навалкі, пасьцілкі, коўдры дзеці прыносяць з дому.

**Посуд:**

На кожнае дзіця 1 місачка, або талерка, лыжка, відэлец, кубак, іспадак для чаю. Для ўсёй групы—2-3 хлебніцы, чайнік, разьліўная лыжка і міска для падачы крупніку, карафа, або збан для гатаванай вады. Паждана, каб посуд быў эмаліраваны, або алюміневы. У выпадку, калі сродкаў не хапае, можна замяніць гліняным. Мяднічка для мыцьця посуду, 2 лямпы.

**Абсталяваньне кухні:**

2 вялікіх гаршкі для варкі стравы. Мяднічка альбо лаханка для мыцьця посуду, 2 вядры для вады. Бак для кіпячэньня вады, балея для мыцьця бялізны. Патэльні, стол і табурэткі, або ўслон, 4 сьціркі.

Скрыня, або шафа для хаваньня харчоў.

*Для ўборнай:* 3-4 гаршкі, пакрытыя дошчачкай і вядро для зьліву.

Будаўнічы матар'ял, можа складацца з абрэзкаў сталярных майстэрняў, фа-

нерных дошчак і спэцыяльна заказанага для будаваньня матар'ялу такіх форм:

Кубы 10 штук 16×16×16 сант.
Кубы, разрэзаныя па дыяганалі—10 штук
Пліткі-цаглінкі 16× 8×4 . . . . —20—30 штук
Пліткі даўгія 32×16×4 . . . . —10 штук
Планкі „ 64× 8×4 . . . . —20—30 штук
„ „ 32× 8×4 . . . . —30—20 штук
Цыліндры 16 вышынёю, радыус 8—20 штук
Конусы 16 „ „ 8—10 „
Калёсы таўстыя 4 см. радыус 16 сан. 8 кал.
„ з дзіркамі для восяй
Палачак на восі
Найлепшы матар'ял з гліны, або бярозы

**Сталярныя прылады:**

Цяжкі моцны стол, які будзе служыць варштатам, з палічкай, або скрынкай для матар'ялаў.

Малаткоў 3-4 вагою ў 200-300 гр., даўжыня ручкі—20 см.

Пілачак-нажовак—2-3.

Цьвікоў розных памераў з шырокімі плешкамі 2 п.

Абцугі.

Нажоў для струганьня—4-5.

Сьвярдзёлак.

**Абсталяваньне для шыцьця:**

Ножніц—10 штук з тупымі канцамі, нядоўгія.

Голак з шырокімі вушкамі і ніткі.

Матар'ял для шыцьця і папера для вырэзваньня.

**Абсталяваньне для маляваньня:**

Белая папера, або сшыткі.

Алоўкі чорныя і каляровыя па ліку дзяцей.

Кісьці па ліку дзяцей.

Фарбы малярныя, у парашку асноўных колераў.

Сталярны клей для фарбы.

Посуд для фарбы (бляшаначкі, сподкі, гліняныя гаршочкі).

Для лепкі 1 воз ганчарнай гліны.

Фанерных дошчачак па ліку дзяцей.

1 лахань для разьмешваньня гліны.

**Інструманты для працы ў прыродзе:**

Лапаты—10 штук (даўжыня ручкі 75 сант., лапата 16×12).

Граблі—3 шт. (даўжыня ручкі 95 сант., граблі 25 сант.

Насілкі, даўжыня палак да 115 сант., скрынка 30×30.

Лейкі—3 шт. (ад 1 да 2 мэтраў) глыбінёю 6 см.

Некалькі шклянак-слоікаў для водных жывёлін.

Матар'ял, стымулюючы гульні дзяцей.

Сюды ўваходзяць цацкі і прылады для гульняў на дварэ. Павозкі, тачкі, лапатачкі, абручы, вяроўкі для лейцаў, кеглі, набор пясочнікаў, мячы, сані, лыжы ды інш.

Асаблівае вялікае месца павінны заняць рэшткі майстэрняў: абрэзкі дрэва, абрезкі мануфактурных матар'ялаў, шпулькі, кавалкі дроту, коркі, скрыначкі, бутэлькі і г. д.

Таксама трэба выкарыстаць матар'ялы прыроды: шышкі, кару, салому, каменьчыкі, каштаны, жалуды ды інш.

У ліку падручнікаў трэба набыць набор дзіцячых кніжак з малюнкамі для разгляданьня і для апавяданьня.

Усё пералічанае абсталяваньне не абавязкова закупляць адразу перад адчыненьнем установы. Пачынаць работу трэба маючы максымум неабходнага, а рэшту заказаць і купляць разам з дзяцьмі.

З першых крокаў па організацыі дзіцячага саду паўстае пытаньне аб сродках. Пытаньне вельмі складанае, бо грошы прыдзецца здабываць не з аднэй крыніцы, а пакрысе з многіх, аплата працаўнікоў павінна ўвайсьці ў дзяржаўны бюджэт.

Пры Колгасцэнтры ёсьць спэцыяльны фонд на дзіцячыя ўстановы ў колгасах, але гэтых сродкаў ня хопіць на ўсе патрэбы, і трэба будзе зьвярнуцца да грамадзкіх організацый: коопэратыву, комітэту ўзаемадапамогі, таварыства прыхільнікаў дзяцей ды інш., для набыцьця сродкаў на абсталяваньне. Папяшканьне і апал—агульнаколгасныя, і грошы на гэта ня будуць патрэбны.

Што датычыцца бягучых выдаткаў, якія патрэбны на ўвесь час работы дзіцячай установы ўласна на навучальныя прылады для дзяцей, дык гэта павінен адпускаць пэрыодычна колгас з сродкаў на культурна-бытавыя патрэбы колгасу, а калі такіх сродкаў няма яшчэ, дык трэба ўстанавіць пэўны процант адлічэньняў з прыбыткаў колгасу.

Неабходнай умовай існаваньня дзіцячай установы зьяўляецца харчаваньне дзяцей. Харчаваць дзяцей ў летні час прыдзецца 3 разы ў дзень, узімку, пры

карацейшым часе прабываньня дзяцей у садзе—2 разы. Сродкі на гэта патрэбны значныя: 15-20 к. у дзень на дзіця ўлетку і 12-16 капеек узімку, але частку харчоў павінен адпушчаць колгас: малако, хлеб, яйкі, крупы, бульбу, масла з агульных фондаў, а рэшту трэба купляць за грошы, што сабраны з саміх бацькоў дзяцей.

У тым выпадку, калі нормальнай дзіцячай установы нельга адкрываць з прычыны адсутнасьці сродкаў, або памяшканьня, усё-ж затрымліваецца нельга дзяцей арганізаваць трэба, адкрыўшы прымітыўную дзіцячую ўстанову.

Прымітыўныя дзіцячыя ўстановы могуць быць наступных тыпаў:

1) Летнія пляцоўкі—установы, якія працуюць ня круглы год, а толькі ўлетку. Праца на пляцоўцы працягваецца столькі гадзін, колькі бацькі заняты на полі. Уся праца дзяцей адбываецца на сьвежым паветры, і таму запатрабаваньні да памяшканьня могуць быць зьведзены да мінімуму. Гэта можа быць адзін пакой, або нават павець для сну і працы дзяцей, у час дажджоў. Калі няма магчымасьці мець сваю кухню, страва варыцца дзе-небудзь у суседзяў.

2) Дзіцячы пакой, які можа быць арганізованы пры школе, хаце-чытальні, у чырвоным кутку, як працяг працы пляцоўкі ўзімку. Праца працягваецца на 4-6 гадзін у дзень. Харчуюцца дзеці 1 раз. Для абодвух гэтых тыпаў трэба мець пэдагога-дашкольніка.

3) *Вячэрнія пакоі,* якія працуюць у тыя вечары, калі маткі заняты на грамадзкай рабоце, напр., у дні сходаў, занятак па ліквідацыі няпісьменнасьці, або гурткоў, у часе кампаній, перавыбараў савету, сьвят.

Вячэрні пакой павінен працаваць ня больш як да 8 гадзін, каб дзеці ўпару маглі легчы спаць.

Работу ў вячэрніх пакоях праводзіць комсамол, школьныя працаўнікі і дэлегаткі ды іншыя грамадзкія працаўнікі колгасу, аб'яднаўшыся для гэтага і ўстанавіўшы чаргу пад кіраўніцтвам школы.

Апрача гэтага, можна наладжваць дашкольнікам клюбныя дні 1 раз у пяцідзёнку і праводзіць з імі гутаркі, гульні, працу і іншыя заняткі.

Якую-б форму прымітыву мы ні арганізавалі для дзяцей, абсталяваньне, хоць самае прымітыўнае, павінна быць прыстасавана да ўзросту. Так, напрыклад:

1) Мы можам мець замест асобных крэсьліц лавы, але яны павінны быць лёгкія і ня вышэй 30 сант.

2) Калі няма магчымасьці заказаць дзіцячыя сталы, а ёсьць свабодныя высокія сталы, тады на патрэбным узроўні падпільваем ножкі, і сталы гатовы. У тым выпадку, калі сталы пазычаны на час, або раніцаю імі карыстаюцца дзеці, а ўвечары дарослыя, напр., у хатах-чытальнях і падпільваць ножкі нельга, тады да ножак прыбіваюць планкі на такім узроўні, каб ногі дзяцей мелі апору (лавы ў такім выпадку патрэбны высокія).

3) Замест шафы і этажэркі можна зрабіць палічкі ў кутку на такім узроўні, каб дзеці маглі самі даставаць і класьці рэчы. Завесіўшы гэтыя палічкі палатном, атрымаем ня дрэнную шафу.

Усё гэта можна будзе зрабіць у колгасе за вельмі нязначныя сродкі.

Посуд і бялізна могуць быць дзяцьмі прынесены з дому.

Прылады для прац і гульняў дзяцей здабываць паступова з дапамогаю грамадзкіх організацый.

Такім чынам маючы: 1) пакой для кожнай групы; 2) сталы і лавы, або крэслы; 3) посуд для яды—місачкі, лыжкі і кубкі; 4) кухонны посуд, рукамыйнік, гаршочкі; 5) пясок, гліну, дрэва, паперу і алоўкі для працы дзяцей; 6) ручнікі, мыла, можна распачынаць работу.

Адно трэба памятаць, адчыняючы прымітыўную ўстанову, што гэта зьява часовая, выхад з цяжкага становішча ў організацыйны пэрыод, а ў пэрспэктыве мы павінны мець нормальнага тыпу ўстанову, з належным абсталяваньнем і ўмовамі працы.

# НА ФРОНЦЕ КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

А. В. САВЕЛЬЛЕЎ

## КУЛЬТУРНАСЬЦЬ СУЧАСНАЕ ВЁСКІ

I.

Ва ўмовах масавага пераходу сялян да колектыўнага вядзеньня сельскай гаспадаркі і шалёнага супраціўленьня кулацтва соцыялістычнай перабудове вёскі пытаньні культурнай работы на сяле набываюць зараз выключна вялікае значэньне.

У сувязі з імклівымі тэмпамі колектывізацыі аднэй з першачарговых задач дня—«замацаваць дасягнутыя посьпехі і плянамерна скарыстаць іх для далейшага руху наперад» (І. Сталін «Галавакружэньне ад посьпехаў»). І тутака трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, што клясавыя ворагі зараз вельмі старанна працуюць, каб паралізаваць тыя посьпехі, якія мы маем на вёсцы, і для гэтага скарыстоўваюць цемру адсталай часткі сялянскай масы.

Казкі аб агульнай коўдры шырынёю ў 9 аршын, аб агульных спальнях, аб здачы непрацаздольных старых «на мыла» і іншыя плёткі, створаныя яраснай нянавісьцю гінучага кулацтва, знаходзяць глебу для сябе толькі ў пластох найменш культурнай часткі сялянства.

Зараз уся грамадзкая думка, уся лепшая частка бядняцка-серадняцкіх мас вёскі згуртоўваецца вакол пытаньняў барацьбы на культурным фронце вёскі, барацьбы з няпісьменнасьцю, цемрай, забабонамі і ўсімі рэшткамі старога быту.

Апрача гэтага, нельга забываць, што разам з пераходам мас сялянства да колектыўнага вядзеньня сельскай гаспадаркі пачынаецца і грунтоўная ломка быту старога сялянскага двара. Старыя бытавыя звычкі, за тысячагодзьдзі замацаваныя дзякуючы загадам і звычаям дзядоў, ня могуць мець месца пры новых формах жыцьця. Трынаццаты год ідзе барацьба з старым бытам. Мы ведаем аб перамогах новага быту на паасобных вучастках гэтай барацьбы, але зараз перад намі стаіць задача шырокім наступам ударыць па ўсіх рэштках старога, каб забясьпечыць хутчэйшае замацаваньне нашых гаспадарчых посьпехаў у сувязі з карэннай перабудовай вёскі на соцыялістычных пачатках.

Каб вярней забіць ворага, трэба яго ведаць. Калі мы ўступаем у барацьбу пад сьцягам культурнай рэволюцыі, першае, што нам патрэбна, ведаць, як вялікі сілы нашага супраціўніка, на якіх вучастках фронту ён найбольш моцны, куды і супроць каго накіраваць лепшыя сілы. І вось тутака ў нас заўсёды было найбольш слабае месца: высьвятленьню пытаньняў быту і ступені культурнасьці нашай сялянскай масы аддавалася надзвычайна мала ўвагі.

Апошняя недарэчнасьць была ўлічана дырэктыўнымі органамі Віцебскай акругі, і ў канцы восені мінулага году па загаду апошніх перад мясцовай статыстычнай організацыяй было пастаўлена пытаньне аб утварэньні выбарчага культурна-бытавога абсьледваньня вёскі Віцебшчыны.

У выкананьне гэтага заданьня было праведзена абсьледваньне шэрагу сялянскіх двароў з разьлікам ахопу ўсіх соцыяльна-эконоімічных груп сялянства, усіх раёнаў і сельсаветаў акругі больш-менш роўнамерна. Мэханічны адбор гаспадарак, якія падлягаюць абсьледваньню праз раённых статыстыкаў, экспэдыцыйны мэтод яго, знаёмства настаўніцтва,

прыцягнутага да ўдзелу ў гэтай рабоце, з мясцовым насельніцтвам—давалі некаторую гарантыю паўнаты і дасканаласьці высьвятленьня культурна-бытавых умоў жыцьця абсьледваных сялянскіх двароў.

Програма выпрацаванага для гэтага абсьледваньня апытальнага формуляру ахапляе мінулы (1928-29 год) з кастрычніка па верасень, і паколькі апыт вытвараўся ў працягу кастрычніка і лістапада 1929 г., калі аджыты год быў яшчэ сьвежы ў памяці гаспадара двара, адказы на запытаньні рэгістратараў былі досыць поўныя і дакладныя.

У выніку абсьледваньня мы мелі весткі аб 1627 сялянскіх гаспадарках рознай экономічнай моцнасьці, апытаных ва ўсіх сельсаветах акругі, з насельніцтвам у гэтых гаспадарках у 8867 чалавек, інакш кажучы, мы маем матар'ял апісаньня 1,83% усіх сялянскіх гаспадарак акругі; ахопленае пры абсьледваньні насельніцтва сялянскіх двароў складае 1,79% усяго сельскага насельніцтва акругі.

Гэтакі процант ахопу не дазваляе шырокага карыстаньня *абсолютнымі* дадзенымі вынікаў падлікаў па атрыманых матар'ялах, але адносныя велічыні зьяўляюцца дастатковымі для абмеркаваньня паасобных зафіксаваных абсьледваньнем зьявішчаў.

Па соцыяльна-экономічных групах склад ахопленых абсьледваньнем гаспадарак уяўляецца ў наступным выглядзе: пролетарскіх—4,5% (73 гаспадаркі), поўпролетарскіх—12,7% (206 гасп.), простых таваравытворцаў—78,0% (1270 гасп.) і дробных капіталістычных гаспадарак—4,8% (78 гасп.) [1]).

Мы ня маем досыць дакладных даных аб групоўках па гэтаму прынцыпу ўсіх сялянскіх гаспадарак акругі ў 1928-1929 г., аднак даныя дынамічнага перапісу сельскай гаспадаркі 1927 году, экономічныя групоўкі, атрымліваемыя ў выніку вывучэньня груповак сялянства па разьмерах сельгаспадатку і наглядаўшыяся за апошнія гады зрухі па паасобных групах вясковага насельніцтва даюць падставу лічыць, што абсьледваньне 1929 году больш-менш роўнамерна ахапіла ўсе пласты сялянства Віцебшчыны.

Апрача гэтага, ахоп абсьледваньнем сельскіх паселішчаў розных тыпаў (вёскі, хутары, пасёлкі, фольваркі ды інш.) і ва ўсіх кутках акругі ў сваю чаргу павялічвае дасканаласьць сярэдніх вялічынь, атрыманых у выніку апрацоўкі матар'ялаў па ўсёй акрузе.

## II.

Найбольш цяжкая спадчына старога ўкладу жыцьця—няпісьменнасьць сялянства—заўсёды была галоўнай зброяй царскага ўраду і зараз зьяўляецца найбольш спрыяючай глебай для дзейнасьці нашых клясавых ворагаў.

З першых год Кастрычніка савецкі ўрад вядзе бязупынную, моцную барацьбу за пісьменнасьць сялянства, і на гэтым фронце мы ўжо маем нямалыя дасягненьні.

Па даных адміністрацыйнага перапісу на 1 студня 1924 г. у Віцебскай акрузе больш чым 1/5 частка ўсіх сялянскіх гаспадарак (21,5%) ня мелі ніводнага пісьменнага сябра сям'і. З абсьледваных у 1929 годзе сялянскіх двароў гэтакіх гаспадарак знайшлося толькі 6,8%, пры чым у пролетарскай групе яны займаюць 19,2%, у паўпролетарскай—13,6%, у групе простых таваравытворцаў—5,2% і ў групе дробна-капіталістычных гаспадарак—2,6%. Найбольшым % гаспадарак, якія ня маюць у складзе сям'і пісьменных, характарызуюцца раёны паўдзённа-заходняй часткі акругі (Бешанкавіцкі—10,5%, Чашніцкі—12% і Сеньненскі—12,5%, найменьшы процант такіх гаспадарак—у Лёзьнянскім раёне (1,5%).

Перапіс насельніцтва 1926 году паказаў, што за 6 год, што мінулі з часу апошняга перад ім перапісу 1920 году, у справе зьнішчэньня няпісьменнасьці мы дабіліся вельмі значных посьпехаў. У нашай Віцебскай акрузе па сельскіх мясцовасьцях было

| | у 1920 г. | у 1926 г. |
|---|---|---|
| пісьменных . . . | | |
| на 1000 чел. мужч. | 374 | 515 |
| „ 1000 „ жанч. | 209 | 276 |
| „ 1000 „ аб. рад. | 285 | 393 |

1) У падставу пры групоўцы гаспадарак па соц. эконом. групах была ўзята сыстэма І. Гайстэра.

Апошнія тры гады пасьля перапісу насельніцтва 1926 года былі гадамі яшчэ больш бурнага націску ў барацьбе з няпісьменнасьцю, і па даных культурна-бытавога абсьледваньня 1929 г. % няпісьменных мужчын з 48,5% у 1926 г. падае да 34,5% у 1929г., % няпісьменных жанчын—з 72,4% да 55,9% і няпісьменных абодвух радоў—з 60,7% у 1926 г. да 45,3% у 1929 г.

Такім чынам у той час, калі за першыя 6 год (з 1920 па 1926 г.) пісьменнасьць сярод сельскага насельніцтва павялічылася на 10,8%, дык на наступныя тры гады мы маем узрост пісьменнасьці на 15,4%, што кажа аб больш чым падвойным тэмпе зьнішчэньня няпісьменнасьці.

Параўнаньне ўзросту пісьменнасьці за апошнія 3 гады па асобных раёнах акругі паказала, што гэты ўзрост адбываўся больш-менш роўнамерна, і выключэньне дае толькі Чашніцкі раён акругі, дзе прырост пісьменнасьці за тры гады даў толькі 7,1%. Характэрным зьяўляецца значнае павялічэньне пісьменнасьці (на 18-19%) у раёнах, якія па перапісу 1926 г. займалі апошняе месца па колькасьці пісьменных (Бешанкавіцкі, Сіроцінскі і Межанскі раёны).

Асаблівай увагі заслугоўвае тэмп зьнішчэньня няпісьменнасьці сярод жанчын. У 1920 годзе ў сельскіх мясцовасьцях акругі, як адзначалася вышэй, мы мелі 79,1% няпісьменных жанчын, у 1926 г. гэты процант зьнізіўся да 72,5%, ці на 6,6%, а культурна-бытавое абсьледваньне вёскі 1930 году паказвае толькі 55,9% няпісьменных з усёй колькасьці жанчын-сялянак, што дае ўзрст пісьменнасьці сярод іх толькі за апошнія тры гады на 16,6%. За гэты-ж час (1926—1929 г.) пісьменнасьць сярод мужчын узрасла на 14%.

Адзначанае зьнішчэньне няпісьменнасьці вельмі нероўнамерна разьмяркоўваецца паміж паасобнымі ўзроснымі групамі няпісьменных.

Так, зьніжэньне няпісьменнасьці сярод дзяцей школьнага ўзросту (у параўнаньні з 1926 годам) мы маем па хлапцох—на 18,6% і сярод дзяўчат—на 34,3%. Тутака мы маем адбітак разьвіцьця школьнай сеткі акругі за апошнія тры гады, якая прадстаўлялася ў наступным выглядзе:

| Гады | Лік школ | % |
|---|---|---|
| 1926/27 | 552 | 100,0 |
| 1927/28 | 582 | 105,4 |
| 1928/29 | 604 | 109,4 |

Ва ўзросьце да 40 год процант зьніжэньня няпісьменнасьці сярод мужчын ідзе з 9,9% да 7,5% роўнамерна ад групы ў групу; сярод жанчын гэты процант ідзе няроўна, пры чым найбольшае зьніжэньне няпісьменнасьці дае ўзросная група ад 23 да 29 год (24%) і група 16-ці і 17-ці гадовых (23,3%); урэшце трэба адзначыць, што ва ўзросьце 40 г. і старэй мужчыны даюць за апошнія тры гады павялічэньне пісьменнасьці на 13,3%, уздым жа пісьменнасьці сярод жанчын выразіўся толькі ў 6,5%.

Вышэйпаданы процант пісьменнасьці вясковага насельніцтва па абсьледваньню 1929 году (45,3) значна хістаецца па асобных соцыяльна-экономічных групах. З ніжэйзьмяшчаемай табліцы відаць, што і да гэтага часу адчуваецца вельмі вялікая залежнасьць пісьменнасьці ад экономічнай моцнасьці гаспадаркі. Так,

| Соцыяльна-экономічн. групы | % пісьменных | | |
|---|---|---|---|
| | мужчын | жанчын | аб. рад. |
| Пролетарыят . . | 48,2 | 25,6 | 35,5 |
| Паўпролетарыят . | 51,4 | 30,6 | 40,5 |
| Простыя тав. выт. | 63,3 | 40,6 | 51,9 |
| Дробн. капіт. гасп. | 64,8 | 44,4 | 54,7 |

Пэўна, што тутака мы маем яшчэ адбітак мінулых гадоў, калі пісьменнасьць была даступна амаль што выключна больш-менш заможным гаспадаром. Пацьвярджэньне гэтаму мы знаходзім ніжэй пры высьвятленьні шляхоў, якімі пісьменнасьць наогул прайшла ў вёску.

Зараз трэба спыніцца толькі яшчэ на аднэй групе сялянскіх гаспадарак, якія вылучаны пры апрацоўцы асобна, гаспадарак, у складзе якіх знаходзіўся член партыі або комсамолу. Пісьменнасьць у гэтай групе гаспадарак значна перавышае іншыя групы: пісьменных мужчын—73,2%, жанчын—50,5%, адобвух радоў—62,8%.

Бясспрэчнасьць уплыву школы на быт і культурнасьць сялянскай сям'і патрабавала высьвятленьня пытаньня аб тых крыніцах, адкуль пісьменнасьць прайшла ў вёску. З усіх пісьменных у абсьледваных гаспадарках у 1929 г. 34,9% навучыліся пісьменнасьці ў дорэволюцыйны час, у старой школе: атрымаўшыя першыя веды ў савецкай школе складаюць 58,9% і 6,2% пісьменных— самавучкі і здабыўшыя пісьменнасьць па-за школай. Жанчыны пераважна атрымалі пісьменнасьць у пасьлярэволюцыйны час: $^{2}/_{3}$ пісьменных жанчын (66,7%) навучыліся ў савецкіх навучальных установах; сярод вучыўшыхся ў старых школах жанчыны складаюць 30,5%, а ў складзе атрымаўшых пісьменнасьць у савецкіх навучальных установах жанчыны займаюць 46%.

Асаблівай увагі заслугоўвае пытаньне аб ролі лікпунктаў, як адным з рэчышчаў, па якім цячэ пісьменнасьць у вёску. 6,6% пісьменных з ліку вучыўшыхся ў савецкіх навучальных установах падае на скончыўшых лікпункты. З гэтай колькасьці больш ¾ складаюць жанчыны (76,1%). Наогул-жа сярод пісьменных жанчын, што атрымалі першую адукацыю ў савецкіх навучальных установах, скончыўшыя лікпункты складаюць 10,8%

Такім чынам пераважную частку пісьменнага сялянства складаюць тыя, што атрымалі пісьменнасьць у савецкіх навучальных установах. Гэтая перавага надзвычайна рэзка выяўляецца сярод жанчын; атрымаўшыя з іх першую адукацыю ў савецкіх навучальных установах у 2½ разы перавышаюць колькасьць тых, што навучыліся пісьменнасьці ў старой школе.

Разглядаючы крыніцы атрыманьня пісьменнасьці па розных соцыяльна-экономічных групах сялянства, мы знаходзім досыць яскравае пацьвярджэньне клясавасьці старой школы.

| Соцыяльна-экономічныя групы | Атрымалі пісьменнасьць | |
|---|---|---|
| | У старой школе | У савецкіх на вуч. установах |
| | У адносных велічынях | |
| Пролетарыят | 22,9 | 77,1 |
| Паўпролетарыят | 37,9 | 62,1 |
| Простыя тав. выт. | 37,4 | 62,6 |
| Дробн. капіт. гасп. | 43,2 | 56,8 |

Тутака мы бачым розьніцу ў ахапленьні школамі пісьменнасьці паасобных соцыяльна-экономічных груп вясковага насельніцтва ў стары час і ў пасьлярэволюцыйныя гады. Старая школа ў бядняцкую, пролетарскую групу дала 22,9% усіх наяўных пісьменных, а ў групу заможнага сялянства—43,2%, пры чым прамежныя групы (паўпролетарыят і простыя таваравытворцы) не парушаюць правільнасьці гэтага шэрагу. Наадварот, клясавая савецкая школа, як крыніца пісьменнасьці, ахапляе ў бядняцкай групе больш чым ¾ наяўных зараз пісьменных. Колькасьць атрымаўшых пісьменнасьць у савецкіх навучальных установах у пролетарскай групе перавышае больш чым у 3 разы пісьменных, што навучыліся ў старой школе.

У выніку мы павінны констатаваць моцны зрух у справе зьнішчэньня няпісьменнасьці сярод сялянства нават і за апошнія тры гады. Мы маем значнае павялічэньне проценту пісьменнасьці сярод жанчын. Аднак усё-ж такі перад намі стаіць яшчэ нямалая работа па канчатковай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сялянства. Пасьпяховасьць перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычнай падставе, пасьпяховасьць перабудовы быту вёскі стаіць у непасрэднай залежнасьці ад тэмпаў зьнішчэньня няпісьменнасьці і культурнага ўздыму сялянскіх гушчаў. Гэтая задача паўстае зараз перад намі і яна павінна быць выканана.

## III.

Побач з пытаньнем аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сялянства стаіць ня менш значнае пытаньне аб замацаваньні яе ў колах навучыўшыхся пісьменнасьці.

Пэўна, пытаньне аб страце сваёй пісьменнасьці, што пастаўлена ў програму культурна-бытавога абсьледваньня вёскі, не змагло даць больш-менш поўнага малюнку разьмераў гэтых выпадкаў з тае прычыны, што прыняты ў абсьледваньні % адбору для высьвятленьня зьявішчаў, якія ня маюць масавага характару, не зьяўляецца дастатковым. Аднак і атрыманае ў выніку абсьледваньня кажа аб тым, што выпадкі страты пісьменнасьці не аднолькавы. Зразумела, да гэ-

тых даных трэба падыходзіць вельмі асьцярожна і на ўстаноўленым абсьледваньнем % страты пісьменнасьці, што атрымана ў старой школе (1,1 %), нельга моцна грунтавацца, аднак наяўнасьці яго нельга не заўважваць. (Цікава адзначыць, што больш паловы выпадкаў страты пісьменнасьці прыпадае на жанчын).

Разам з гэтым уяўляе значную цікавасьць ступень скарыстаньня сваёй пісьменнасьці, і таму заслугоўвае ўвагі пытаньне аб чытаньні кніг і газэт сялянствам.

У выніку распрацоўкі матар'ялаў абсьледваньня 1929 г. мы маем наступны малюнак скарыстаньня кнігі ў сялянскіх сем'ях:

44,3 % ахопленых абсьледваньнем гаспадарак маюць сувязь з бібліотэкай, якую скарыстоўваюць для атрыманьня кніг для чытаньня. Гэты процант у адносінах да гаспадарак, якія маюць у складзе сваёй сям'і пісьменных, складае 47,5 %. Па гаспадарках, што маюць у сваім складзе членаў партыі і КСМ, % сем'яў, што карыстаюцца для чытаньня кнігамі з бібліотэк, значна вышэй (77,4 %).

Па асобных соцыяльна-экономічных групах найбольшы % гаспадарак з чытаючымі кнігі з бібліотэкі дае група простых таваравытворцаў (49 % усіх гаспадарак, што маюць у складзе сям'і пісьменных), найменшы процант (25,4) прыпадае на групу пролетарыяту.

Удзел жанчын-сялянак у масе чытачоў вясковых бібліотэк складае менш трэцяй часткі ўсіх тых, хто карыстаецца бібліотэчнымі кнігамі (32,1 %) і па асобных групах не наглядаецца рэзкіх хістаньняў (ад 31 % у групе пролетарыяту і 38,7 % у групе паўпролетарскіх гаспадарак). У адносінах да колькасьці пісьменных рознага роду суадносіны чытачоў бібліотэчных кніг некалькі іншыя: з усіх пісьменных мужчын карыстаюцца бібліотэчнымі кнігамі 36,8 %, а з пісьменных жанчын—толькі 25,4 %.

Каб узважыць ступень зьвязанасьці сялянства з кнігай праз бібліотэку, досыць заўважыць, што вытвараны ў лютым месяцы 1930 г. перапіс рабочых цэнзавай прамысловасьці ў Віцебскай акрузе, які ахапіў каля 13.000 чалавек рабочых, паказаў, што толькі 22,8 % пісьменных рабочых і работніц чытаюць кнігі з бібліотэк; па даных культурна-бытавога абсьледваньня вёскі 1929 г. 32,1 % пісьменных сялян у апытаных гаспадарках трымаюць сувязь з бібліотэкай.

Прыведзеныя лічбы кажуць аб імкненьні сялянства да кнігі, да ведаў.

Удзел паасобных соцыяльна-экономічных груп сялянства ў вясковай кліентуры нашых вясковых бібліотэк па матар'ялах абсьледваньня прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| | | |
|---|---|---|
| чытачы з групы | пролетарыяту склад. | — 2,0 % |
| „ „ „ | паўпролетар. „ | — 8,7 % |
| „ „ „ | прост. тав. выт. „ | — 83,8 % |
| „ „ „ | дробн. капіт. гас. „ | — 5,5 % |

Па асобных узросных групах найбольш вялікі % чытачоў кніг з ліку пісьменных даюць 16-ці і 17-цігадовыя (мужчыны—50 %, жанчыны—31 %); больш старыя ўзросныя групы даюць паступовае зьніжэньне, і ва ўзросьце 40 г. і старэй мы маем чытаючых кнігі: мужчын—19 % і жанчын—10,3 % з усёй колькасьці пісьменных гэтай узроснай групы.

Усімі чытачамі кніг у абсьледваных гаспадарках у працягу 1928/1929 году было прачытана 25.021 кніга, узятая з бібліотэк, пры чым мужчынамі прачытана 18675 кніг і жанчынамі—6.346 кніг.

У сярэднім на 1 чытача-селяніна у год прышлося 17,6 прачытаных кніг і на адну сялянку—12,7 кніг. Гэтыя сярэднія велічыні рэзка зьмяняюцца ў групе гаспадарак, што маюць у сваім складзе членаў партыі ці комсамолу, дзе на 1 чытаючага мужчыну прыпадае ў год да 25 прачытаных кніг і на жанчыну—да 14 кніг.

Найбольш актыўнымі чытачамі зьяўляюцца мужчыны ва ўзросьце ад 23 да 29 год (больш 19 прачытаных кніг на 1 чытача) і жанчыны—ва ўзросьце 16 і 17 год, якія ў сярэднім прачыталі каля 17 кніг.

Па даных абсьледваньня бібліотэк гор. Віцебску на кожнага кліента бібліотэк у сярэднім за той-жа час прыпадае 25 прачытаных кніг. Калі ўлічыць, што ў масе чытачоў гарадзкіх бібліотэк значную частку складаюць служачыя, актыўнасьць якіх у скарыстаньні бібліотэк вялікая, дык у параўнаньні з вышэйпрыведзенай колькасьцю бібліотэчных кніжок,

што чытаюцца сялянствам, актыўнасьць рабочых у чытаньні кніг не намнога перавышае сялянскую.

Пэўна, трэба памятаваць, што пролетарыят гораду мае для здавальненьня сваіх культурных запатрабаваньняў сетку клюбаў, чырвоных куткоў ды інш. політасьветных устаноў. Сялянства яшчэ недастаткова забясьпечана апошнімі і часткова запаўняе гэты прабел кнігамі з бібліотэк.

Нельга пакінуць бяз увагі яшчэ і той факт, што не на ўсе 100% сельскія бібліотэкі паводле зьместу кніг адпавядаюць свайму прызначэньню: калі ў выніку бібпаходу нават з гарадзкіх бібліотэк, якія комплектаваліся больш-менш уважліва і ў якіх кнігі пэрыодычна падчышчаліся, зараз вынялі з звароту нямалую колькасьць шкодных і непатрэбных кніжок, дык у сельскіх бібліотэках гэтых кніг у 1928-29 годзе было вельмі шмат. Такім чынам пры значным запатрабаваньні на кнігу з боку селяніна-чытача, мы незаўсёды здавальняем яго належнай літаратурай.

Пашырэньне сеткі вясковых бібліотэк, перагляд усёй наяўнай у іх літаратуры з мэтаю ачышчэньня вясковых бібліотэк ад кніжнага сьмецьця і кніг шкоднага зьместу і папаўненьне іх кніжнага фонду—вось задачы, якія настойліва патрабуюць зараз свайго вырашэньня.

Апрача кніг, што бяруцца чытачамі-сялянамі з бібліотэк, нямалы запас кніг, і пры гэтым надзвычайна align рознастайнага зьместу, знаходзіцца на кніжных паліцах, у шафах і скрынях у сялянскіх хатах.

На гэтых «кніжных фондах» павінна быць асабліва завострана ўвага грамадзкасьці і вясковых працаўнікоў асьветы. Калі рознае сьмецьце, якое можа стварыць шкодны ўплыў на прагнага да ведаў селяніна, мы старанна выкідваем з бібліотэк у парадку кіраваньня ўстановамі політасьветы, дык падобнае, а ў іншым выпадку і яшчэ больш шкоднае кніжнае сьмецьце ня так проста скінуць з паліцы сялянскай хаты. Кніга, што знаходзіцца заўжды ў хаце, прачытваецца абавязкова ўсімі пісьменнымі сябрамі гэтай сям'і амаль што заўсёды па некалькі разоў, перачытваецца і ўслых (для няпісьменных і малапісьменных), і такім чынам уплыў зьместу такой кніжкі значна больш за тую, якую прынёс абы-хто з сяброў сям'і з бібліотэкі на кароткі абмежаваны тэрмін. Тая акалічнасьць, што за кніжку гаспадар калісь вылажыў грошы, павялічвае ў вачох сям'і яе каштоўнасьць, і мы маем шмат выпадкаў, калі кніжка захоўваецца сям'ёй не адзін дзесятак гадоў.

Абсьледваньнем 1929 году была выяўлена наяўнасьць розных кніг у 959 гаспадарках (ці у 58,9% усіх абсьледаваных гаспадарак) з агульнай колькасьцю ў 19.876 экзэмпляраў. Кнігі знаходзіліся, паміж іншым, нават у гаспадарках, у якіх зараз, у часе абсьледваньня, ня было ніводнага пісьменнага сябра сям'і (у 18 сем'ях, ці ў 16,4% гаспадарак гэтай «няпісьменнай» групы); пэўна, у іх кніг ня шмат (55 экз., ці 0,3% усёй наяўнай колькасьці па сялянскіх хатах) ,але і яны зьяўляюцца ў большасьці першай кніжкай, па якой робяць спробу навучыцца пісьменнасьці. Трэба сказаць, што палова іх—рэлігійнага зьместу .

Значная частка ўсіх кніг, што знаходзяцца па сялянскіх хатах, згрупавана ў гаспадарках, якія маюць у сваім складзе членаў партыі і комсамолу. Гэтая група, якая складае ва ўсіх абсьледваных гаспадарках 9,8%, мае ў сябе 28,6% усіх кніжок, што выяўлены пры абсьледваньні, і ў сярэднім на кожную з гэтых гаспадарак прыпадае па 41,2 кніжкі. Аднак, нават і ў гэтай групе мы бачым 13,2% сялянскіх двароў, дзе няма ніводнай кніжкі.

Кнігі, што знаходзяцца па хатах, у значнай сваёй частцы мала адпавядаюць па свайму зьместу запатрабаваньням, якія мы прад'яўляем да бібліотэк. Досыць сказаць, што 28% усяго гэтага кніжнага фонду складаюць выданьні дарэволюцыйнага часу. У «няпісьменных» гаспадарках процант кніг старога выданьня дасягае 67,3%; нават па гаспадарках, у склад якіх уваходзяць члены партыі ці комсамолу, кнігі старых выданьняў займаюць значнае месца (23,7%).

Па асобных соцыяльна-экономічных групах кнігі дарэволюцыйных выданьняў, улічаныя пры абсьледваньні 1929 г., у пераважнай большасьці (77,1%) згру-

паваны ў гаспадарках групы простых таваравытворцаў, але тутака яны займаюць толькі 26,5% усёй кніжнай масы, што знаходзяцца ў хатах гэтых гаспадарак. У групе дробна-капіталістычных гаспадарак дарэволюцыйныя выданьні, пры невялікай удзельнай вазе (15,2% усіх кніг старых выданьняў) займаюць вельмі значнае месца, складаючы 46,7% усіх кніг, што знаходзяцца ў гэтых гаспадарках.

Якога-ж зьместу кнігі заўжды знаходзяцца ў сялянскіх хатах?

Матар'ялы абсьледваньня даюць на гэтае запытаньне наступны адказ: найбольшую частку кніг (25,5%) складаюць падручнікі, каляндары і г. д. Па бядняцка-серадняцкіх групах кнігі гэтага зьместу перавышаюць паказаны сярэдні % і па пролетарскай групе нават дасягаюць 39,2%; па заможных гаспадарках гэты процант зьніжаецца да 22,3%.

На другім месцы стаяць кнігі па пытаньнях сельскай гаспадаркі. У сярэднім яны складаюць 24,7% усіх кніг, што знаходзяцца па хатах. Па гаспадарках, у склад якіх уваходзяць члены партыі ці комсамолу, сельска-гаспадарчая літаратура складае больш ¼ часткі ўсіх наяўных там кніг (28,4%).

Гэтыя два падзелы—падручнікі, даведнікі і сельская гаспадарка—складаюць больш паловы (54,2%) усіх наяўных па хатах кніжок. Калі замест «казкі аб Бове Каралевічу» селянін трымае ў хаце кніжку па паляводзтву і замест «сьпеўніка» падручнік, гэта ўжо кажа аб значным уздыме сьвядомасьці сялянства.

Кніжкі па грамадазнаўству складаюць каля 0,1 часткі ўсёй кніжнай масы, што знаходзіцца ў вясковай хаце (9,7%), пры чым па групе гаспадарак комуністых і комсамольцаў гэтыя кнігі складаюць 13,3% і па пролетарскай групе гаспадарак—12,5%.

Апошняе месца займае аддзел тэхнікі і рамяства. Яго ўдзельная вага сярод кніг, што знаходзяцца ў бядняцкіх гаспадарках, надзвычайна малая (2,3%) і нязначна большая ў заможных групах (4,5%). Прычыну гэтага трэба шукаць, па-першае, у невялічкай колькасьці выдаваемай наогул популярнай літаратуры ў гэтай галіне і, па-другое, відавочна, у няўважлівасьці да ўздыму зацікаўленасьці да гэтай літаратуры сярод працоўнага сялянства з боку бібліотэчных і іншых работнікаў на месцах.

Кнігі бэлетрыстычнага зьместу займаюць $^1/_5$ частку ва ўсёй масе кніжок (19,9%), пры чым найбольшая ўдзельная вага іх у дробна-капіталістычных гаспадарках, дзе яны складаюць 28,2% і найменшая—у групе пролетарскіх гаспадарак (16,5%).

Урэшце трэба спыніцца асабліва на кнігах, рэлігійнага зьместу, што знаходзяцца, ў сялянскіх хатах. Гэтакія кнігі былі знойдзены ў гаспадарках усіх груп і, у параўнаньні з кнігамі антырэлігійнымі, апошнія маюць вельмі малую перавагу.

| Групы гаспадарак | % кніжок | |
|---|---|---|
| | Рэлігійнага зьместу | Антырэлігійных |
| Пролетарскія . . . . . | 6,3 | 3,4 |
| Паўпролетарскія . . . . | 3,1 | 7,3 |
| Прост. тавар вытвор. . | 4.3 | 5,9 |
| Дробн. капіт. гаспад. . | 6,2 | 2,1 |
| **Разам** . . . . . . | 4,4 | 5,6 |

Значны % рэлігійных кніг у групе пролетарскіх гаспадарак тлумачыцца тым, што сюды ўвайшлі і кніжкі, якія знаходзяцца ў гаспадарках, якія ня маюць у складзе сям'і пісьменных.

З 959 гаспадарак, у якіх пры абсьледваньні былі знойдзены тыя ці іншыя кнігі, 62,7% гаспадарак мелі кнігі па сельскай гаспадарцы. Гэта кажа аб досыць сьвядомым падыходзе сялянства да падбору кніг і аб належнай ацэнцы імі кнігі, як дапаможніка ў справе палепшаньня свайго жыцьця.

Кнігі па грамадазнаўству знаходзяцца ў 37% гаспадарак, пры гэтым у групе Б (з членамі партыі і КСМ у складзе сям'і) яны знаходзяцца ў 74,6% гаспадарак, што маюць у хаце кнігі.

Па колькасьці сем'яў, якія маюць кнігі рэлігійнага і антырэлігійнага зьместу, першыя займаюць пераважнае месца: кнігі рэлігійныя знаходзяцца ў 31% гаспадарак, а антырэлігійныя—толькі ў 26,7% усіх гаспадарак, што маюць у хаце кнігі. У групе гаспадарак, што маюць

у сваім складзе членаў партыі ці комсамолу (група Б), антырэлігійная літаратура знайшлася ў 59,4% сем'яў; сярод гаспадарак дробна-капіталістычнай групы рэлігійныя кнігі ёсьць у 65,6% сялянскіх двароў, а антырэлігійныя—толькі ў 18%.

Колькасьць кніг, што знаходзіцца у кожнай асобнай хаце, невялікая: толькі 193 гаспадаркі (20,3%) маюць кнігі ў колькасьці больш 25 экз., а 58,8% гаспадарак маюць кнігі ў колькасьці да дзесяці экзэмпляраў.

Прымаючы пад увагу, што значную кастку кніг, што знаходзяцца па хатах, прадстаўляюць з сябе невялікія брошуры паказальныя вышэй лічбы кажуць аб невялікім багацьці «хатніх бібліотэк» сялянства. Калі-ж улічыць нашы вясковыя бібліотэкі пры хатах-чытальнях, чырвоных куткох і інш., не багатых ні колькасьцю, ні дасканалым падборам літаратуры, дык прыходзіцца прызнаць яшчэ нездавальняючай ступень забясьпечанасьці нашай вёскі патрэбнай кнігай

Гаворачы аб кнігах, якія знаходзяцца ў сялянскіх хатах, трэба спыніцца на разьмерах куплі кніг сялянствам. Даныя кнігагандлюючых організацый, кліентура якіх у пераважнай большасьці складаецца з насельніцтва мястэчак, служачых, асьветработнікаў і г. д., ня могуць даць адказу на гэтае запытаньне, і толькі матар'ялы культурна-бытавога абсьледваньня вёскі 1929 г., якое мела сваім аб'ектам выключна гаспадаркі сялянскага тыпу, некалькі высьвятляе гэтае пытаньне.

У выніку падлічэньня выпадкаў куплі сялянствам кніг, мы знаходзім наступнае пацьверджаньне паказанага вышэй імкненьня сялянскай масы да кніг, да ведаў.

Сярод ахопленых абсьледваньнем сялянскіх гаспадарак мы знаходзім 31,4% сялянскіх двароў, якія выдаткавалі свае грошы на куплю кніг.

Першае месца па ліку выпадкаў куплі і колькасьці купленых кніг займаюць гаспадаркі групы Б (што маюць у сваім складзе членаў партыі і комсамолу): у працягу 1928-29 году 70% гаспадарак гэтае групы рабілі выдаткі на куплю кніг.

Процант гаспадарак, што куплялі ў мінулым годзе кнігі па асобных соцыяльна-экономічных групах, хістаецца ў непасрэднай залежнасьці ад экономічнай моцнасьці гаспадарак: пролетарыят—11%, паўпролетарыят—18%, простыя таваравытворцы—34,5% і дробна капіталістычныя гаспадаркі—39,7%.

Уся колькасьць здабытых за год аднаасабовымі сялянскімі гаспадаркамі кніг па асобных соцыяльна-экономічных групах разьмяркоўвалася наступным чынам: пролетарыят—0,5%, паўпролетарыят—5,7%, простыя таваравытворцы—84,6% і дробныя капіталістычныя гаспадаркі—9,2%.

Ацэньваючы ўдзельную вагу гаспадарак, якія рабілі выдаткі на куплю кніг, трэба мець на ўвазе час, ахоплены абсьледваньнем, менавіта, 1928-29 год, год вельмі напружанага для сялянства экономічнага становішча, якое зьявілася вынікам недароду хлябоў на Віцебшчыне ў 1928 годзе.

Гэтая акалічнасьць не магла не адбіцца на паказальніках выдаткаў на куплю кніг, і гэтым жа павінен тлумачыцца прыведзены вышэй % удзелу бядняцкіх груп гаспадарак у спажываньні выкідваемай на кніжны рынак продукцыі.

Апрача гэтага, нельга не адзначыць і ўплыў на паказаныя суадносіны спажыўцоў кніг, які зрабіла адсутнасьць досыць разьвітай у 1928-29 годзе сеткі пунктаў кніжнага гандлю і недастатковасьць увагі да гэтага «тавару» (кнігі) з боку працаўнікоў сельскіх спажытаварыстваў.

Пытаньне аб кнігах, што знаходзяцца на паліцах і ў скрынях па сялянскіх хатах, ніколі ня спыняла на сябе ўвагі бібліотэчных і політасьветпрацаўнікоў, і калі ў гэтым мы ня будзем мець перамены, дык яшчэ доўгі час гэта будзе адмоўна адбівацца на выніках нашых мерапрыемстваў у галіне масавай культасьветнай работы. Нават самы грубы падлік такіх кніг дае лічбу да мільёну экзэмпляраў. Гэта толькі па Віцебшчыне. З усіх кніг, якія знаходзяцца па хатах, абсьледваных у 1929 г., 28,7% складаюць кнігі дарэволюцыйных выданьняў. Калі з апошніх можа і знойдзецца некаторы процант кніг, якія альбо маюць каштоў-

насьць і сёньня, альбо простай шкоды не прынясуць, дык усёроўна мы маем кніжную масу ў сотні тысяч экзэмпляраў кніг бясспрэчна шкоднага зьместу. Гэтыя старыя кнігі здольны яшчэ нямалы час атручваць мазгі сялян.

Гэтая акалічнасьць прымушае заразжа ставіць пытаньне аб спосабах да паступовай ліквідацыі гэтых старых кніжных запасаў з адначасовай работай па замене іх сучаснай літаратурай. Побач з чысткай бібліотэк трэба знайсьці шлях і да кніжнай паліцы сялянскай хаты.

Таксама—пашырэньне пунктаў кніжнага гандлю ў сельскіх мясцовасьцях, больш уважлівыя адносіны да гэтага гандлю работнікаў вясковай коопэрацыі, разьвіцьцё кніганоства ў сельскіх мясцовасьцях, больш дасканалы вучот попыту сялянства на кнігі і, нарэшце, рашучыя мерапрыемствы да зьніжэньня цэн на кнігі—вось тое, што патрабуе хуткага правядзеньня ў жыцьцё для задавальненьня ўзрастаючай цікавасьці сялянства да кнігі і накіраваньня гэтай цікавасьці ў належным напрамку.

---

ХВ. СЬЦЕПАНЮК

# ЛІКВІДАЦЫЯ НЯПІСЬМЕННАСЬЦІ— ЗАДАЧА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

На даным этапе нашага разьвіцьця адсталасьць, цемра, няпісьменнасьць вялікай колькасьці працоўных мас у БССР зьяўляецца найвялікшай перашкодай ва ўсёй справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Абсолютна патрэбна яшчэ і яшчэ раз падкрэсьліць гісторычны наказ У. І. Леніна на 3-м зьезьдзе комсамолу ў 1920 г. У. І. Ленін казаў: «Перад вамі стаіць задача гаспадарчага адраджэньня ўсяе краіны, рэорганізацыя, адбудаваньне земляробства і прамысловасьці на сучаснай тэхнічнай падставе, якая абапіраецца на сучасную навуку, тэхніку, электрычнасьць. Вы добра ведаеце, што няпісьменныя людзі да электрыфікацыі ня прыдуць. І мала тут аднэй простай пісьменнасьці. Тут мала разумець, што такое электрычнасьць. Трэба знаць, як тэхнічна прыстасаваць яе і да прамысловасьці, і да земляробства, і да асобных галін прамысловасьці, і земляробства. Трэба навучыцца гэтаму самім, трэба навучыць гэтаму ўсё падрастаючае працоўнае пакаленьне».

Далей ён кажа: «Усе гавораць аб ліквідацыі няпісьменнасьці. Вы ведаеце, што ў краіне няпісьменнай нельга пабудаваць комуністычнае грамадзтва.

Але мала аднаго таго, каб савецкая ўлада аддала загад, альбо, каб партыя дала належны лёзунг, кінула пэўную частку лепшых працаўнікоў на гэтую справу. Для гэтага трэба, каб маладое пакаленьне ўзялося за гэтую справу».

Гэты наказ У. І. Леніна набывае выключнае значэньне, асабліва ў сучасны пэрыод, калі партыя паставіла ў якасьці аднае з ударных задач—пагалоўную ліквідацыю няпісьменнасьці сярод усяго працоўнага насельніцтва.

Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б паставіў практычную задачу сёньняшняга дня «поўнаю ліквідацыю няпісьменнасьці сярод рабочых, сяброў профсаюзу ва ўзросьце ад 12-ці да 50-ці год на працягу 1930 году, сярод астатняга працоўнага насельніцтва—ва ўзросьце ад 12 да 45-ці год на працягу часу да канца 1931 году».

У адпаведнасьці з гэтым Народны комісарыят асьветы БССР перабудаваў пяцігадовы плян у аднагадовы і апошні плян канчатковай усеагульнай ліквідацыі няпісьменнасьці на працягу 1930-31 году.

Гэты плян прадугледжвае поўнасьцю зьліквідаваць няпісьменнасьць сярод усіх працоўных наогул ва ўзросьце ад 12 да 45-ці год і асобна сярод рабочых, сяброў саюзу ва ўзросьце ад 12 да 50 год.

Паводле гэтага пляну вызначана ліквідаваць няпісьменнасьць на працягу

1930-31 году сярод 633,984 чал., якіх мы яшчэ маем на сёньняшні дзень няпісьменнымі.

Па сваіх разьмерах і тэмпах гэты плян у два разы перавышае ўсе папярэднія пляны, усю работу і за ўсе апошнія гады, пачынаючы з 1923-24 году і канчаючы 1929 годам.

Асаблівасьць пляну зьмяшчаецца яшчэ і ў тым, што згодна яго максымальна пашыраны контынгент падлягаючых ліквідацыі сваёй няпісьменнасьці. Раней вызначаны плянамі контынгент так званага «актыўнага насельніцтва» ва ўзросьце ад 12 да 35 год зараз павялічаны да 45 год наогул сярод усяго працоўнага насельніцтва і да 50 год сярод рабочых, сяброў саюзу.

Такім чынам гэты апошні пляновы год зьявіцца пераломным годам усяго соцыялістычнага будаўніцтва і гісторычным годам пролетарскай рэволюцыі.

Называем мы яго гісторычным менавіта таму, што мы вырашаем асноўную задачу—пагалоўную ліквідацыю няпісьменнасьці.

Трэба з усёй адказнасьцю адзначыць, што вызначаны плян ліквідацыі няпісьменнасьці сярод больш чым паўмільёну чалавек зьяўляецца вялікім і надзвычайна напружаным.

Але-ж ён (плян) выключна неабходзен і вымагаецца сучасным рэволюцыйным тэмпам і новымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Асноўнай гарантыяй выкананьня пляну ўсеагульнай ліквідацыі няпісьменнасьці зьяўляецца, па-першае, нябачаны бурны рост усяго соцыялістычнага будаўніцтва, што падводзіць матар'яльную і моральную базу, па-другое, уздым творчай ініцыятывы, энэргіі і актыўнасьці самых шырокіх колаў працоўных, што вылілуся ў магутную хвалю соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Усё гэта дае поўную гарантыю практычнага ажыцьцяўленьня пляну сіламі і сродкамі мільённых працоўных мас.

Пастаўленая практычная задача сёньняшняга дня — пагалоўная ліквідацыя няпісьменнасьці — зьяўляецца сапраўды грандыёзнай, органічна зьвязанай з агульнай задачай ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва.

Яна «настойліва патрабуе рашучага пералому ў далейшай рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці».

«ЦК УсеКП(б) лічыць неабходным карэнным чынам перабудаваць усю сыстэму работы на аснове выніку здабытага вопыту і дабіцца плянамернай організацыі ўсяе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці на падставе адзінага пляну, аб'яднаньня сіл, сродкаў і шырокай самадзейнасьці ўсіх організацый, якія прымаюць удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці».

Гэтая пастанова ЦК УсеКП(б)Б набывае асабліва важнае і рашаючае значэньне. Справіцца з пастаўленай задачай ў такі кароткі тэрмін можна толькі тады, калі «ўсе сілы», «усе сродкі», «уся работа будзе аб'яднанай у адзіны плян» вялікага гісторычнага паходу за пролетарскую культуру, за пісьменнасьць.

Трэба мобілізаваць усе партыйныя, савецкія, комсамольскія, профсаюзныя, т-вы «прэч няпісьменнасьць», коопэрацыйныя і іншыя грамадзкія організацыі на гэтую справу. «Прыцягнуць да работы ліквідацыі няпісьменнасьці членаў партыі, комсамолу, пролетарскае студэнцтва, вучняў старэйшых груп школ II ступені, асьветнікаў і іншых груп савецкай інтэлігенцыі ў горадзе і ў вёсцы. Прыраўняць гэтую работу да партыйнай, комсамольскай і грамадзкай нагрузкі. Шырока ажыцьцяўляць на справе лёзунг—«Кожны пісьменны павінен навучыць няпісьменнага».

Стаўка на грамадзкасьць, на ўсіх пісьменных працоўных павінна быць асноўным і рашаючым зьвяном усяе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Між тым трэба адзначыць, што ў сучаснай нашай рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці гэтага «рашаючага пералому» яшчэ няма. Мала таго, у сваёй пераважнай большасьці, падкрэсьліваю, нізавыя організацыі, пачынаючы з сельскіх саветаў, ФЗМК і канчаючы партыйнымі, комсамольскімі ячэйкамі і райкомамі, у лепшым выпадку злачынна мала, а ў горшым—зусім не займаюцца пытаньнем ліквідацыі няпісьменнасьці.

Пакуль што справа ліквідацыі няпісьменнасьці ў гэтых організацыях ставіцца на апошняе месца. Пра гэта зусім не

двухсэнсоўна гаварылі прадстаўнікі ФЗМК, нават буйнейшых нашых фабрык і заводаў (ф-ка «Дзьвіна», «Бярэзіна», «Домбаль» ды інш. на ўсебеларускай культнарадзе.

Адно тое, што сельскія саветы, асабліва культсэкцыі і дзе-ні-дзе створаныя комісіі садзейнічаньня зусім не займаюцца справай ліквідацыі няпісьменнасьці, што т-ва «П. Н.» не зьявілася організуючым асяродкам мобілізацыі ўсяе савецкай грамадзкасьці, што профсаюзы, асабліва ФЗМК, недастаткова ўдзельнічаюць, што комсамольскія організацыі слаба ўдзельнічаюць, зьяўляецца бясспрэчным фактам становішча работы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Тут патрэбна і ў тэрміновым парадку ўвага партыйных організацый.

Вось чаму ЦК УсеКП(б)Б у сваёй пастанове ўсклаў адказнасьць за «рашучае ўзмацненьне тэмпу ліквідацыі няпісьменнасьці на партыйныя організацыі, лічачы, што «ў агульнай рабоце павінны забясьпечыць сапраўднае і сыстэматычнае кіраўніцтва работай і ўзмацненьне партыйнымі сіламі органы, якія працуюць па ліквідацыі няпісьменнасьці (комісіі па ліквідацыі няпсьменнасьці, саветы ПН, органы народнай асьветы).

Асноўным пытаньнем практычнага ажыцьцяўленьня пастаўленых задач у галіне ліквідацыі няпісьменнасьці бясспрэчна зьяўляецца пытаньне кадраў.

Для таго, каб ахапіць сталай сеткай лікпунктаў усіх няпісьменных, якіх налічваецца 633.984 чал., трэба організаваць 25.358 сталых лікпунктаў. Для работы ў гэтых лікпунктах патрэбна 25.358 адных ліквідатараў.

Аднак, улічваючы, што ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, значнае месца займае групавое і індывідуальнае навучаньне, трэба дадаткова пашырыць агульную сетку лікпунктаў і асабліва груп у некалькі дзесяткаў разоў.

Такім чынам паўстае зусім рэальнае пытаньне: ці ёсьць у наяўнасьці патрэбныя нам кадры ліквідатараў? Адкуль іх узяць і як падрыхтаваць іх?

На ўсе пастаўленыя пытаньні трэба адказаць станоўча: у нас кадры ёсьць, кадрамі мы забясьпечаны.

Разгледзім, з каго павінны будуць складацца гэтыя кадры. Трэба разглядаць гэтыя кадры, з аднаго боку, у якасьці апорных кадраў, організатараў-кіраўнікоў, мэтодыстых справы ліквідацыі няпісьменнасьці і, з другога—асноўных масавых кадраў ліквідатараў няпісьменнасьці.

Прыцягненьне ўсяго пісьменнага працоўнага насельніцтва да работы па ліквідацыі няпісьменнасьці ёсьць асноўная гарантыя выкананьня пастаўленай партыяй задачы на працягу аднаго 1930-31 году зьліквідаваць няпісьменнасьць сярод усяго працоўнага насельніцтва.

У. І. Ленін некалькі разоў падкрэсьліваў, што «мы павінны ўзяцца за простую, самую неабходную справу—мобілізацыю пісьменных і барацьбу з няпісьменнасьцю».

Пастаўленую задачу мобілізацыі ўсіх пісьменных на барацьбу з няпісьменнасьцю практычна вырашае пастанова СНК і ЦВК БССР пра мерапрыемствы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага працоўнага насельніцтва.

Згодна гэтай пастановы прыцягваюцца «да бясплатнай работы па ліквідацыі няпісьменнасьці ўсе асобы ад 18 да 50 год, якія не пазбаўлены выбарчых правоў і маюць веды ў аб'ёме курсу 7-годкі, калі яны жывуць у гарадох, альбо ў аб'ёме курсу ня менш 4-годкі, калі яны жывуць у іншых мясцовасьцях».

Па некаторых падліках у БССР агульны лік працоўнага насельніцтва ад 18 да 50 год, які мае веды за 7-мігодку, што жывуць у гарадох і за 4-хгодку, што жывуць у вёсцы, налічваецца некалькі соцень тысяч чалавек. Гэта значыць, калі-б кожны пісьменны выканаў наказ У. І. Леніна—навучыў-бы аднаго няпісьменнага, дык пастаўленая задача была-б выканана з посьпехам.

Культпаход, які шырока разгарнуўся, яскрава паказаў, што толькі дзякуючы актыўнаму ўдзелу грамадзкасьці, удзелу працоўных мас мы дасягнем вялізарных посьпехаў.

Агульныя тэмпы работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, у параўнаньні з мінулымі гадамі, падвоіліся і патроіліся.

Мобілізаваны дзесяткі тысяч найбольш актыўных пісьменных сяброў профса-

юзаў, настаўнікаў, студэнцтва, комсамольцаў, у якасьці культармейцаў, організатараў, ліквідатараў.

Але гэта толькі першыя крокі, пачатак вялікага культпаходу, які стаіць перад намі ў 1930-31 годзе.

Трэба на падставе вынікаў здабытага вопыту культпаходу мобілізаваць выключна ўсю грамадзкасьць, усіх пісьменных працоўных ажыцьцёвіць на справе лёзунг «кожны пісьменны павінен навучыць няпісьменнага».

Такім чынам асноўныя кадры па ліквідацыі няпісьменнасьці павінны складацца з усяго працоўнага пісьменнага насельніцтва. Кожны пісьменны рабочы, батрак, бядняк і серадняк, настаўнік, агроном, урач ,уся савецкая інтэлігенцыя павінны быць актыўнымі культармейцамі вялікай культурнай арміі, якая змагаецца за пролетарскую культуру, за пісьменнасьць.

З найбольш актыўных пісьменных трэба вылучыць кадры організатараў, інструктароў-мэтодыстых. Гэтыя кадры павінны складацца ў першую чаргу з найбольш актыўных грамадчыкаў: сяброў ФЗМК, саветаў і культкомісій, ячэек т-ва «ПН», членаў партыі, комсамолу, настаўніцтва і студэнцтва. Перад пачаткам навучальнага году трэба прапусьціць гэтыя кадры праз розную сетку курсаў, конфэрэнцый, нарады, сэмінары і г. д.

Організаваць у кожным горадзе і раёне 2-х тыднёвыя курсы організатараў, інструктароў-мэтодыстых, ліквідатараў сеткавых лікпунктаў. Прапусьціць праз іх ня менш 5000 чал. (па 45-50 чал. кожныя курсы). Акрамя гарадзкіх і раённых, організаваць і правесьці масавыя курсы ліквідатараў няпісьменнасьці ў лікпунктах, групах, а таксама і індывідуальнага навучаньня. Гэтыя масавыя курсы павінны быць організаваны пры групах прадпрыемстваў, буйных саўгасах, колгасах, пры кустaвых пэдсаветах, хатах-чытальнях, пры школах 7-мігодках, ШСМ ды іншых школах. Такімі масавымі курсамі мяркуецца ахапіць каля 10-15 тысяч культармейцаў. Дадаткова трэба організаваць цэлы шэраг вячэрніх кароткатэрміновых курсаў, сэмінараў з складу студэнцтва для непасрэднай работы па ліквідацыі няпісьменнасьці. У 1930-31 годзе па БССР мы будзем мець усяго студэнцтва каля 15.000 чал. К таму-ж, поўнае скарыстаньне зусім падрыхтаванай і рэальнай культсілы, якая ў сваёй асноўнай масе прымае актыўны ўдзел у справе ліквідацыі няпісьменнасьці—гэта настаўніцтва, якога па БССР налічваецца толькі па першаму і другому концэнтру звыш 12.000 чал.

Гэтая 40-50-тысячная культармія, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, павінна будзе мобілізаваць сотні тысяч усіх пісьменных працоўных і ўцягнуць іх у практычную работу па ліквідацыі няпісьменнасьці.

---

**АЛ. НЕКРАШЭВІЧ**

# УВАГА САМАДЗЕЙНАМУ МАСТАЦТВУ

Мастацтва ва ўсіх яго праявах зьяўляецца надзвычайна моцным сродкам агітацыі і пропаганды. Дзякуючы спэцыфічна ўласьцівым яму сродкам лёгка і прыемна даносяцца часта надзвычайна складаныя ідэі. Мастацтва заўсёды зьяўлялася гостраю зброяю ў руках пануючай клясы. А таму і зразумела, чаму комуністычная партыя і савецкая ўлада ўдзялялі заўсёды пытаньням мастацтва надзвычайную ўвагу. Досыць хаця-б таго, што па пытаньнях паасобных галін мастацтва партыяй скліканіся спэцыяльныя нарады (кіно-партнарада пры АПА ЦК УсеКП(б) 1927 г., кіно-партнарада 1928 г., нарада па пытаньнях музыкі 1929 г. і шэраг іншых). Асабліва значэньне мастацтва набывае зараз у часе абвостранай клясавай барацьбы, калі ў краіне саветаў рашуча і канчаткова выкарчоўваюцца рэшткі капіталізму, і калі вораг, выбіваемы з сваіх позыцый, усё-ж імкнецца адбівацца, выкарыстоўваючы ўсе сродкі, у тым ліку і мастацтва. Важ-

ным гэтае пытаньне зьяўляецца яшчэ і таму, што на базе росту соцыялістычных элемэнтаў у краіне, палепшаньня матар'яльнага дабрабыту працоўных вельмі шпарка растуць і культурныя запатрабаваньні працоўных, у тым ліку і на мастацтва. На сёньняшні дзень цэлы шэраг галін яго і, у прыватнасьці, тэатр зьяўляецца ўжо дэфіцытным таварам, нават пры тым і досыць значным росьце наогул у Саюзе і, у прыватнасьці ў БССР, спэцыяльных устаноў (на сёньняшні дзень мы маем ужо 7 дзяржаўных тэатраў).

Такім чынам, калі гаварыць пра асноўныя задачы ў галіне мастацтва на сёньняшні дзень, дык тут патрэбна, па-першае, самая жорсткая барацьба за пролетарскі зьмест усяе пролетарскае продукцыі і бязьлітасная барацьба з усімі спробамі варожых пролетарскай дыктатуры элемэнтаў, выкарыстаньне мастацтва для сваіх мэт, па-другое, перабудова ўсяго мастацтва паводле зьмяніўшыхся соцыяльных умоў і, нарэшце, колькасны рост саміх мастацкіх устаноў (тэатр, кіно, музыка ды інш.) дзеля задавальненьня ўзросшых культурных запатрабаваньняў шырокіх колаў працоўных.

Рост культурнага ўзроўню і актыўнасьці працоўных мас выяўляецца ня толькі ў тым, што гэтыя масы становяцца ўсё ў большай і большай меры спажыўцом мастацкае продукцыі, але і ў тым, што яны самі становяцца актыўнымі ўдзельнікамі і будаўнікамі мастацтва; мы тут маем на ўвазе надзвычайна шпаркі рост самадзейнага мастацтва ў выглядзе рознастайных (драматычных, музычных, выяўленчага мастацтва) гурткоў.

І калі пытаньням профэсійнага мастацтва мы аддаем досыць багата ўвагі як у сэнсе кіраўніцтва, хоць, праўда, усё яшчэ невыстарчальнага, так і ў сэнсе матар'яльнай дапамогі, дык галіна самадзейнага мастацтва застаецца ў цені, на яго (самадзейнае мастацтва) не зьвяртаем патрэбнай увагі. Між тым, без самадзейнага мастацтва нашы профэсійныя ўстановы ня змогуць задаволіць нават і тысячнай долі запатрабаваньняў працоўных, гэта па-першае, і па-другое, самадзейнае мастацтва, як і профэсійнае, не гарантавана ад уплыву на яго варожай пролетарыяту ідэолёгіі, а таму пры няўважлівых адносінах да яго яна можа быць выкарыстана нашым клясавым ворагам.

Вось чаму насьпела крайняя патрэба ў мобілізацыі ўвагі ўсяе пролетарскай грамадзкасьці, партыйных, савецкіх і профэсійных органаў да пытаньня самадзейнага мастацтва. Вось чаму, пакідаючы ў гэтым артыкуле ў баку профэсійнае мастацтва, што абсолютна ня значыць, што мы гэтым павінны паслабіць сваю ўвагу і пролетарскі контроль, мы зьбіраемся абмеркаваць некаторыя, найбольш насьпелыя пытаньні, што датычацца самадзейнага мастацтва.

Няма, здаецца, ніводнае кампаніі, ніводнага сходу, у якіх ня прымаў-бы удзел драматычны, харавы, альбо якінебудзь іншы гурток. Самадзейныя мастацкія гурткі зьяўляюцца актыўнай сілаю ў нашым будаўніцтве. Але, калі паглядзець, хто-ж і калі дапамагаў гэтым гурткам, хто імі кіруе, дык тут мы ўбачым, што іншыя гурткі, якія так блізка стыкаюцца з працоўнымі масамі, пакінуты і без кіраўніцтва і без дапамогі. І вось, ня гледзячы, аднак, на ўсё тое, што такі самадзейны гурток зьяўляецца пасынкам у любой хаце-чытальні, амаль у такім-жа стане ў рабочым клюбе гурткі ня толькі не зьмяншаюцца, а з кожным годам, асаб ліва драматычныя, якія могуць злучыць у сабе ўсе віды самадзейнага мастацтва, няўхільна растуць і растуць і праводзяць надзвычайна вялікую і адказную работу. Цяжка сказаць, колькі іх і дзе яны існуюць: справай іх вучоту ніхто не займаецца, але досыць таго, што самадзейны мастацкі гурток ёсьць амаль у кожнай хаце-чытальні, у кожным рабочым клюбе.

Адсутнасьць сталага кіраўніцтва самадзейнымі гурткамі прыводзіць да таго, што часта яны, будучы прадастаўленымі самім сабе, захалтурваюцца, месцамі ў іх работу прасочваецца варожая пролетарыяту ідэолёгія, а такія гурткі, карыстаючыся тым, што запатрабаваньні на мастацкую продукцыю надзвычайна вялікія, праводзяць, хочуць яны гэтага, ці ня хочуць, часам проста шкодную работу. Яшчэ ня так даўно ў Галоўрэпэртком адным з менскіх клюбаў была даслана для прагляду і дачы дазволу п'еса на украінскай мове «Запарожац за Дунаем»,

пры чым яна амаль на тры чвэрці ў гуртку ўжо была апрацавана. Людзі лічылі, што пастаноўкай гэтага «шэдэўру» яны робяць нейкую карысьць. Крыху пазьней да мяне зьвярнулася група вясковых гурткоў за дапамогаю, пры чым у гутарцы з імі высьветлілася, што рэпэртуар іх складаецца з усялякіх жахлівых п'ес, як, напрыклад, «Таинственный кинжал» і іншых жудасьцяй. Гэта было-б паўбяды, але бяда ў тым, што людзі былі настолькі пераконаны ў тым, што ўсё гэта сучасны рэпэртуар, што я аніяк ня мог давесьці ім об'ектыўную шкоднасьць іх работы. А хлопцы, паміж іншым, былі ня дрэнныя—энтузыястыя сваёй работы.

Усё гэта прымушае зараз намеціць шэраг мерапрыемстваў, якія-б дапамаглі самадзейнаму мастацтву, уключылі яго як адну з актыўных сіл у справу соцыялістычнага будаўніцтва.

Бязумоўна, што першай задачай павінна быць наладжваньне сталага і сыстэматычнага кіраўніцтва самадзейным мастацтвам. Да гэтага часу здаралася так, што Галоўмастацтва пераважна займалася «верхними этажами» мастацтва, Галоўпалітасьветы лічыла гэтую справу нічога ня вартаю, а ЦСПСБ, нібы таксама ня было ніякай справы да кіраўніцтва самадзейнымі гурткамі. Гэтыя настроі зьверху перадаваліся ўніз аж да раёну, дзе таксама гэтая галіна работы лічылася малаважнаю.

Нам здаецца, што зараз, пры рэорганізацыі апарату НКА, трэба, каб у ідэолёга-мэтодычным сэктары, акрамя інспэктара па мастацтву, быў абавязкова і інспэктар па кіраўніцтву самадзейным мастацтвам, які-б концэнтраваў у сабе ўсю справу кіраўніцтва мастацкімі гурткамі. Існаваньне такой інспэктуры хоць крыху ўпарадкавала-б кіраўніцтва закінутай, амаль на працягу ўсяго часу, галіну нашай работы, і, з другога боку, мобілізавала-б навакол яе грамадзкую думку.

Другое актуальнейшае пытаньне—гэта кадры кіраўнікоў самадзейнымі гурткамі. Дагэтуль гэтай справай займалася катэгорыя працаўнікоў, якая абсолютна ніякай іншай справай займацца не магла. Гэта ў большасьці «пазаштатныя» акторы, бяздольныя мастакі, рэгенты царкоўных хораў і г. д. і г. д. Усё гэта народ, які вельмі і вельмі далёкі ад сучаснасьці, часам аполітычны, а часам нават і варожы нам. Пра мастацкую кваліфікацыю тут гаварыць і ня прыходзіцца: усё гэта элемэнт ў мастацтве вельмі і вельмі выпадковы. Самадзейна-ж мастацтва ня можа адмовіцца ад пэўнага ліку кваліфікаваных кадраў, якія-б маглі, па-першае, накіраваць работу самадзейных гурткоў у патрэбным нам кірунку, а, па-другое, былі-б настолькі кваліфікаванымі, каб маглі аформіць імкненьне працоўных да сапраўднае мастацкае культуры.

Для вырашэньня гэтае справы трэба пераглядзець работу нашых навучальных мастацкіх устаноў. Замест падрыхтоўкі музыкаў для «семейного употребления», музтэхнікум добрую палову выпускаемых ім кадраў павінен рыхтаваць для кіраўніцтва самадзейнымі музычнымі ды харавымі гурткамі. Замест беспрацоўных мастакоў, мастацкі тэхнікум таксама павінен выпускаць у значнай меры кіраўнікоў самадзейных мастацкіх гурткоў. Такой-жа працай, побач з падрыхтоўкай акторскіх кадраў для профэсійных тэатраў, павінен заняцца і адчыняемы ў гэтым годзе тэатральны тэхнікум. На бліжэйшы час мы павінны паставіць сваёй задачай забясьпечыць такімі кіраўнікамі хоць-бы па аднаму ў кожнай галіне работы кожны адміністрацыйны раён, альбо агрокомбінат на вёсцы, а ў горадзе даць ізноў толькі хаця-б па 1 чалавеку кожнай спэцыяльнасьці на 2-3 рабочых клюбы.

Побач з гэтым трэба штогод прапускаць праз спэцыяльна організуемыя кароткатэрміновыя курсы (1-2 мес.) тыя кадры з рабочых, батракоў і вясковае беднаты, што вылучаюцца самадзейнымі гурткамі ў процэсе непасрэднай іх работы.

Надзвычайна шпаркі рост колькасьці гурткоў ставіць аднэй з актуальнейшых задач — забесьпячэньне добраякаснымі, ідэолёгічна вытрыманымі матар'яламі: п'есамі, сьпеўнікамі, цэлым шэрагам мэтодычных дапаможнікаў. Покуль што ў нас справа з забесьпячэньнем такімі матар'яламі пастаўлена вельмі і вельмі дрэнна. Мы амаль ня маем п'ес для самадзейнага тэатру, а тое, што выдана,

таксама нявысокай якасьці і ў большасьці перакладное. Няма ніводнага зборніка масавай рэволюцыйнай песьні, ніводнага дапаможніка ў рабоце самадзейнага гуртка. Вырашэньне гэтай задачы ў значнай ступені ўскладаецца на нашы пісьменьніцкія кадры, якія, недаацэньваючы работы самадзейнага драматычнага гуртка, павінны даць яму і п'есы і новую песьню, па якой композытары павінны даць лёгкую для выкананьня, але мастацкі апрацованую музыку. Паміж тым ні абвешчаны Галоўмастацтвам конкурс на п'есу, ні конкурс на новую масавую песьню амаль ніякіх вынікаў ня далі. Тлумачыцца гэта ў значнай ступені тым, што нашы пісьменьнікі і поэты, а таксама і композытары крыху недаацэньваюць такой важнай справы, як самадзейнае мастацтва. Навакол забесьпячэньня патрэбнымі матар'яламі самадзейных гурткоў патрэбна мобілізацыя грамадзкай думкі, а таксама шэраг мерапрыемстваў з боку і НКА і БДВ, якія-б дапамагалі ў бліжэйшы час разьвязаць гэтую задачу.

Часткова задача кіраўніцтва, інструктаваньня і задавальненьня патрэбнымі матар'яламі магла-б быць разьвязанай праз організацыю спэцыяльнай часопісі па кіраўніцтву самадзейным мастацтвам. У гэтай часопісі маглі-б зьмяшчацца як рабочы матар'ял, інструкцыйныя паказаньні, курс завочнай перападрыхтоўкі гурткоўцаў, так і абмен вопытам работы паасобных гурткоў. Такія часопісі існуюць амаль ва ўсіх савецкіх рэспубліках і па асобных галінах работы («Деревенский театр», «Клуб и Эстрада», часткова «Рабочий и Искусство» ў РСФСР», «Сільскі театр», «Музика мас» ды інш. у УССР). Мы ня можам пакуль ставіць задачай выданьне спэцыяльных часопісяй па кіраўніцтву і дапамозе паасобным галінам самадзейнага мастацтва (тэатр, музыка, выяўленчае мастацтва). Нам трэба ўтварыць такую часопісь, якая-б злучала ў сабе ўсе галіны самадзейнага мастацтва. І выданьне такой часопісі трэба распачаць з восені гэтага году.

Трэба таксама пераглядзець і ўстаноўку ў рабоце нашых вандроўных тэатраў. Трэба, каб яны, побач з непасрэдным абслугоўваньнем гледача, узялі на сябе і дапамогу самадзейнаму тэатру, пераструіўшыся так, каб быць для яго ў пэўнай меры ўзорам работы, што, аднак, не павінна прыніжаць самастойнасьці самадзейнага тэатру. Таксама гэтую-ж задачу павінны ўзяць на сябе і стацыянарныя тэатры ў горадзе.

Організацыя ў гэтым годзе новае гаспадарчае адзінкі кіраўніцтва тэатрамі, побач з упарадкаваньнем кіраўніцтва профэсійнымі тэатрамі, павінна дапамагчы і самадзейнаму мастацтву праз організацыю пры кіраўніцтве спэцыяльных майстэрняў па забесьпячэньню іх патрэбнымі для іх работы прыладамі: парыкамі, вопраткай, грымам, ды інш., бо, паміж іншым, гэтая галіна вытворчасьці амаль цалкам знаходзіцца ў руках прыватніка, альбо неорганізаванага саматужніка. Пры кіраўніцтве і майстэрнях павінна быць наладжана і спэцыяльная консултацыя компэтэнтных людзей па ўсіх пытаньнях работы самадзейных гурткоў.

Нарэшце, трэба, каб і зацьверджаньне каштарысных асыгнаваньняў НКА было перагледжана ў напрамку большай дапамогі самадзейнаму мастацтву праз спэцыяльна вызначаемыя для гэтай мэты сродкі.

Як-бы мы ні разгортвалі сетку профэсійных мастацкіх установ для абслугоўваньня шырокіх запатрабаваньняў працоўных, мы іх усёроўна гэтымі ўстановамі цалкам не задаволім. Да прыкладу, калі-б дзяржаве ўдалося організаваць ня 8 вандроўных тэатраў да канца пяцігодкі, а 101, г. зн. па аднаму на кожны адміністрацыйны раён, дык і тады на кожнае буйнае паселішча ў вёсцы прыпадзе ня болей, як 1-2 тэатральныя дні, чаго, вядома, занадта мала. Тое-ж і ў іншых галінах. На дапамогу тут павінна прыйсьці самадзейнае мастацтва. І ў тэй ролі, якую яно павінна адыграць у справе культурнае рэволюцыі, побач з тымі асноўнымі мерапрыемствамі, пра якія гаварылася вышэй, патрэбны і шэраг мерапрыемстваў, якія-б актывізавалі самадзейнае мастацтва. Па нашай думцы, такімі мерапрыемствамі павінны быць: па-першае, штогодняя ўсебеларуская олімпіяды самадзейных гуртков (драма-

тычных, харавых, музычных, выстаўкі працсамадзейных гурткоў, выяўленчага мастацтва і г. д.), падругое, штогодняе прэм'яваньне з асобнага рэспубліканскага фонду тых ґурткоў, якія на працягу году далі найлепшую продукцыю як у сэнсе ідэолёгічнага зьместу, так і мастацкасьці выкананьня і абслужылі найбольшы лік працоўных. А дзеля таго, што разьвіцьцё профэсійных устаноў павінна ісьці досыць шпаркім тэмпам, дык найлепшыя з гэтых гурткоў павінны профэсіяналізавацца і пераходзіць на дзяржаўнае ўтрыманьне. Такім чынам будзе ў пэўнай меры вырашацца проблема ня толькі мастацтва для мас, але і мастацтва мас, бо гурткі павінны будуць даваць кадры, якія вырастаюць з гушчаў рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх працоўных мас. Такая пэрспэктыва вымагае ад кіруючых органаў і самых гурткоў самага рашучага ачышчэньня ад выпадкова папаўшых у іх усялякіх далёка непролетарскіх элемэнтаў.

Вось, як нам здаецца, той мінімум мерапрыемстваў, якія павінны дапамагчы самадзейнаму мастацтву і ўключыць яго як актыўную сілу ў справу культурнай рэволюцыі, як актыўную сілу ў соцыялістычным будаўніцтве.

# ПАГЛЫБІЦЬ АНТЫРЭЛІГІЙНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

В. ШЧАРБАКОЎ

## АНТЫРЭЛІГІЙНАЯ РАБОТА З ДЗЕЦЬМІ Ў ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЕ

Пытаньні выхаваньня нашых дзяцей ва ўмовах рэконструкцыі ўсёй гаспадаркі СССР, пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва і колектывізацыі вёскі ня толькі ня страцілі свайго ранейшага значэньня, але і набылі яшчэ больш баявы характар. Абсолютна ўсюды нам даводзіцца чуць гутаркі аб тым, як нам лепей організаваць справу выхаваньня дзяцей, каго прыцягнуць да вырашэньня гэтага пытаньня, у якім напрамку яно павінна весьціся. Ці распрацоўваюцца проекты пабудовы соцыялістычнага гораду, ці будуецца дом-комуна, ці пашыраецца або зусім нанова будуецца тое або іншае прадпрыемства, ці організуецца колектыў або комуна на вёсцы,—усюды ў гэтых выпадках паўстаюць перад намі вострыя проблемы выхаваньня.

Асабліва надзвычайнай вастрыні дасягнула зараз пытаньне аб выхаваньні дзяцей нашых сёл і вёсак. Тыя складаныя процэсы, што адбываюцца зараз на вёсцы, тое абвастрэньне клясавай барацьбы, барацьбы паміж кулацтвам, якое ліквідуецца, і батрацка-бядняцка-серадняцкай масай, тое ламаньне быту, якое няўхільна ва ўмовах масавай колектывізацыі і якое наглядаецца намі,—усё гэта ня можа праходзіць міма нашых дзяцей, так ці іначай не зачапляць іх. Наадварот, дзеці ня толькі падпадаюць пад уплыў гэткіх складаных абставін на вёсцы, але і самі прымаюць той або іншы ўдзел ва ўсіх процэсах, што адбываюцца ў ёй.

Спаслацца, аднак, на саміх дзяцей і абставіны, асяродзьдзе, што абкружае іх, мы ня можам. Занадта супярэчлівым гэта асяродзьдзе зьяўляецца ў сучасны момант. Адсюль наш організаваны пэдагогічны ўплыў на дзяцей гораду і вёскі павінен заняць пэўнае, адпаведнае яму месца. Адсюль неабходнасьць распрацоўкі новых форм і мэтодаў выхаваньня дзяцей з падлікам усіх асаблівасьцяй пэрыоду, які мы перажываем. Адсюль няўхільнасьць пастаноўкі перад намі ўсё новых і новых пэдагогічных і пэдолёгапэдагогічных проблем.

Антырэлігійная работа сярод дзяцей, якая ўключае ў сябе і выхаваўчы бок і элемэнты прапаганды, павінна заняць ва ўсёй сыстэме выхаваньня нашых дзяцей асабліва значнае месца. Правільна організаваная антырэлігійная работа ў працоўнай школе і сярод дзяцей наогул закранае абсолютна ўсе найважнейшыя задачы выхаваньня, дапамагае вырашэньню гэтых задач і сама непасрэдна разьвязвае іх. Больш таго, ніводная проблема выхаваньня сучасных дзяцей ня можа быць пасьпяхова разьвязана без антырэлігійнай работы.

Гэткія проблемы выхаваньня, як выпрацоўка ў дзяцей навукова-матэрыялістычнага сьветапогляду, як выхаваньне з нашых дзяцей актыўных удзельнікаў будаўніцтва, як барацьба з пэсымізмам і абыякасьцю, як выхаваньне колектывістычнай псыхолёгіі і колектывістычных звычак у процілегласьць індывідуалізму, як выхаваньне пачуцьця нянавісьці да эксплёататарскіх клясаў, як інтэрнацыянальнае і працоўнае выхаваньне—усе гэтыя проблемы зьвязваюцца з антырэлігійнай работай, усе яны могуць быць пасьпяхова вырашаны намі толькі пры ўмове адпаведнай, правільна організава-

най і актыўнай антырэлігійнай работы сярод дзяцей. Рэлігія і рэлігійныя арганізацыі, пранікаючы праз усялякія шчыліны і ўплываючы на дзяцей рознымі спосабамі, выхоўваюць у дзіцяці гэтак жа, як і ў дарослага чалавека, ідэалізм і містыцызм, пасыўнасьць і ўпадніцтва, індывідуалізм і антысэмітызм; рэлігія прытупляе пачуцьцё клясавай нянавісьці да нашых клясавых ворагаў, усыпляе нашу дбайнасьць, дэзорганізуе нашы працоўныя натугі, нашу працаздольнасьць, засланяе перад намі пэрспэктыву разьвіцьця.

Усяму гэтаму павінна быць супроцьпастаўлена цэлая сыстэма нашага ўплыву на дзяцей. Тут, менавіта, патрэбна сыстэма ўплыву, пабудаваная на прынцыпах антырэлігійнай пропаганды і асноўных законах нашай комуністычнай пэдагогікі. Мерамі крахаборства і кавалерыйскімі наскокамі тут менш за ўсё штонебудзь станоўчае зробіш. Наадварот, гэткія меры могуць і вельмі часта прыводзяць да адмоўных вынікаў.

Ці выклікаецца патрэба ў правядзеньні сыстэматычнай антырэлігійнай работы ў працоўных школах непасрэднай рэлігійнай заражанасьцю нашых дзяцей? Бязумоўна, так. Было-б недапушчальным фантазёрствам лічыць, што нашыя дзеці не заражаны рэлігійнымі настроямі, рэлігійнымі поглядамі і перакананьнямі. Паколькі асяродзьдзе, у якім жывуць дзеці, яшчэ ў значнай меры насычана гэтай рэлігійнасьцю, паколькі быт селяніна (і ці толькі селяніна?!) яшчэ наскрозь насычаны ёю, паколькі ў нас яшчэ зараз на кожную адну хату-чытальню прыпадае 4 царквы, і паколькі справа выхаваньня застаецца пакуль што яшчэ ў асноўным у руках саміх бацькоў, пастолькі ў нас няма ніякіх падстаў лічыць, што нашы дзеці зьяўляюцца чужымі рэлігіі і не падпадаюць штодня пад уплыў з боку рэлігійнага абкружэньня.

У нас ёсьць яшчэ вельмі шмат наіўных прастачкоў, якія заяўляюць нам, што калі дзіця ня моліцца, ня ходзіць у царкву, і кажа проста, што ён у бога ня верыць,—значыць ён зьяўляецца антырэлігійным па свайму настрою і перакананьню. Трэба быць якраз прастачком, які нічога не разумее ў пытаньнях псыхолёгіі, ў пытаньнях вераваньняў, каб так падыходзіць да «распазнаваньня» рэлігійнасьці або бязбожнасьці дзіцяці. Паспрабуйце з тым жа дзіцём, які заяўляе вам аб сваім «непрызнаваньні» бога, паспрабуйце з ім пагутарыць аб «так званых» чартох, ведзьмах, мерцьвякох, аб душах, аб тым, які адчувае ён настрой у вялікае рэлігійнае сьвята, у часе наведваньня ўпрыгожанай царквы і г. д., паспрабуйце з усімі гэтымі пытаньнямі так падыйсьці да дзіцяці, як пэдагог ,і вы ўпэўніцеся ў тым, што гэты «малады бязбожнік» насычаны зусім не бязбожніцкім «матар'ялам».

Мы, праўда, не прызвычаіліся гэтак падыходзіць да вывучэньня дзіцячай рэлігійнасьці, а гэтак варта было-б падыходзіць да яе. Але калі нават браць нашыя вывады, атрыманыя ў выніку досьледаў са сьціслымі, далёка ня дзіцячымі пытаньнямі, дык і гэтыя вывады гавораць аб значнай рэлігійнасьці нашых дзяцей. У № 9 за 1929 г. часопісі «Асьвета» ў артыкуле т. Шэйнмана прыведзены даныя досьледу вучняў Лоўшанскай сямігодкі, Сіроцінскага раёну, Віцебскай акругі. Даныя гэтыя не зьяўляюцца характэрнымі, па-першае, таму, што датычацца яны толькі вучняў 4-й групы, а, па-другое, з усяго відаць, школа гэта вядзе досыць вялікую антырэлігійную работу, і з гэтай прычыны, натуральна, рэлігійнасьць дзяцей у гэтай школе не павінна быць вельмі высокай.

Аднак даныя і гэтай школы шмат аб чым гавораць. Спынімся на гэтым. На пытаньне аб тым «верыш ты ў бога» з 123 вучняў, якія запоўнілі анкеты, адмоўны адказ даюць 114 чалавек. З гэтага, здавалася-б, трэ' было зрабіць той вывад, што вучні гэтай групы не зьяўляюцца ў пераважнай большасьці рэлігійнымі. Але гэткі вывад зьяўляўся-б вельмі скарасьпелым. Адказваць адмоўна на гэткае пытаньне—гэта зьяўляецца модным і для дзяцей, і гэтыя адказы знаходзяцца ў бязумоўнай супярэчнасьці з тымі адказамі, якія дадзены дзяцьмі на іншыя пытаньні. На пытаньне аб тым, «якое рэлігійнае сьвята табе падабаецца», 46 чалавек з 123 даюць, як піша аўтар артыкулу, бязумоўна бязбожніцкія адказы. Астатнія, значыць, адказы не

бязбожніцкія. На наступнае пытаньне «што табе падабаецца ў царкве» адказваюць, што нічога не падабаецца 64 чалавекі. Астатнім у тых ці іншых адносінах царква падабаецца.

З гэтых даных трэба зрабіць вывады аб тым, што і ў гэтай школе, дзе антырэлігійная работа праводзіцца досыць актыўна, дзеці далёка не пазбаўлены яшчэ рэлігійнай заражанасьці. Што-ж можна сказаць аб тых школах, дзе гэта работа пастаўлена або вельмі дрэнна, або зусім не вядзецца? Такіх школ мы маем пакуль што большасьць, і, зразумела, рэлігійнасьць дзяцей там яшчэ вельмі высокая.

Праведзеныя анкетныя досьледы рэлігійнасьці дзяцей у 14-й Віцебскай сямігодцы таксама гавораць аб наяўнасьці і сярод гарадзкіх дзяцей досыць значнага проценту рэлігійных дзяцей. Паводле вывадаў школы, у першым концэнтры рэлігійных вучняў 15%, а ў другім—13%. «Армія вучняў»,—піша аўтар артыкулу, які выкладае вывады гэтых досьледаў,— што патрабуе дапамогі для барацьбы з набожным дурманам і папоўшчынай (II і III катэгорыі), выражаецца ў вельмі высокім сярэднім процанце—47» («Асьвета», № 3, 1929 г.).

Мы спыніліся на гэтых прыкладах, далёка не характэрных, толькі таму, каб выказаную намі вышэй думку пра неабходнасьць вядзеньня антырэлігійнай работы ў школе пацьвердзіць конкрэтнымі матар'яламі, матар'яламі, якія гавораць пра рэлігійнасьць нашых дзяцей.

Але было-б вялікай памылкай лічыць, што антырэлігійная работа сярод дзяцей патрэбна толькі там, дзе дзеці зьяўляюцца рэлігійнымі, што там, дзе гэта рэлігійнасьць адсутнічае, яна не патрэбна. Такая пастаноўка пытаньня ў корані няправільная і павінна быць намі катэгорычна адкінута. Задача антырэлігійніка-асьветніка і кожнай школы ў цэлым заключаецца ня толькі ў тым, каб вытруціць рэлігійнасьць з дзяцей, але яшчэ і ў тым (і гэта, магчыма, галоўная задача), каб выхаваць у дзяцей антырэлігійную актыўнасьць, зрабіць з дзяцей актыўных барацьбітоў з рэлігійным невуцтвам. Калі мы ў дзіцяці ня выхаваем гэтага «анты», дык ён, скончыўшы школу, ня толькі ня будзе дапамагаць нам перавыхоўваць масы ў бязбожніцкім напрамку, будаваць новы бязбожніцкі быт, але ён можа сам праз уплыў з боку рэлігійнага асяродзьдзя, што яго абкружае, вярнуцца да старога. Вось на гэта ніяк нельга забывацца.

***

Пяройдзем зараз пасьля гэтых прынцыповых заўваг да пытаньня аб тым, як практычна ставіць і праводзіць антырэлігійную работу з дзяцьмі малодшага концэнтру. Нам неаднакроць даводзілася стыкацца з сумненьнямі шэрагу пэдагогаў наконт таго, ці можна з дзяцьмі малодшых груп наогул весьці антырэлігійную работу. Сумненьні гэтыя часта грунтуюцца на тым, што дзеці гэтых груп вельмі малыя, і таму вельмі цяжка выкладаць ім гэткія складаныя ідэі, як ідэі бязбожжа, ідэі антырэлігійнай прапаганды. Ці ня лепей у такім выпадку адмовіцца ад работы ў гэтых групах, пакуль дзеці не падрастуць і не разаўюцца ў пэўнай меры.

Мы адказваем, што гэткая пастаноўка пытаньня нічога ня варта. Мы ня можам не рэагаваць на атручваньне дзяцей гэтага ўзросту рэлігійнымі ідэямі і рэлігійнымі пачуцьцямі, мы ня можам на працягу 4 год ня весьці выхаваўчай работы сярод дзяцей, а вядучы яе, мы няўхільна павінны—мы аб гэтым ужо гаварылі вышэй—весьці і антырэлігійную работу сярод дзяцей. Нарэшце, калі-б мы адмовіліся весьці антырэлігійную работу з дзяцьмі нашых чатырохгодак, дык мы дзяцей і перш за ўсё дзяцей сялянства на 80% пакінулі-б наогул бяз усякай антырэлігійнай работы сярод іх, паколькі гэты процант дзяцей да сучаснага пакуль моманту ня ішоў далей чатырохгодкі, а канчаючы яе, «выходзіў у жыцьцё».

Значыць, антырэлігійная работа павінна весьціся з дзяцьмі і малодшых груп, пачынаючы з самага першага году навучаньня. Іншая справа, што характар гэтае работы, зьмест таго матар'ялу, які павінен падносіцца дзецям у сувязі з антырэлігійнай работай, павінны адрозьні-

вацца ад матар'ялу для старэйшых груп. Уся антырэлігійная работа ў пачатковай школе павінна будавацца і весьціся на базе конкрэтнага, зусім даступнага дзецям, бытавога, культурнага і гаспадарчага матар'ялу. Гэты матар'ял павінен выкладацца проста, выразна, популярна. Гэтак сама, як мы знаёмім дзяцей з самай першай групы з элемэнтарнымі зьявамі працы, прыроды і грамады, і гэтыя зьявы робяцца даступнымі для дзяцей, мы павінны знаёміць дзяцей з простымі зьявамі, якія зьвязаны з рэлігіяй, рэлігійным жыцьцём і рэлігійнымі ўплывамі.

Мы маем вялізарны, конкрэтны, вельмі яскравы і жывы матар'ял з рэлігійнага і антырэлігійнага жыцьця абкружаючага нас насельніцтва. Трэба толькі ўмець гэты матар'ял сабраць, падрыхтаваць і ўмела выкласьці яго дзецям.

Іншая справа—працаваць з дзяцьмі старэйшых груп працоўнай школы. Там, на грунце элемэнтарнай агульна-адукацыйнай і антырэлігійнай работы, можна ўжо выкладаць дзецям і больш складаныя пытаньні антырэлігійнай прапаганды; там ужо можна разьбіраць і адцягненыя ідэі рэлігіі; там дзяцей можна ўжо знаёміць у пэўнай меры з пытаньнямі паходжаньня, разьвіцьця і зьмен веры; там ужо больш складаныя пытаньні рэлігіі можна і трэба разьбіраць у сувязі з клясавай барацьбой.

Якую-ж злучнасьць пытаньняў антырэлігійнай работы можна прапрацаваць з дзяцьмі ў часе прапрацоўкі комплекснага дыдактычнага матар'ялу ў пачатковай школе? Трэба тут падкрэсьліць, што гэта прапрацоўка, бязумоўна, павінна быць органічна ўвязана з усёй навучальнай і выхаваўчай работаю з дзяцьмі гэтай школы. Ніякага выпучваньня пытаньняў антырэлігійнай работы тут не павінна быць. Мы маем шырокую мажлівасьць праводзіць натуральную, органічную ўвязку неабходнага антырэлігійнага матар'ялу з комплекснымі тэмамі ўсіх чатырох гадоў навучаньня.

*У процэсе прапрацоўкі вучэбнага матар'ялу першага году навучаньня* можна і трэба прапрацаваць наступны антырэлігійны матар'ял:

Як раз рэлігію і рэлігійныя абрады парушаецца здароўе дзяцей і распаўсюджваюцца хваробы. Што з сябе ўяўляюць гурткі маладых бязбожнікаў, і як яны працуюць. Чаму адсутнічаюць абразы ў школе. Чым займаюцца папы і веруючыя ў вёсцы. Чым адрозьніваюцца рэлігійныя сьвяты ад рэвалюцыйных. Як шаптухі-бабкі і папы «лечаць» хваробы людзей. Ці патрэбны нам цэрквы, сынагогі і малельныя дамы. Сьвята каляд. Грамадзка-палітычныя організацыі ў вёсцы і організацыі рэлігійныя. Папоўскія вадохрышчы палёў і як сапраўды падняць ураджайнасьць апошніх. Колектывізацыя і рэлігійнасьць. Рэлігійныя сьвяты і п'янства. Сьвята 1-га мая і вялікдзень. На чыю карысьць служыць рэлігія.

Усе гэтыя пытаньні трэба ўвязаць з адпаведным дыдактычным матар'ялам. Увесь матар'ял, які рэкомэндуецца намі для першага году навучаньня, можа быць сабраны тут-жа каля школы, на вёсцы, ён можа быць сабраны нават самімі дзяцьмі.

У процэсе прапрацоўкі данага матар'ялу настаўнік мае таксама мажлівасьць азнаёміцца з тым асяродзьдзем, што абкружае дзяцей, і з рэлігійнасьцю саміх дзяцей. У залежнасьці ад значнасьці гэтай рэлігійнасьці, ён павінен будзе концэнтраваць ужо сваю работу на тых, або іншых момантах.

*Пяройдзем да другога году навучаньня.* Тут таксама антырэлігійны матар'ял павінен мець бытавы, культурны і гаспадарчы характар, але павінен быць ужо больш складаным, чым матар'ял першага году навучаньня. Гэты матар'ял павінен концэнтравацца навакол асноўнай антырэлігійнай тэмы: як царква і рэлігія перашкаджаюць будаваць новае жыцьцё, і за чые інтарэсы змагаюцца духоўніцтва і рэлігія. Навакол гэтай асноўнай тэмы трэба концэнтраваць на працягу ўсяго другога году навучаньня наступны антырэлігійны матар'ял.

Ці дапамагаюць папы падвышэньню ўраджайнасьці. Папоўскія хабары, і колькі каштуе ўтрыманьне царквы і папа нашаму сялу. Колькі траціцца грошай на ўтрыманьне цэркваў і папоў у раёне. Колькі можна было-б утрымоўваць школ, дзіцячых ясьляў, купіць кніжак за гэтыя сродкі. Як рэлігія перашкаджае

распаўсюджваньню мэдыцынскіх ведаў на сяле. Як мы выхоўваем сваіх дзяцей, і чаму папы зараз не наведваюць школы. Як рэлігійныя забабоны і пасты адбіваюцца на здароўі насельніцтва. Папоўскія казаньні—«ня хлебам адным будзе жыць чалавек». Царская ўлада і рэлігія. Чаму папы супроць сельска-гаспадарчых машын і колектывізацыі. Колькі цэрквы і манастыры мелі зямлі да рэволюцыі.

Гэты антырэлігійны матар'ял таксама натуральна ўвязваецца з адпаведным дыдактычным матар'ялам і комплекснымі тэмамі.

*Трэці год навучаньня.* Асноўны матар'ял трэба концэнтраваць на працягу ўсяго гэтага году навакол наступнай тэмы: «царква і рэлігія да Кастрычнікавай рэволюцыі, грамадзянская вайна, соцыялістычнае будаўніцтва і рэлігія». Зьмест матар'ялу павінен быць, прыкладна, наступны. Царква і рэлігійныя організацыі нашага сяла ў даваенны час (зрабіць падрахунак яе дзейнасьці). Што дасталося папом і царкве ад сабранага ўраджаю. Як змагалася рэлігія і царква супроць Кастрычнікавай рэвалюцыі і савецкай улады. Як аднеслася духоўніцтва да дапамогі галадуючым у 1922 г. Раскол у царкве. Царква і рэлігія перашкаджаюць правільнаму выхаваньню нашых дзяцей, руйнуюць дзіцячыя організацыі, перашкаджаюць асьвеце. Новае будаўніцтва на аснове навукі і тэхнікі і вера ў бога. Організацыі працоўных і рэлігійныя аб'яднаньні. Адкуль узялася сьвята каляды. Дасягненьні навукі і тэхнікі, цуды, аднаўленьні і мошчы. Чырвоная армія і як царкоўнікі і веруючыя імкнуцца паслабіць яе моц. Турботы рэлігіі і царквы аб панох і капіталістых. Як рэлігія дапамагае занявольваць жанчыну. Царква і духоўніцтва—асяродкі цемнаты і невуцтва. Як рэлігія і духоўніцтва стараюцца выхоўваць рабочых у капіталістычных краінах. Організацыя крыжацкага паходу духоўніцтва супроць Савецкага Саюзу.

*Чацьверты год навучаньня.* Антырэлігійны матар'ял трэба концэнтраваць навакол асноўнай тэмы: «несумяшчальнасьць рэлігіі з навукай: рэлігія і клясавая барацьба». Сутнасьць матар'ялу: што адбылося ў рэлігійным жыцьці насельніцтва нашай мясцовасьці за апошні час. Чаму масы адыходзяць ад рэлігіі і зачыняюць царквы. Як шляхам колектывізацыі руйнуюцца асновы рэлігіі. Культурная работа ў колгасах і рэлігія. Як змагалася царква супроць навукі і асьветы ў мінулым. Чаму компартыя і комсамол змагаюцца з рэлігіяй. Дэкрэт савецкай улады пра адлучэньне царквы ад дзяржавы. Духоўніцтва—распаўсюджвальнік антысэмітызму. Алькоголізм, рэлігія і злачыннасьць. Біблейскія цуды, законы прыроды, электрыфікацыя, радыё і сучасныя дасягненьні навукі. Духоўніцтва і царква ў імпэрыялістычную вайну. Саюз папоў, кулакоў і нэпманаў. Рэлігія ёсьць сродак прыгнечаньня колёніяльных народаў. Рэлігія і царква ў мінулым на Беларусі. Сучасны стан рэлігіі, саюз ваяўнічых бязбожнікаў і антырэлігійная пропаганда.

Трэба толькі, каб і сама школа ў цэлым займалася гэтым пытаньнем. Роля яе перш за ўсё павінна заключацца ў тым, каб забясьпечыць школу, настаўнікаў і дзяцей хаця-б мінімальнай колькасьцю літаратуры. Трэба, далей, каб яна вяла адпаведную антырэлігійную работу з дзяцьмі і па-за тэй працай, якая будзе праводзіцца з дзяцьмі ў працэсе выкладаньня вучэбнага матар'ялу. Наладжваньне мастацкіх антырэлігійных вечароў, організацыя элемэнтарных антырэлігійных дакладаў, асьвятленьне антырэлігійнага матар'ялу ў насьценгазэтах, організацыя груп юных бязбожнікаў, удзел у правядзеньні антырэлігійных кампаній, чытаньне мастацкіх антырэлігійных апавяданьняў, зьбіраньне антырэлігійнага матар'ялу сярод насельніцтва бліжэйшых вёсак, вывучэньне дзіцячага асяродзьдзя, наладжваньне маленькіх антырэлігійных экскурсій—усе гэтыя даступныя формы антырэлігійнай работы з дзяцьмі павінны знайсьці сваё месца ў пачатковай школе.

Нарэшце трэба, каб нізавое настаўніцтва брала актыўны ўдзел у асьвятленьні сваёй практыкі антырэлігійнай работы з дзяцьмі ў нашым пэдагогічным друку.

# ТУРЫЗМ І ШКОЛА

М. КАСЬПЯРОВІЧ

## РАЗГОРНЕМ ШКОЛЬНЫ ТУРЫЗМ

Вучнёўскія экскурсіі і вандраваньні маюць вялізнае значэньне. Даючы магчымасьць пабываць у розных месцах, залюдненых рознымі нацыянальнасьцямі, яны зьяўляюцца магутным сродкам інтэрнацыянальнага выхаваньня. Адбываючыся па раёнах суцэльнай колектывізацыі, яны служаць інтарэсам клясавага выхаваньня. Прыводзячы вучня з вёскі ў горад і наадварот—з гораду ў вёску, яны замацоўваюць сувязь гораду з вёскай. Вымагаючы ў пэўных момантах фізычнага напружаньня, экскурсіі і вандраваньні дапамагаюць фізычнаму выхаваньню. Знаёмячы з сваім і іншымі краямі, яны ўзбагачаюць краязнаўчыя веды вучняў. Але найвялікшае значэньне экскурсій і вандраваньняў—адукацыйнае.

Яшчэ ў сьнежні 1920 г. Уладзімер Ільліч Ленін прапанаваў наладзіць:

«а) Посещение электрической станции, ближайшей и ряд лекций с опытами на ней; *ряд практических работ,* какие только возможны с электричеством; разработать тотчас детальные программы. (на 1 посещение; на курс в 5, 10 лекций; в 1, 2 месяца и т. д.).

б) То же—каждый сносно поставленный совхоз.

в) То же—каждый сносно поставленный завод».

Вымагаючы ажыцьцяўленьня політэхнічнага навучаньня, Уладзімер Ільліч надаваў у ім надзвычайна вялікае значэньне экскурсіям, патрабуючы, каб кожны вучань « посетил *не менее 1-3 раз* электрическую станцию, завод, совхоз», (гл. «Праўду»—1930 г. № 117).

У даны момант асноўнай задачай экскурсійнай справы і турызму зьяўляецца пропаганда нашага гаспадарча-культурна-політычнага будаўніцтва. У часе экскурсіі ці вандраваньня, у першую чаргу, трэба выявіць, што зроблена ў даным краі за рэволюцыйны час, што робіцца зараз і што мае рабіцца на працягу пяцігодкі. Розныя цэрквы, магілы і да іх падобныя—«выдатнасьці», якімі часамі засьмечваюцца экскурсіі, калі і павінны прыцягваць увагу экскурсантаў і турыстых, дык толькі ў мэтах антырэлігійных і дзеля выяўленьня старога ладу, як ворага пролетарскай дзяржавы.

Шырокія масы вучняў імкнуцца экскурсаваць і вандраваць. Паасобныя вучні зварочваюцца да Цэнтральнага бюро краязнаўства з самымі рознымі просьбамі ў гэтым кірунку. Адны пытаюцца, куды лепш пайсьці ці паехаць, другія просяць выслаць квіткі на харчаваньне, трэція—даць дазвол забіваць птушак у навуковых мэтах і г. д. і г. д. Часамі вучні організуюць экскурсіі па Беларусі, як 20-я Менская школа, 7-я Нова-Барысаўская ды інш. Бюро, як можа, дапамагае ўсім экскурсантам і вандроўцам. Але гэта не зьяўляецца яго асноўнай задачай. Дзеля гэтай мэты існуе экскурсійнае бюро народнага комісарыяту асьветы, якое організоўваецца кожную вясну і, на вялікі жаль, разьмеркаваўшы блянкі пасьведчаньняў на скідку з чыгуначнага тарыфу па акругах, спыняе сваю чыннасьць да новай вясны. Такім чынам, у той час, як у РСФСР і ЎССР ёсьць цэлая сетка экскурсбаз, літаратура і г. д., у нас няма ні цэнтру, які-б клапаціўся аб наладжваньні экскурсійнае справы і турызму, ні баз, ні маршрутаў, ні забясьпечанасьці харчамі, словам, нічога. Нават больш, чым нічо-

га. Здараюцца выпадкі адмоўных адносін да гэтай вялікай справы з боку некаторых чыноўнікаў. Так, летась акцыянэрнаму т-ву «Советский Турист» было адмоўлена ў заснаваньні ў Менску свайго прадстаўніцтва па БССР.

А ў гэты час самацёк экскурсантаў і турыстых ідзе сваім парадкам. Ня маючы ніякіх кіраўнічых матар'ялаў, маладыя экскурсанты і турыстыя часта становяцца звычайнымі бадзягамі на шкоду сабе і грамадзтву. Такім чынам, вялізная карысьць экскурсіянізму і турызму цалкам зьнішчаецца і замяняецца шкодай.

З такім станам справы трэба павесьці рашучае змаганьне. Экскурсійнае бюро народнага комісарыяту асьветы ад свайго разьмеркаваньня літароў (што, дарэчы, можна лёгка зрабіць і бяз бюро) павінна перайсьці да організацыі экскурсійнай і турысцкай справы на тэрыторыі БССР: стварыць базы, выдаць літаратуру і г. д.; наогул організаваць рух у патрэбным кірунку павінна стаць задачай бюро.

Пра экскурсіі на свой мясцовы завод, у мясцовы колгас і г. д. мы тут і ня кажам. Кожнаму зразумела, што свой край добра пазнаць можна толькі ў параўнаньні з іншымі. Ніякім чынам нельга замыкацца ў межы свайго краю і наогул гадаваць «сваякрайства». Канечна, патрэбен выхад за яго межы, нават вельмі далёка. Але, з другога боку, далёкія экскурсіі за межы БССР будуць не па сілах вучням у матар'яльным сэнсе. Таму сьпершапачатку застаюцца экскурсіі па БССР.

БССР-жа надзвычай цікавая ў экскурсійным стасунку. Ужо сама рознастайнасьць спосабаў экскурсаваньня і вандраваньня вабіць да сябе. Тут можна мяняць гэтыя спосабы вельмі часта на працягу кожнага данага абранага маршруту. Пехатою, на чаўне, на аўтомобілі, параходам і чыгункай можна перасякаць БССР і паасобныя краі яе ў самых рознастайных кірунках. Напр., па чыгунцы можна рабіць наступныя мясцовыя экскурсіі, заяжджаючы і ў суседнія рэспублікі: 1) Полацак-Невель-Віцебск-Полацак, 2) Віцебск - Смаленск - Ворша - Віцебск, 3) Магілеў - Жлобін - Асіпавічы - Магілеў, 4) Гомель - Мазыр - Жлобін - Гомель, 5) Менск - Ворша - Магілеў - Асіпавічы-Менск, 6) Лепель-Ворша-Унеча і г. д. у самых розных спалучэньнях і кірунках. Азнаямленьне з паасобнымі краявідамі і буйнымі гарадзкімі паселішчамі, колгасным будаўніцтвам, Асінбудам і г. д. можа цалкам адбыцца па лініі гэтых маршрутаў. Трэба толькі паклапаціцца аб належным апісаньні іх.

Параходам можна наладжваць экскурсіі па Дзьвіне, Дняпру, Прыпяці, Бярозе і Сожу. Па іх можна таксама ахапіць амаль усе краявіды БССР і яе буйныя гарадзкія паселішчы, напр.: 1)Полацак-Віцебск-Веліж, 2) Магілеў-Камарын, 3) Барысаў-Бабруйск-Горваль, 4) Жыткавічы-Мазыр-Чарнобыль, 5) Прапойск-Гомель-Лоеў ды інш.

Аўтобусам і вэлёсыпэдам можна экскурсаваць па шосах, шляхох і гасьцінцах БССР, якія ня менш поўна ахапляюць краявіды і паасобныя буйныя гарадзкія паселішчы Беларусі. На вэлёсыпэдах можна, напр., экскурсаваць па такіх маршрутах:

1) Менск - Астрашыцкі - Гарадок - Лагойск-Смалявічы-Менск, 2) Менск-Сьмілавічы-Смалявічы-Менск; 3) Менск-Самахвалавічы-Возера Даўгінава-Дудзічы-Дукора-Сьмілавічы-Менск ды інш. Шматдзённымі маглі-б быць наступныя экскурсіі: 1) Менск-Бабруйск-Слуцак-Менск; 2) Менск-Магілеў-Жлобін-Бабруйск-Слуцак-Менск; 3) Менск-Полацак-Віцебск-Ворша-Магілеў-Менск ды інш. Урэшце, надзвычайна цікавай можа быць экскурсія навакол БССР (Менск-Полацак-Азярышча -Сураж-Лёзна-Ляды - Горкі - Дрыбін-Крычаў - Клімавічы - Гомель - Брагін-Хойнікі-Юравічы-Лельчыцы -Жыткавічы-Слуцак-Менск.).

Урэшце, на чаўнох можна пачынаць экскурсіі з самых малых мясцовых рэчак, даплываючы да вялізных рэк і пры добра складзеным маршруце выканаць кругасьветку, як і па чыгунцы, з тэй толькі розьніцай, што ў некаторых месцах прыдзецца ісьці ўгору на вёслах.

Разам з тым можна выбраць комбінаваны маршрут, каб выконваць яго чыгункай, параходам, аўтобусамі і г. д. Прыкладамі такіх маршрутаў могуць быць: 1) Полацак-Невель-Віцебск (чыгункай), Полацак (параходам), 2) Бары-

саў-Бабруйск (параходам), Менск-Барысаў (чыгункай), 3) Гомель-Лоеў-Рэчыца (параходам), Гомель (чыгункай), 4) Менск-Чэрвень-Бярэзань (аўтобусам), Барысаў (параходам), Менск ,(чыгункай) і г. д.

Вельмі шмат, урэшце, можа даць вандраваньне групай у 5-6 асоб па сваім раёне, наведваючы яго саўгасы, колгасы, фабрычна-заводзкія прадпрыемствы і г. д.

Да гэтага часу мала якія школы ў нас зварочвалі ўвагу на наладжваньне экскурсій вучняў. Не чакаючы якіх-небудзь адмысловых загадаў, адкуль-бы там ні было, трэба такі стан справы зьмяніць. Школы павінны організаваць імкненьне сваіх вучняў ,належным чынам аформіўшы яго ў сталую экскурсію з акрэсьленай мэтай і цьвёрда вызначаным маршрутам. Апрача адпаведных складак членаў будучай экскурсіі, сродкі можна набыць адмыслова наладжанымі з гэтай мэтай спэктаклямі, лекцыямі і г. д. Каб лепш вырашыць пытаньне з начлегам і харчаваньнем, школы павінны ўзаемна прымаць экскурсіі сваіх вучняў з самым шырокім ужываньнем прыёму, як гасьцей—удзельнікаў аднэй экскурсіі другой. Практыка некаторых школ паказала, наколькі гэта карысна для сувязі вучняў гораду і вучняў вёскі.

Такім чынам чарговай задачай школ зьяўляецца наладжваньне ў самых шырокіх маштабах экскурсій сваіх вучняў па БССР, а з боку Народнага комісарыяту асьветы—організацыя рэспубліканскага экскурсійнага цэнтру.

Трэба спадзявацца, што абедзьве гэтыя задачы будуць з посьпехам вырашаны.

# ПЯЦІГОДКА І КАДРЫ

А. АРОНАЎ

## ПРА ДАКВАЛІФІКАЦЫЮ НАСТАЎНІКАЎ ПРОФТЭХНІЧНЫХ УСТАНОЎ

(*У парадку прапановы*)

Сетка навучальных устаноў профадукацыі, якая з кожным часам усё пашыраецца і ў бліжэйшыя гады павінна будзе ахапіць тысячы падросткаў па лініі ФЗВ і профтэхшкол, дзесяткі тысяч дарослых рабочых па лініі рознага роду курсаў падвышэньня кваліфікацыі, вытворчых гурткоў і г. д., з усёй вастратою высоўвае проблему выкладчыка для іх.

Ужо ў бягучым навучальным годзе, які зьяўляецца фактычна толькі пачаткам сур'ёзнага падыходу да вырашэньня пытаньня падрыхтоўкі кадраў, адчувалася азначаная напружанасьць пры комплектаваньні профтэхнічных навучальных устаноў, пры падборы выкладчыкаў ня толькі спэцыяльных дысцыплін, але і агульна-тэхнічных прадметаў—фізыкі, матэматыкі, хэміі. Шляхам максымальнага прыцягненьня з вытворчасьці ў школы тэхнічна падрыхтаваных працаўнікоў, перагрузкі, якая выходзіць за межы пэдагогічнай мэтазгоднасьці, наяўнай часткі выкладчыкаў профадукацыі і перадачы некаторых дысцыплін выкладчыкам школ соцвыху ў гэтым навучальным годзе—«крызыс» на выкладчыка быў як-небудзь зьмякчоны. Натуральна, што пры такім комплектаваньні выкладчыкаў якасьць работы павінна была зьнізіцца: ня ўсякі тэхнік яшчэ зьяўляецца цяпер пэдагогам, таксама як ня ўсякі пэдагог мае дастатковую агульна-тэхнічную падрыхтоўку, патрэбную для правільнай работы ў профтэхнічных навучальных установах. Якое-ж будзе становішча ў бліжэйшыя гады, калі колькасьць навучальных устаноў будзе разгорнута ў адпаведнасьці з запатрабаваньнем народнай гаспадаркі? Пытаньне гэта патрабуе ўжо сёньня сур'ёзных захадаў для свайго вырашэньня. Адсутнасьць у нас на Беларусі адпаведнае індустрыяльна-тэхнічнае навучальнае установы толькі пагаршае становішча. Бадай ці удасца і шляхам контрактацыі ў мінімальных разьмерах вырашыць гэта пытаньне. Вось чаму проблема яшчэ большага ўцягненьня і мэтазгоднага скарыстаньня наяўных інжынэрна-тэхнічных сіл, як пэдагогаў ФЗВ, тэхнікаў дзённых і вячэрніх, вытворчых курсаў, як сталых консультантаў па пытаньнях тэхнічных ведаў стаіць у парадку дня. Яшчэ будзе сур'ёзная работа профсаюзных організацый, інжынэрна-тэхнічных сэкцый па мобілізацыі ўвагі інжынэраў і тэхнікаў да гэтага пытаньня. Удзел у справе падрыхтоўкі кадраў павінен стаць асноўным зьвяном іх грамадзка-карыснай работы.

Ня менш важным зьяўляецца пытаньне адпаведнага скарыстаньня наяўных выкладчыкаў устаноў профадукацыі. Рацыяналізацыя пэдагогічнага процэсу, няўхільная ў сувязі з скарачэньнем тэрмінаў навучаньня і неабходным палепшаньнем якасьці школьнай продукцыі, яшчэ больш завастрае гэту проблему.

Школе цяпер патрэбны ня толькі перадатчыкі ведаў, але і працаўнікі, якія маглі-б удасканальваць пэдагогічны

процэс, палепшыць мэтодыку выкладаньня асобных прадметаў, асабліва тэхнічных. Адсюль і вынікае настойлівая патрэба ў дакваліфікацыі выкладчыкаў адпаведнымі тэхнічнымі ведамі. Трэба зараз-жа дапамагчы пэдагогічным працаўнікам, асабліва профтэхнічных навучальных устаноў, знаёмых з школамі рабочае моладзі і мэтодамі работы ў іх, у справе папаўненьня і тэорытычнага афармленьня іх агульнатэхнічнай падрыхтоўкі. Ёсьць цэлы шэраг працаўнікоў з дастатковым пэдагогічным вопытам і стажам грамадзкай работы, якія патрабуюць большай «тэхнізацыі» сваіх фізыка-матэматычных ведаў. Такім чынам, асноўнай мэтай гэтай дакваліфікацыі зьяўляецца скарыстаньне пэдагогічнага вопыту старых працаўнікоў для большага ўкараненьня тэхнічных элемэнтаў у выкладаньне фізыкі, матэматыкі, хэміі і вядзеньня імі агульных курсаў машыназнаўства, мэханікі, тэхнолёгіі.

Політэхнізацыя агульнаадукацыйнай школы прад'явіць яшчэ большыя запатрабаваньні на такога роду падрыхтаваных працаўнікоў.

Якія-ж асноўныя шляхі, па якіх можна ў сучасны момант весьці гэту работу па дакваліфікацыі? Завочнае навучаньне?

Ня будзе вялікай памылкай, калі скажам, што ва ўмовах сёньняшняга дня адно толькі завочнае навучаньне ня вырашае гэтага пытаньня і ня толькі таму, што цэлы шэраг спэцыяльных прадметаў, неабходных для прапрацоўкі, патрабуюць адпаведных габінэтаў, практычных заняткаў і г. д. Пытаньне зводзіцца да фактычных рэальных магчымасьцяй актыву выкладчыкаў як належыць працаваць над падвышэньнем сваёй кваліфікацыі. Надмерная нагрузка навучальнай работай, якая даходзіць у некаторых выпадках да 50-60 нядзельных гадзін, непасрэдна выхаваўчая работа ў школе, мэтодычная работа ў аб'яднаньнях, грамадзкая нагрузка, патрэбная і ня менш карысная зараз, чым усе астатнія пытаньні, ставяць эфэктыўнасьць завочнага навучаньня пад вялікую пагрозу. Мы гаварылі ня толькі пра настаўнікаў—перадатчыкаў фізыкі, матэматыкі і г. д., мы гаварылі пра тых выкладчыкаў, грамадзкіх дзеячоў, якія разам з партыяй і пад яе кіраўніцтвам прымаюць актыўны ўдзел у пабудове новага жыцьця. Наяўнасьць вялікай колькасьці завочнікаў гаворыць аб тым, што настаўніцтва ў масе сваёй зразумела ўсю неабходнасьць работы над падвышэньнем сваёй політычнай і вытворчай кваліфікацыі; нязначны-ж процант завочнікаў, што пасьяхова працуе, сьведчыць аб тых цяжкасьцях, якія сёньня стаяць перад намі.

Вось чаму трэба адшукаць другія формы, каб прадаставіць некаторыя магчымасьці працаваць над сваёй кваліфікацыяй і тым пэдагогам, грамадзкім дзеячом, якія ў гэтым маюць патрэбу.

Спробай да вырашэньня вышэй паказаных пытаньняў і яўляецца прапануемы проэкт па організацыі аднагадовых курсаў:

1. *Задача курсаў*—дапамагчы пэдагогічным працаўніком профтэхнічных навучальных устаноў, знаёмых з школай моладзі і мэтодамі работы ў ёй, папоўніць і тэорытычна аформіць іх агульнатэхнічную падрыхтоўку ў дапасаваньні да сучасных запатрабаваньняў.

2. *Мэта*—скарыстаць пэдагогічны вопыт старых працаўнікоў для большага ўкараненьня тэхнічных элемэнтаў у выкладаньне фізыкі, матэматыкі і хэміі і вядзеньня агульных курсаў па машыназнаўству, мэханіцы, тэхнолёгіі.

3. Курсы комплектуюцца з асоб, якія працуюць ня менш 5 год ва ўстановах профадукацыі і зарэкомэндавалі сябе на пэдагогічнай і грамадзкай рабоце, па адбору акруговай інспэктуры і акруговых аддзелаў працасьветы.

4. Акрына і Працасьветы ствараюць максымальна спрыяючыя ўмовы для навучальнай работы курсантаў у сэнсе іх грамадзкай і акадэмічнай нагрузкі і разьмеркаваньня навучальнай работы.

5. Курсанты абавязуюцца на працягу трох год працаваць у межах БССР ва ўстановах профадукацыі па паказаньню НКА і згодзе з курсантамі.

6. Навучальныя заняткі курсаў складаюцца з самастойнай работы курсантаў па месцы работы і сыстэматычных лябораторна-сэмінарскіх занятках на курсах у Менску.

З прычыны немагчымасьці адарваць ад бягучае работы значную частку актыву

выкладчыкаў профтэхнічных навучальных устаноў на доўгі час, лябораторна-сэмінарскія заняткі організаваць па прынцыпу курсаў, сэсій на працягу 10 працоўных дзён кожнага месяца па наступнаму раскладу:

Працяг заняткаў—з 15 чэрвеня 30 г. да 20 ліпеня 31 г.

I пэрыод—з 15 чэрвеня па 20 верасьня—падрыхтоўчая работа — паўтарэньне курсу матэматыкі і фізікі па заданьнях завочным шляхам.

II пэрыод—з 20 верасьня па 1 ліпеня—800 гадзін лябораторна-сэмінарнай прапрацоўкі (па 8 гадзін у дзень на працягу 10 дзён у месяц).

III пэрыод—з 1 ліпеня па 20 ліпеня—160 гадзін, ляборaторная работа па абранаму спэцыяльнаму прадмету і мэтодыцы яго.

**Навучальны плян.**

I пэрыод—Тэхнічная матэматыка фізыка

| | | |
|---|---|---|
| II пэрыод | Матэматыка | 100 |
| | Электротэхніка | 120 |
| | Чарчэньне | 80 |
| | Тэхнолёгія мэтал. | 150 |
| | Машыназнаўства | 150 |
| | Мэханіка | 200 |
| | | 800 |

III пэрыод—Лябораторныя работы па спэцыяльным прадмеце і мэтодыцы яго—160 гадзін.

Ня гледзячы на цэлы шэраг цяжкасьцяй такой організацыі работы, усё-ж у нашых умовах гэта дапаможа значнай частцы работнікаў дакваліфікавацца, не адрываючыся на больш-менш доўгі час ад свае работы.

**Ад рэдакцыі**

Лічачы каштоўнай думку тав. Аронава, высунутую ім ў зьмяшчаемым артыкуле, рэдакцыя зазначае, што асобныя палажэньні зьяўляюцца спрэчнымі.

**В. ВЯРШЧУК**

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ КАДРАЎ

Тэмп соцыялістычнага будаўніцтва ў бліжэйшыя гады патрабуе цэлага шэрагу тэхнікаў, інжынэраў, дактароў, навуковых працаўнікоў. Для папаўненьня гэтых кадраў зараз існуе ў нас інстытут вылучэнцаў, з ліку канчаючых ВНУ і ВТНУ. З тае прычыны, што лік асьпірантаў вельмі абмежаваны, дык зразумела, што задаволіць усе запатрабаваньні кадраў гэтым лікам асьпірантаў ні ў якім разе нельга. Апрача гэтага, бываюць выпадкі, калі асьпірантаў звальняюць з асьпірантуры з прычыны непасьпяховасьці, альбо яны па сваёй ахвоце пакідаюць асьпірантуру, не задаволіўшыся абранаю спэцыяльнасьцю. Гэтыя выпадкі гавораць за ненормальнае становішча з асьпірантурай. Тут трэба нешта зрабіць.

Я прапаную абгаварыць наступную сыстэму:

Пачынаючы з другога году навучаньня, профком па згодзе з дэканатам і студэнцтвам прымацоўвае да кожнага навуковага працаўніка (профэсара, доцэнта, асыстэнта) студэнта для кваліфікацыі і адбору для будучай асьпірантуры. Праз паўгода-год навуковы працаўнік дае водзыў аб прымацаваным студэнце, ці можна яго пакінуць для падрыхтоўкі, ці прымацаваны студэнт не адпавядае свайму прызначэньню. Прымацаваныя студэнты забясьпечваюцца стыпэндыяй.

Навуковым працаўніком паставіць у абавязак кіраваць работаю прымацаванага студэнта.

Прапануемая сыстэма дасьць магчымасьць зрабіць добры падбор будучых навуковых працаўнікоў і пазбавіць рэспубліку ад траты сродкаў, скараціўшы асьпіранцкі стаж.

**Л. Б.**

# ПРА „ЦЕНІ НА СОНЦЫ“ А. АЛЕКСАНДРОВІЧА

Пролетарская беларуская літаратура ідзе ад перамогі да перамогі. На яе арэне зьяўляюцца творы, якія набліжаюць яе да гэгемоніі на літаратурным фронце. Пролетарская літаратура—гэта не асобны жанр літаратуры нацыі, народу, а гэта літаратура, якая сьвядома зьвязала свой лёс з пролетарыятам, літаратура, якая дапамагае пролетарыяту ў магутнай перабудове сьвету, літаратура, плоцьцю якой зьяўляецца пролетарскі сьветапогляд, сьветаадчуваньне.

Эстэтствуючыя буржуа ўсіх рангаў, абаронцы «нэўтральнасьці» мастацтва заўсёды лічылі і другім стараліся ўдаўбіць у галовы, што тая літаратура, якая зьвязана ці прасякнута палітычнымі задачамі клясы (асабліва клясы-будаўніка соцыялізму і гэтым яны выяўлялі сваю клясавую прыроду), не зьяўляецца мастацкай творчасьцю, таму што яна «апошлена» сапраўднасьцю.

Пролетарскую літаратуру тое і адрозьнівае ад літаратуры эстэтствуючых буржуа, што, што-б яна ні брала сваім об'ектам, як-бы мастацкі ні сынтэзавала рачаіснасьць, падыходзіць да гэтай рачаіснасьці з пункту погляду пролетарыяту і яго задач, якія палягаюць у перабудове сьвету. Незалежна ад таго, якую тэму, якую проблему ці шэраг проблем трактуе пролетарская літаратура, яна, гэтая літаратура, зьяўляецца адзінай, монолітнай... Няма прынцыповай розьніцы паміж Серафімовічам, Фадзеевым, Шолахавым, Лібедзінскім, Ляшко, так сама як няма яе паміж Чаротам, Александровічам, Лыньковым, Галавачом і Мурашкай у беларускай літаратуры. Затое гэтая розьніца ўва ўсю сваю шырыню ўсплывае паміж названымі беларускімі пісьменьнікамі і паміж, скажам, Пушчай, Лужаніным, Дубоўкай, Зарэцкім ды інш. Гэтая розьніца менавіта ў тым, якая група, па якому, як падыходзіць да рачаіснасьці, як яна яе бярэ, з якою мэтаімкнёнасьцю.

Гэтая розьніца паміж пролетарскай літаратурай і літаратурай асуджаных на пагібель кляс эксплёататараў ува ўсю шырыню праявіцца, калі супаставіць хаця-б некалькі твораў пісьменьнікаў абедзьвюх груп, дакладней кажучы, абедзьвюх літаратур, бо ў кожнай літаратуры, у тым ліку і беларускай, ёсьць дзьве літаратуры. Калі ўзяць і супаставіць творы Пушчы «Сады вятроў», Дубоўкі «І пурпуровых ветразяй узьвівы», Зарэцкага «Крывічы», ды іншыя (хоць-бы «Сьцежкі-дарожкі»), з аднаго боку, і творы Чарота, Александровіча (хоць-бы «Цені на сонцы»), Мурашкі «Сын», Галавача «Вінаваты», Лынькова «Гой», ды іншыя, з другога боку,— творы, якія маюць падабенства па сваіх проблемах, дык ужо гэтая спроба перакане нас у новай якасьці пролетарскай літаратуры, у тым, што ў беларускай літаратуры, як і ў іншых літаратурах, ёсьць дзьве літаратуры, непрымірлівыя паміж сабою.

Частка вышэйназваных твораў ужо атрымала ацэнку ў друку, таму мы ня будзем на іх спыняцца, мы хочам разгледзець твор А. Александровіча «Цені на сонцы», які заслугоўвае ўвагі ўсіх барацьбітоў за пролетарскую культуру, за соцыялістычную будучыню.

Поэма «Цені на сонцы» друкавалася паасобнымі часткамі ў часопісі «Полымя»

за 27 год, у «Маладняку» за 29 год, у газ. «Зьвязда» і ў «Полымі» за 1930 год.

Поэма ахоплівае сабою шэраг тыпаў з нашай беларускай рачаіснасьці, якія ўдала ахарактарызаваны поэтай «ценямі на сонцы». Соцыялістычнае будаўніцтва—гэта тое ўзыходзячае сонца, якое нясе сапраўднае вызваленьне чалавецтву ад клясавага прыгнёту ўва ўсіх яго відах, якое нясе пазбаўленьне ад усіх завадаў, якія няўхільна справаджаюць і нараджаюцца ў клясавым грамадзтве, якое нясе і пазбаўленьне чалавецтву ад паразытаў «хлебаедаў», ад людзей-п'явак, ад эстэтствуючых «звышчалавекаў» ад мастацтва, ад «дам» з «узвышанымі настроямі» і ўсёй іншай падалі і гнілі буржуазнай грамады. Соцыялістычнае будаўніцтва ў БССР, краіне, раней барбарскі прыгнечанай, уціснутай і самаўладзтвам, і кайзэрамі, і маршалкамі, цяпер, пры братэрскай дапамозе савецкіх рэспублік вялічэзнага Саюзу ССР, з кожным днём пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе партыі робіць усё новыя і новыя перамогі. Беларусь рамесьніцкая, саматужніцкая ператвараецца ў Беларусь індустрыяльную, электрычную. Беларусь абшарніцкая ператварылася ў Беларусь саўгасную, патрыярхальная сялянская Беларусь ідзе колгасным шляхам, Беларусь прыгнечаная, бяскультурная, сярмяжная, з яе «лявоніхай», шпарка будуе культуру, далучае шырокія пласты мільённага насельніцтва да культуры. Поры народна-гаспадарчага організму і быту прасякаюцца тэхнікай. Усё разам узятае робіць і адваротны ўплыў: перабудоўвае самога чалавека-будаўніка.

Людзі пачынаюць «сьвядома тварыць сваю гісторыю», сьвядома пачынаюць ператвараць сваё быцьцё і самых сябе, таму зусім натуральна, калі кожнага актыўнага будаўніка соцыялізму ахапляе патэтычны настрой, які знайшоў крышталёную форму ва ўступе да поэмы пра «цені на сонцы» А. Александровіча:

„Як ня славіць песьняй сакалінай
Беларусь, рэспубліку сваю.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ты красуеш ростам рыштаваньняў,
Творчай працай гартаваных сіл.
Ты ў агні шчасьлівага сьвітаньня
Быццам раніцай
на ўсходзе небасхіл".

Краіне, якая будуе соцыялізм, краіне, роднай бацькаўшчыне пролетарыяту, «б'юць паклон» як «сонцу нашы дні», «б'юць паклон» і славу ткуць машыны» бо тое, што будуецца, што творыцца мільёнамі, зараз зьяўляецца бэтонным падмуркам пад сусьветны СССР, а «сусьвет ахвачан сонечным пажарам», і неўзабаве той час, калі гэты магутны сусьветны пажар спаліць усю гніль буржуазнае грамады разам з ёю, гэтай грамадою.

У той час, калі Беларусь «красуе ростам рыштаваньняў», калі «нашы дні б'юць паклон і машыны ткуць славу», калі «сусьвет ахвачан сонечным пажарам», пад сонца, што асьвятляе шляхі чалавецтву, падпаўзьлі цені, імкнучыся перашкодзіць яго палкім праменьням прасякнуць ува ўсе шчыліны жыцьця.

Пра гэтыя «цені на сонцы» і напісана поэма А. Александровіча. Чытаючы поэму, перад вачыма прабягаюць у іх натуральным выглядзе шэраг ценяў нашай беларускай рачаіснасьці, адзін гэрой зьмяняе другога, каб потым прадстаць перад намі ў сваёй купнасьці. Што за «цені», якая іх «соцыяльная прырода»,— мы і хочам на гэтым спыніцца, каб потым перайсьці да агульнае ацэнкі твору.

Першым па композыцыйнаму разьмеркаваньню поэты ўсплывае «родны беларус», які «быў з Меншчыны, качаўся тут, узрос і тут узгадаваў свае імкненьні».

„Ня раз на беразе, прылёгшы ў вербалоз,
пярсьцёнкам узьвіваў ён лятуценьні".

Але-ж «гады імчаліся, як хвалі на рацэ», вайна—і ён «стаў унтэр-офіцэрам

і брыль на сонцы,
нос на небасхіле".

Вайна зьмяняецца рэволюцыяй, клічам «далоў вайну», «далоў людзкое гора». Наш гэрой уцёк на Поўдзень, мабыць, туды, куды ўцякала ўся зграя, уся нечысьць, разам з Каледзіным і Красновым ад «салдацкай расправы», каб адтуль паспрабаваць прыдушыць рабочую рэволюцыю. Наш гэрой «з Меншчыны» апынуўся сярод генэрал-баронаў,

„І генэрал-барон
Яму даў новы чын —
І пару новых шпораў".

Але-ж «гады імчацца...» Генэрал-бароны, якія захаваліся ад бальшавіцкіх штыхоў, жывуць у праскіх колёніях, у парыскіх салёнах, афіцыянтамі ў лепшым выпадку, альбо займаюцца «паляваньнем на савецкіх паўпрэдаў». Ну, а наш гэрой?!

«Цяпер... паголены... жыве як спэц» і ня дзе-небудзь у Лёндане альбо ў Парыжы, а ў... Саветаў.

„Учора генэрал-барона сакратар,
А сёньня консультантам у Саветаў“.

І гэта зусім ня выдумка поэты. Учарашнія сакратары, ад'ютанты генэралаў і адміралаў яшчэ нядаўна дзе-ні-дзе абыходзілі прытупленую зіркасьць і бальшавіцкую чуласьць паасобных адказных кіраўнікоў некаторых нашых устаноў, нядаўна яшчэ гэтыя «цені» паўзьлі пад сонца, як «спэцы», «сапраўдныя беларусы», носьбіты «адраджэньня беларускай культуры».

Другі гэрой.

„Другі гэрой... няма тае дарогі,
Дзе не рассыпаў-бы імкненьні ён свае“.

Яго імкненьне «стаць бліжэй да бога», але як? «Маліцца? Мала, часу не стае...».

„І змрочнасьцю пакрыты,
У манастыр пайшоў, схіліўшы галаву.
Быць, ня быць! Дадуць архімандрыта“...

Але-ж замест архімандрыта стаў царкоўным старастаю. А ў дні сонца... «мову вывучыў, стаў езьдзіць як дакладчык» выкарчоўваць «корані, пусьціла што царква». Як «бывалы спрытны чалавек», ён, бязумоўна «знае, дзе і каму зьняць шапку» і, «стаўшы «вылучэнцам», «сёньня ён дырэктар не на жарты.

— Фрэнч далоў! Падайце мне сурдут!» Час зьмяніўся. «Цень» пераапранаецца ў дырэктара, выконвае новую ролю ў сонечным тэатры.

Жыцьцё павадкаю пайшло другое. Жыць лагодна—і «як ня любіць сваяцтва»?

Наш дырэктар «адным сват, другім шаноўны кум». Пад сонца паўзе новы цень з малітвеным настроем... зяць...

„А зяць яго? О, зяць—
Мастацтва для мастацтва.
Збавеньне ў пекнаце,
Цудоўны персьцень дум“.

Зяць, як і дырэктар, па ўсіх дарогах рассыпаў свае імкненьні, покуль ня прыбіўся да савецкіх берагоў і разам з цесьцем залез у гняздо «мастацтва», каб «тварыць яго для мастацтва». Наша рачаіснасьць для мастака няпрыемна, «радзімая краіна расьце марудна, як сам беларус». Гэты цень выказвае свае настроі фотографу, другу свайму, калі да айсора пачысьціць гамашы падыйшлі. Ідэолёгія-ж у яго—мастацтва для мастацтва—характарызуецца словамі, якімі абмяняліся два прыяцелі:

„Ідэолёгія ваша і наша,
Нашы і вашы фарбы слоў“.

Яна, гэта ідэолёгія, выяўляецца ў «поэты няпрызнанага» ў яго крымскім вершы і ў вершы, што чытаны з блёк-ноту на вечарынцы «профэсара-імяніньніка»:

„О мы недаступны, як скалы,
Мы ў хвалях сваіх лятуценьняў
Сагнем-жа пад звоны бакалаў,
Хараство жыцьця на калені“.

Сябе-ж гэтыя цені характарызуюць:

„Мы дзеці багатых традыцый,
Пакаленьне найлепшага ў сьвеце“.

І гэты гэрой ад мастацтва, ня гледзячы на яго маладосьць, ня гледзячы на тое, што ён перад сястрой доцэнта «пакорна стан сагнуў», не прамінуў, пабываясь кой-дзе, павалондацца за межамі, эстэтствуючую, богаслоўскую галаву поэты прыкрывае «замежны капелюш».

Але-ж вернемся да выходнага стану.

„Сваяцтву гімн! Яно гняздо зьвівае
Гняздо прытульнае, як птушанькам вясна“.

Сваяцтва, кумаўство—гэта тое зло, ад якога дагэтуль яшчэ не пазбавілася наша рачаіснасьць, яно будзе да таго часу, покуль усе шчыліны нашага жыцьця не запоўняць рабочыя, батракі, беднякі і колгасьнікі-сяляне, покуль не ачысьціцца пыл, які часьценька закрывае сапраўдны твар «вылучэнцаў» тыпу «дырэктара». Дагэтуль сваяцтву будуць цені сьпяваць гімны, дагэтуль для ўсіх

„І кум, і зяць і ўсіх знаёмых зграя
Орыентацыя, даходная, адна“.

Птушанька з гэтага сваяцкага гнязда, кум дырэктара, ня менш цікавы, чымся сам дырэктар і яго зяць.

„Славуты кум, дарогай камяністай
Да славы ідучы, ня раз зьмяняў свой грым:

Ён пасьпеў быць «земгусарам», «чыноўнікам», «міністрам у Скарападзкага па справам нутраным».

Калі разам з Скарападзкім прагналі з Кіева, «зяць зазваў у Прагу», з Прагі ў Вільню (мабыць па беспрацоўю), каб «памагчы ў хвіліны барацьбы».

Цяпер-жа з зяцям

„Абодвы ў нас цяпер
На, бальшавіцкіх сresaeh“,
Зьмянілі гальштукі, дый што далей казаць:
Чудэсны кум чырвоны стаў профэсар,
Вянок выдатнасьці набыў цудоўны зяць“.

І гэтая чацьвёртая цень падпаўзла пад сонца, зьмяніўшы свой гальштук, каб замясьці сьляды злачынства, каб жыць было лагодна.

«І пяты друг: адкормлены случак» паўзе пад сонца, у гняздо сваяцтва. Ён «дырэктару сваяк, кум—куму, а консультанту—шофэр».

У свой час гэты «друг» «першы рынуўся на фронт, на абарону адзінай недзялімай» і незадоўга Карскага партфэль і рэчы іншыя ўсьлед за Карскім насіць».

Час зьмяніўся. Зьмянілася і доля ценю. Грамадзкая карусель закруцілася ў другі бок, пазыцыі давялося здаць. Прышлося пагадзіцца... затое

„Сёньня ўжо, дзівіцца, ён доцэнт“.

На савецкі небасхіл пад прамяністае сонца паўзе «прэм'ер вэтэрынар». Яго, абшарніка, высунулі зьнянацку посьвісты завеяў у прэм'еры, каб «бараніць фальварак і краіну».

Бунтаўшчыкоў расстрэльваў з кайзэравай зброі. Пра вернасьць кайзэру аддана тэлеграму падпісываў крываваю рукой».

І гэты цень прабраўся ў шчыліну савецкага жыцьця...

У другой частцы поэмы зьяўляюцца новыя гэроі: фотограф, які, валондаючыся штодзень па кіно, ператварыўся ў «выдатнага рэпорцёра», комэрсант, што заводзіць унылую песьню:

«Яго вясна ня радуе
Ня радуе краса».

таму што:

«Як ні глян, усюды—
Толькі ЦРК...».

Зыйшліся каля цукерні фотограф і зяць з цесьцем, і спрэчкі завялі:

«Адным фруктовы торт,
Цукровы для другіх.
Стаяць каля цукерні,
Спрачаюцца ўтрох»

(вырашаюць проблему сусьветнай важнасьці!).

Сапраўды:

«О, як цудоўна. Поэзія славы!
Портфэль у левай,
А торт у правай...»

Поўзае і «этнограф па профэсіі хірург», які ў свой час,

Калі азёры сьлез
Расьлі на Беларусі,
Ён на Украіне быў
Там быў ён дыплёмат».

Цяпер праводзіць досьледы пад глебай, адшуквае скарбы, багацьці і «як спэц амаль адзіны» атрымоўвае «з нагрузкаю аклад» і ў «акадэмікі чарговы кандыдат». Ён і ў вернасьці савецкай уладзе клянецца.

«Казаў начальству ён
— Вайна хоць заўрухоча—
Чырвонай арміі мы верныя сыны.
І ў грудзі б'е сябе, і хітра жмурыць вочы,
Во ў казімэльцы схована отсрочка
На два месяца в случае войны».

Па Менскіх панэлях, з пэнснэ на носе, швендае за простытуткамі простытуіраваны борзапісец

«Шчупленькі крытык
(«Марксысты», няйначай)»,

пакрыўджаны на профэсара, што той не запрасіў яго на імяніны,

«А славіў у друку
і лектара, кума і зяця яго».

Фігура гэта орыгінальная і заслугоўвае яна ўвагі ня толькі сатырыка, але і ўвагі шырокай грамдзкасьці.

«Расіец заўзяты у расійскім парадзе,
Выходзіў палякам на польскі парад.
Цяпер беларус пры савецкай уладзе,
Які дабрадушны савецкі ўрад.
Крытыкам стаў пролетарскай культуры,
Чужы хто, ён «крые», бярэ гонорар
Знаёмаму слову ў рэспубліцы бурна
Заўзята ствараe філёзоф-ліхвар».

Трэцяя частка поэмы раскрывае новыя тыпы, прасьледуе новыя цені. Тут бадзёрая студэнцкая моладзь пяе песьню пра доцэнта «з неахлюйнасьцю акцэнта», «спэца». «А спэц, як хлеб. Пара такая. А доцэнт? Ну хто ня знае—спэц такі, як я кітаец...» Русацяпу доцэнту «з мовай знацца не абавязкова», мабыць як і з ведамі яго «катэдры». І бяз гэтых умоў:

«Шэсьць казырных—выйгрыш мірны,
А на сем—рыскне і трус.
І доцэнт, як туз казырны,
Чым паб'еш казырны туз?».

З шумам сірэны аўто імчыцца новы цень—кар'ерысты, пралаза, ветрам шыты, спрытны прайдзі-сьвет, ледзь-ледзь не дыплёмат, шляхцюк з партбілетам. Усе гэтыя цені навыперадкі, каб пабіць рэкорд, сьпяшаюцца на імяніны да кума профэсара з рознымі падарункамі.

«А ў кума імяніны,
І слухае зямля
Грузінскую лязгінку,
Малітву Шаміля».

І далей

«А з вечарынкі чуецца:
Будуем новы быт!
«Лявоніху»! «Лявоніху»!
Мясцовы колёрыт...»

Сутула, згорблена бяжыць на цыпачках пеўнем фігурка, вартая ўвагі: папоўскі сын, «у лютаўскіх выбухах бур стаў ён расійскім эсэрам, здатным тварцом авантур».

Прыстаў ён у Беларусі і зрабіўся слаўленым дзеячом у павятовым маштабе. Яго неадменным жыцьцёвым правілам зьяўляецца падхалімаж:

«Дзе трэба—лі сьлёзы,
Дзе трэба падмаж, адным словам
Разгортвай плянавы падхалімаж».

Ён паслужыў і кайзэру і маршалку Пільсудзкаму, пабыў «неадменным сябрам дэфэнзывы» і нарэшце стаў з эсэра расійскага, эсэрам беларускім.

Але

«Усе пайшло на злом, на свалку
Патрывожылі маршалка
І эсэр ня траціць розум
Ён знайшоў савецкі лёзунг:
З сэрцам чулым
У нашым краі
Вас, таварышы, вітаю!»

А там далей, глыбей забіраецца наш знаёмы, «ён пралязае ў рады КПБ», а далей

«Чырвоным профэсарам стаў
І роль камэртона марксызму ўзяў».

Вось цэлая галерэя ценяў, якія мастацкі раскрыты ў поэме А. Александровіча.

Паспрабуем цяпер даць агульную ацэнку твору. Перш за ўсё аб характары поэмы. Поэма можа быць ахарактарызавана як палітычная, выкрываючая сатыра. І менавіта ў гэтым яе асаблівая каштоўнасьць. Яна бязьлітасна раскрывае «соцыяльную прыроду» ценяй, бязьлі-«соцыяльную прыроду» ценяў, бязьлітасна бічуе іх як падаль, як гніль, як нізасьць людзкую, як ілжэспэцтва. Поэма «Цені на сонцы»—поэма палітычная, якая бічуе і выкрывае людзей, што валондаліся па-за межамі, змагаліся супроць пролетарскай дыктатуры, каб потым пралезьці ў шчыліны паміж праменьнямі сонца. Цені прапаўзьлі і ў свой час рабілі досыць моцны ўплыў на нашу моладзь, на культурныя ўстановы, на паасобных дзеячоў з прытупленым чуцьцём... Яшчэ і зараз мы не пазбавіліся канчаткова ад гэтых ценяў. Яны ў розных гальштуках шпацыруюць па Савецкай зямлі, зьяўляючыся носьбітамі буржуазна-дэмократычнай (у нацыянальнай афарбоўцы) рэстаўрацыі. Яны зараз, змыкаючыся з ашалелымі кулакамі, з нацыянал-фашыстымі з-за кордону, уяўляюць з сябе рэальную пагрозу соцыялістычнаму будаўніцтву.

Поэма А. Александровіча зьяўляецца бічом па гэтых ценях, сыгналам пра небясьпеку.

Асаблівасьцю поэты зьяўляецца тое, што, бязьлітасна бічуючы цені, едка сьмяючыся з нашых галавацяпаў, з іх добрадушшам, не саромячыся, выкрываючы хібы, балячкі нашай рачаіснасьці, поэта не ўпадае ў жах, у зьніжаючы настрой. Наадварот ад поэмы вее бадзёрасьцю, верай у перамогу. Поэту ня пужаюць цені, хаця яны і ідуць за ім:

Ідзем наперад мы, і цені з намі йдуць,
Мы карчуем пні,—
Яны ў кустох прылеглі.

Поэта верыць у моц рабочае клясы, што яна пераможа гэтыя цені, што яна зробіць з ценямі тое, чаго хоча поэта. А поэце

«І хочацца часьценька,
Каб ценяй гэтых жуць—
Узяць і колкім венікам
Страхнуць-бы,—страсануць!»

Поэта ня хныкае, ня кідаецца ў пэсымізм перад ценямі. Ён з бадзёрым оптымізмам заклікае выконваць «гіганцкі плян» соцыялістычнага будаўніцтва—«пяцігодку».

« За пяцігодку
У бой навальнічы
Партыя кліча».

Фабрыка, цэх, завод ідуць магутным поступам у паход на цені, на рэшткі недабітага капіталізму.

«Тварцоў
пакаленьне
на здраду,
на цені».

Поэма А. Александровіча, зьявіўшыся ўсё поэта не паказвае гэтых «ценяй на зараз у друку, не спазьнілася, яна адыграе сваю ролю магутнага біча па ценях, па падхалімах, па кумаўстве і сваяцтве, па кар'ерызме.

Трэба адзначыць і недахопы. Перш за сонцы» за іх працай, шкоднасьць іх. Поэта расказаў і паказаў нам цені, іх соцыяльную прыроду, але не паказаў іх у сваёй дзейнасьці зараз. Чытачу прыходзіцца здагадвацца толькі, што цені шкодныя зараз. Калі-б гэтыя моманты былі запоўнены, дык поэма значна выйграла-б. З мастацкага боку, з боку творчага мэтоду А. Александровіча поэма сьведчыць пра асноўныя яго недахопы. Яны, гэтыя недахопы—у вузкасьці ўспрыняцьця паасобных зьяў, у ігнараваньні ўзаемнай сувязі зьяў. Другі недахоп яго мэтоду—гэта расказ пропорцыянальна большы, чымся паказ. Расказам у вершаванай форме менш дасягнеш, чымся паказам. Расказ няўхільна вынікае з вузкага ўспрыняцьця зьяў А. Александровічам. Паасобныя месцы поэмы ўзьнімаюць А. Александровіча на высокі мастацкі пункт, але ёсьць месцы, якія зьнішчаюць мастацкую якасьць, гучаць дысонансам, парушаюць стройнасьць поэмы, месцамі адчуваецца зусім не апраўданае парушэньне рыфмы, рытму. Адсутнічае ў поэме і адзінства композыцыйнага пляну.

Усё-ж, ня гледзячы на гэтыя досыць буйныя недахопы, поэма «Цені на сонцы» зьяўляецца каштоўным, баявым укладам у пролетарскую беларускую літаратуру.

Мы раім ўсім нашым чытачом шырока пазнаёміцца з гэтай поэмай, карыстацца ёю як мастацкай зброяй у барацьбе супроць ценяў на сонцы соцыялістычнага будаўніцтва.

# З ВОПЫТУ РАБОТЫ

І. Равун

## Карысны вопыт

Хочацца падзяліцца маленькім вопытам 12-ай Бабруйскай яўрэйскай сямігодкі па працоўнаму выхаваньню дзяцей.

У нашай рабоце мы сустракаем шэраг цяжкасьцяй як праграмнага, так і арганізацыйнага характару. Напэўна, шэраг школ у гарадох ужо прайшлі гэтую першую стадыю работы, і цяпер ёсьць неадкладная патрэба ў іх парадзе, у абмене вопытам праз часопіс «Комуністычнае Выхаваньне» па адным з важнейшых пытаньняў сучаснага моманту—па політэхнізацыі нашых школ.

Адкідаючы дыскусію ў пэдагогічных колах па пытаньні «што называецца політэхнізацыяй школы», трэба адзначыць, што за апошнія гады мы сталі ўсутыч з шэрагам патрабаваньняў і паказаньняў бацькоў—рабочых вучняў, што наша школа не падрыхтоўвае людзей да вытворчай дзейнасьці, што калі-б мы ўзяліся за работу з большай зацікаўленасьцю, дык продукцыйнасьць работы была-б большая.

Заўважваецца адсеў школьнікаў 6-х і 7-х кляс, якія ідуць на біржу працы за адшуканьнем работы.

Паказаныя моманты штурхалі некаторых працаўнікоў да ўключэньня працоўных процэсаў у школу. Асабліва гэтае пытаньне завастрылася пасьля пастановы лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб кадрах.

Як распачаць зьдзейсьненьне працоўнага і тэхнічнага выхаваньня, калі ў нас 5 пакояў, а клясаў 8, калі ў школе даводзіцца працаваць у дзьве зьмены (апрача вячэрняй школы, якая займаецца ў 3-ю зьмену), бяз бюджэтных сродкаў, бяз сталага вопыту? Вось як ставілася пытаньне перад пачаткам навучальнага году аб працоўным выхаваньні ў школе.

Шэраг працаўнікоў пэдколектыву прыняў прапанову аб працоўных процэсах у школе з некаторай недаверлівасьцю. Было паказана, што трэба ўводзіць працоўныя процэсы больш «степенно», без гарачкі, што трэба адкрыць адну сталярную майстэрню на 15-20 чалавек і гэтым абмежавацца. Актыўнай дапамогі з боку пэдколектыву па арганізацыі працоўнага выхаваньня ня было. Пасьля вялікай дыскусіі было пастаноўлена ахапіць працоўнымі процэсамі 100% вучняў, пачынаючы з 3-яй клясы. Для гэтага выкарыстаць шэраг галін вытворчасьці нашага раёну.

Гарадзкі інспэкторыят асьветы толькі згадзіўся з неабходнасьцю організацыі гэтае справы, ня змогшы даць практычных паказаньняў, ня вылучыўшы на гэтую справу ніякіх сродкаў. Стала зразумела, што можна спадзявацца толькі на дапамогу рабочых і грамадзкіх арганізацый, што толькі да іх трэба зьвяртацца.

З тэй прычыны, што ў нас няма свайго памяшканьня для майстэрні, мы рашылі адправіцца на прадпрыемствы і заводы, каб нашых вучняў устроіць на самой вытворчасьці.

Трэба сказаць, што кіраўнікі прадпрыемстваў, вытворчыя парт'ячэйкі сустрэлі нас спрыяюча, дзякуючы чаму прымацавана 40 чалавек да профтэхмайстэрні, 40 чалавек—да швейнай майстэрні, 40 чалавек—да трыкотажна-ткацкай ф-кі імя Крупскай.

Цікава адзначыць, што ў пункты соцдагавору паміж цэхамі трыкотажнай майстэрні ўваходзіць пункт аб лепшым навучаньні дзяцей рабочымі, і што штодзённа застаюцца рабочыя, якія пад кіраўніцтвам інструктара вучаць дзяцей. Па ўсіх гэтых прадпрыемствах вылуча-

ны інструктары для навучаньня, якія аплачваюцца намі (апрача трыкотажнай майстэрні, дзе інструктар працуе ў парадку грамадзкай нагрузкі).

Пры самой школе організавана сталярная майстэрня, пераплётная і, апрача гэтага, у 3-яй і 4-ай клясах займаюцца вышываньнем і шыцьцём.

Сродкі на аплату інструктароў і на набыцьцё інструмантаў атрымалі ад грамадзкіх організацый (КСМ, сампрамсаюзу і г. д.). Толькі гэтымі днямі, калі навучальны год падыходзіць к канцу, акрінспэкторыят вылучыў невялікую суму грошай на набыцьцё інструмантаў для сталярнай майстэрні.

### *ЯКІЯ ПОСЬПЕХІ МЫ МАЕМ?*

Дзеці займаюцца па 3 гадзіны ў сямідзёнку па вечарох пасьля заняткаў у школе, працуюць з вялікай зацікаўленасьцю. У школе ёсьць шэраг экспонатаў дзіцячае працы, як малаткі, стамескі, шчыпцы, цыркулі, панчохі, хусткі, ніжняя бялізна, верхнія кашулі, спадніцы і г. д. Зроблены шэраг прылад для школьнага фізгабінэту. Для абслугоўваньня школы зроблены столікі, шафы, тубарэткі і яшчэ цэлы шэраг рэчаў інвэнтарнага характару.

У майстэрнях працуюць па мэтоду проектаў, пераходзячы ад аднаго процэсу да другога.

### *НАШЫ НЕДАХОПЫ.*

Да гэтага часу ў школе яшчэ няма проектыроўкі і модэляваньня працы, рысаваньне не пастаўлена на належную вышыню, няма належнай увязкі між навучальнаю програмаю і працоўнымі процэсамі; настаўнікі 1-га концэнтру ня толькі ня кіруюць працоўнымі процэсамі ў школе, але і не займаюцца пытаньнямі перападрыхтоўкі самых сябе па працы (а такія мажлівасьці ёсьць, можна займацца пад кіраўніцтвам інструктароў), няма спэцыяльнага рабочага пакою для 0, 1, 2 кляс, няма якаснага падліку працы дзяцей.

З усяго паказанага відаць, што мы зрабілі толькі першыя крокі, але гэта ўжо так захапіла дзяцей, што ў лютым м-цы пры датэрміновым укомплектаваньні ФЗУ, профтэхшколы і камандыроўцы дзяцей ва Уральскі і Ленінградзкі ФЗУ з усіх школ (6-7 кл.) адсеялася 20-30% вучняў, самых лепшых вучняў, а з 12-ай школы—толькі 2 вуч., і то такія, якія былі скомпромэтаваны на грамадзкай рабоце.

Мне здаецца, што НКА павінен зацікавіцца нашым вопытам, каб у сапраўднасьці ператварыць нашу школу ў політэхнічную.

---

Р. Г-ко

# Організуйце гурткі „Юнатаў“

З 22 па 25 студня г. г. у Маскве адбылася ўсесаюзная нарада біостанцый, агробаз, дзіцячых сельска-гаспадарчых станцый і бюро юных натуралістых.

Нарада падагуліла тую вялічэзную грамадзка-карысную работу, якая была праароблена дзяцьмі ў справе выкананьня наказу ўсесаюзнага піонэрзьлёту ў галіне ўзьняцьця сельскай гаспадаркі, у галіне барацьбы са шкоднікамі, барацьбы з «мірскімі хрыбетнікамі»—клапом, тараканам, прусаком, у ўдзеле ў пратручваньні насеньня, пасадцы дрэў ды інш.

Вялізарная армія юнатаў, якая ў 1929 г. налічвала па СССР 1500 гурткоў з 65.000 юнатаў, праявіла сябе як значная сіла ў сваёй грамадзка-карыснай рабоце. Так, напр., па даным толькі 340 гурткоў было пратручана 6760 цэнтнэраў насеньня, затручана 173.000 суслікаў, пасаджана 230.000 дрэў, абсьледваны тысячы кватэр і інтэрнатаў, дзе праведзена барацьба з паразытамі, разьвешаны 32.000 скварэшань.

На вялікі жаль, гэтай вялізарнай грамадзка-карыснай працай слаба была закранута дзятва, вучні нашай Савецкай Беларусі. Юнацкі с.-г. рух крыху даваў сябе адчуць толькі ў Гомельшчыне. Як ні дзіўна, ні сумна, а на ўсесаюзнай нарадзе

прысутнічаў ад акруговых бюро юнатаў 1 чал., толькі з Гомельшчыны. З Менску прысутнічаў 1 чал.—прадстаўнік ад ЦБ юных піонэраў.

Мы ў Савецкай Беларусі не змаглі як сьлед упрагчыся ў гэту грамадзка-карысную масавую работу.

На нарадзе высьветлена, што частка гурткоў «ЮН», асабліва гарадоў, зьяўляюцца і да гэтага часу замкнёнымі «аматарамі прыроды», яны займаюцца сваімі назіраньнямі (ня досьледамі, а проста назіраньнямі) над белымі мышамі, крысамі, морскімі сьвінкамі ды інш. Яны ня выйшлі яшчэ на арэну грамадзка-карыснай работы. У апошнія гады юнацкі с.-г. рух вядзе жорсткую барацьбу *за палітычную напраўленасьць* і за тое, *каб уся работа была накіравана на дапамогу соцыялістычнаму будаўніцтву.*

Цяпер юнацкія с.-г. гурткі ператвараюцца ў «прывадныя рамні піонэрорганізацыі да шырокіх мас неорганізаванай дзятвы». Гэтыя гурткі накіраваны ўжо па шляху дзіцячага колгаснага руху.

Чарговыя задачы юнацкага сельскагаспадарчага руху, школ, агробаз, дзіцячых с.-г. станцый цесна зьвязаны з агульнымі задачамі рабочае клясы, комуністычнае партыі.

Мы ў гэтым артыкуле хочам падзяліцца тым вопытам, які маюць у сваёй рабоце гурткі юнатаў Гомельшчыны.

Вялікую работу праводзіць гурток юнатаў пры пэдмузэі і акрбюро «ЮН».

З пачатку зімы гуртком была ўзьнята кампанія па падкормцы птушак, пры чым па гэтаму пытаньню была склікана конфэрэнцыя, быў даны загад кожнаму натуралісту павесіць дзьве кармушкі (прымаючы пад увагу карысьць птушак для сельскай гаспадаркі).

Для падвышэньня кваліфікацыі юнатаў ў галіне контролю насеннага матар'ялу мы паслалі брыгаду з 4-х натуралістых на насенную станцыю і ў хлебную інспэкцыю.

Працуючы там, натуралістыя павінны былі пазнаёміцца з тэхнікай аналізу насеннага матар'ялу, каб потым свой вопыт прылажыць на практыцы.

Гуртком была паслана разьведачная брыгада ў бліжэйшую вёску, пра якую акруговы агроном казаў, што там ніякай работы не праводзіцца па ачыстцы насеньня. Удзельнікам брыгады прышлося хадзіць па хатах упаўнаважаных ад сельсаветаў, штурхаць іх і распачынаць работу.

Гурток у гэтую зіму атрымаў зямельную дзялянку. На гэтай дзялянцы закладзены агарод і вопытнае поле. Для працы на гэтым полі гурток выпісаў пасылку з вопытнае лябораторыі пры рэдакцыі «Беднота». На гэтай дзялянцы гурток і пачаў сваю работу, каб потым, набраўшыся вопыту, з фактамі і лічбамі ў руках, пры дапамозе с.-гас. выставак, праводзіць агітацыю сярод сялян.

Для падрыхтоўкі да работы на гэтай дзялянцы, гурток шляхам вопытаў і назіраньняў прыступіў да вывучэньня збожжавых і агародных культур. Побач з гэтым праводзяцца заняткі па прахаджэньню агромінімуму. Пры гэтай дзялянцы організуецца дзіцячы колгас.

Значныя посьпехі ў гэтых адносінах мае і пэдмузэй.

Гомельскім пэдмузэем праароблена наступная праца:

Музэй прымаў удзел ва ўсесаюзнай нарадзе агробаз, біостанцый, бюро «ЮН»; удзельнічаў у 3-х раённых настаўніцкіх конфэрэнцыях, дзе ставілася пытаньне аб удзеле школ у с.-г. кампаніі і колектывізацыі; прыняты крокі да рэорганізацыі біостанцыі «ЮН» у агробіостанцыю пры пэдмузэі; праводзіцца практычная работа па аналізу насеньня; разам з гуртком «ЮН» зроблены выезды ў вёску 2-х брыгад па зернаачыстцы. Ачышчана 390 пудоў насеньня. Потым выяжджалі яшчэ 3 брыгады па зернаачыстцы і організацыі с.-г. працы дзяцей у форме дзіцячага колгасу; пастаўлены досьледы (дзяцьмі) над мінэральнымі ўгнаеньнямі. Выпісана 6 пасылак з мінэральнымі ўгнаеньнямі, інструкцыямі і насеньнем для організацыі досьледаў на раёне. Праводзіцца агрономізацыя мэтодычнага аб'яднаньня прыроднікаў шляхам організацыі тэрміновых агрокурсаў і програм; праводзіцца інструктаж асобных гурткоў «ЮН» і школ па пытаньнях колектывізацыі і організацыі дзіцячых колгасаў; пэдмузэем своечасова ўзьнята пытаньне перад юнатамі

гораду, школамі, прадпрыемствамі аб адшуканьні, выяўленьні прыгарадных пляцоў для організацыі рабочага колгаснага гародніцтва, а таксама і гародніцкіх колгасаў пры Жактах.

Той зрух грамадзка-карыснай працы, якая праведзена нашымі школамі ў галіне дапамогі колектывізацыі с.-г. і пасяўной кампаніі, гаворыць аб зразуменьні тых палітычных і гаспадарчых задач, якія пастаўлены компартыяй і рабочай клясай перад вучнямі і настаўнікамі савецкай працоўнай школы.

Можна спадзявацца, што ў генэральным баі за колектывізацыю і ўздым сельскай гаспадаркі школы, піонэры, вучні і настаўнікі будуць і надалей дапамагаць замацаваньню нашых дасягненьняў.

---

Я. Карлінскі

## З вопыту антырэлігійнай работы

Пухавіцкая 7-х гадовая школа (Меншчына) ўвясну 1928 г. праз анонімную анкету апытала 198 вучняў II концэнтру. З анкеты выявілася, што ў бога верыла 10% хлапцоў і 20% дзяўчат, у царкву хадзіла 12% хлапцоў і 35% дзяўчат, малілася штодзённа богу 1,3% хлапцоў і 2% дзяўчат.

Гэтыя лічбы яскрава паказалі на слабое месца выхаваўчае справы школы. У выніку, на пасяджэньнях пэдрады і школьрады, у вучкоме і комісіях, на вучнёўскіх сходах і гурткох адбылося абгаварэньне выяўленае небясьпекі. Чарговыя даклады далі ўсебаковае антырэлігійнае высьвятленьне шмат якіх пытаньняў, а шчырыя ганебныя адносіны да рэлігіі з боку многіх вучняў прымусілі моцна задумацца і тых, хто да таго часу верыў у бога.

З паловы кастрычніка 1928 г. у школе зорганізована ячэйка бязбожнікаў, у якую ўвайшло каля 60% вучняў старэйшага концэнтру і ўсе настаўнікі. Ячэйка ў сьценах школы актыўна вяла антырэлігійную асьветную справу: раз у тыдзень на сходзе бязбожнікаў стала высьвятлялася якое-небудзь пытаньне з цыклю рэлігійнага культу, як, напрыклад, мошчы, крыж, абразы, пасты, споведзь, прычасьце, бог і чорт, рай і пекла, каляды, вялікдзень, сёмуха ды інш. сьвяты; царква і школа да рэволюцыі і цяпер. Дакладчыкамі спачатку былі настаўнікі, а потым і вучні пры дапамозе настаўнікаў. Сьнег запісак ад вучняў з самымі сакрамэнтальнымі пытаньнямі сьведчылі пра вялікі пералом, што перажыты імі ў тыя дні і месяцы.

Выкладчыкі прыродазнаўства, грамадазнаўства ды іншыя чула рэагавалі на работу бязбожнікаў, дапамагалі ім навуковымі абгрунтаваньнямі. А прыродазнаўчы гурток пры школе цалкам увязаў свой плян з працаю бязбожнікаў, скрозь паглыбляючы асноўныя пытаньні апошніх і даючы ім належныя тлумачэньні.

У сьнежні месяцы 1928 г. маладыя бязбожнікі-вучні пры дапамозе настаўнікаў, паводле пляну свае ячэйкі, правялі шэраг сходаў насельніцтва, ахапіўшы абшары мястэчка на некалькі кілёмэтраў. Кампанія прайшла пасьпяхова. Арэнаю барацьбы супроць рэлігіі стала сям'я, на якую школа павяла наступ. Агульны сход бацькоў вучняў 28 красавіка 1929 г. падтрымаў пастанову пра перанос ў школе дня адпачынку з нядзелі на панядзелак.

Першамайскія сьвяты, якія адбыліся напярэдадні вялікадню, мелі выразны антырэлігійны зьмест. У вялікодную ноч ячэйкаю бязбожнікаў быў наладжаны антырэлігійны карнавал.

Дзякуючы шырока разгорнутай рабоце бязбожнікаў улетку ўсе нашы арцелі саматужнікаў перанесьлі адпачынак з суботы на панядзелак.

У лістападзе 1929 г. пасьля новае антырэлігійнае кампаніі сяляне і саматужнікі на сходах выносілі пастановы аб перадачы царквы і сынагогі пад навукова-асьветныя установы.

Праведзеныя школаю ў студні 1930 г. апытаньні вучняў па анкеце навуковадасьледчага інстытуту пэдагогіі і пэдолёгіі БССР далі наступны малюнак (у

процантах да агульнага ліку вучняў адпаведных груп, што далі адказы на пытаньні анкеты):

| Групы / Адзнака | III | IV | Va | Vб | VI | VIIa | VIIб |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вераць у бога . . . | 6 | — | — | — | — | — | — |
| Сумняваюцца . . . . | 3 | 11 | — | 2 | 2 | — | — |
| Ня вэраць . . . . . | 88 | 89 | 100 | 89 | 98 | 100 | 100 |
| Не паказалі . . . . | 3 | — | — | 9 | — | — | — |
| Ходзяць у царкву . | 6 | — | 22 | — | — | — | 3 |
| Ня ходзяць у царкву | 94 | 100 | 98 | 89 | 100 | 100 | 97 |
| Не паказалі . . . . | — | — | — | 11 | — | — | — |
| Ў царкву ходзяць па прымусу . . . . . . | — | — | — | — | — | — | 3 |
| У царкву ходзяць па сваёй волі . . . . . . | 6 | — | 2 | — | — | — | — |
| Падабаецца вялікдзень | 12 | 2 | 4 | 2 | 2 | 3 | 13 |
| Падабаецца сёмуха » | — | — | — | — | 2 | 7 | — |
| Не падабаецца ніякае сьвята . . . . . . . | 76 | 98 | 96 | 85 | 96 | 90 | 87 |
| Не паказалі адносін да сьвят . . . . . . . . | 12 | — | — | 13 | — | — | — |
| Баяцца нябожчыкаў і чарцей . . . . . . . . | 12 | 4 | — | 4 | 12 | 24 | 3 |
| Не баяцца іх . . . . . | 85 | 96 | 100 | 92 | 88 | 76 | 91 |
| Не паказалі . . . . . . | 3 | — | -- | 4 | — | — | 6 |
| Бацька верыць . . . . . | 39 | 52 | 33 | 21 | 40 | 48 | 48 |
| „ ня верыць . . | 46 | 44 | 52 | 62 | 40 | 45 | 42 |
| „ няма, або не паказана . . . . . . . | 15 | 4 | 15 | 17 | 20 | 7 | 10 |
| Маці верыц . . . . . . | 45 | 58 | 52 | 51 | 70 | 86 | 61 |
| „ ня верыць . . . | 49 | 35 | 38 | 38 | 24 | 14 | 29 |
| Бацькі няма, або не паказана . . . . . . . | 6 | 7 | 10 | 11 | 6 | — | 10 |

УВАГА. У анкеце далі адказы 33 вучні III групы, 45 в. IV гр., 52 вучн Va гр., 47 в Vб гр., 50 в. VI гр, 29 в. VIIa гр. і 31 в. VIIб гр. Разам 287 вучняў.

Рашучы адказ: «веру» далі толькі два вучні (хлопцы) III гр., што складае 6% ад усяе групы. Сумняваецца адна вучаніца (3%) тае-ж групы, пяць вучняў (11%) IV гр. (з іх 3 хл. і 2 дзяўчыны), адзін вучань (2%) Vб гр. і адзін вучань (2%) VI гр.

Станоўчае «веру» далі дзеці ва ўзросьце 10 гадоў і 12 год., не піонеры. З іх у царкву ходзіць толькі малодшы і ходзіць па сваёй ахвоце. Яму «сьвяты ўсе добрыя». Старэйшы сьвят не паказаў. Чарцей і нябожчыкаў ніводзін з іх не баіцца. Абодвы бацькі, абодвух вучняў вераць.

Сумняваюцца вучні ва ўзросьце 12-14 г. (вучню VI гр. 13 год). З іх у царкву ніхто ня ходзіць. Бацькі ўсіх іх вераць, за выключэньнем двух бацькоў. Нябожчыкаў баіцца толькі вучань VI гр. Чарцей з іх ніхто не баіцца. Рэлігійныя сьвяты ім «не падабаюцца».

Ходзіць у царкву па сваёй волі і па прымусу адна 12-гадовая дзяўчына не піонэрка III гр. Рэлігійнасьці як бацькоў, так і свае яна не паказала, ухілілася. Ня выказалі адносін да царквы і пяць вучняў-піонэраў (11%) Vб гр., з якіх 2 хлопцы 15-гадовыя не паказалі адносін і да веры, хоць з бацькоў усіх іх вераць у большасьці толькі маткі. Адносін да рэлігійных сьвят не паказалі з гэтых двое; астатнія далі адмоўныя адказы. Нябожчыкаў і чарцей яны не баяцца.

Ёсьць у анкетах нямала і такіх прыпісак: «Чым больш рэлігійнае сьвята, тым горш яго я ня люблю» (сын селяніна бедняка, комсамолец, 18 г., бацька ня верыць, маткі няма), або, «Я ня веру у рэлігійныя сьвяты, бо ведаю, як яны шкодзяць» (бяднячка-комсамолка, 14 г.).

Чэрці і нябожчыкі ў перажываньнях нашых вучняў яшчэ і сёньня маюць не малое месца. Амаль ўсе клясы маюць у анкетах хоць патрошку прадстаўнікоў (а VIIa дала 7 з 29, або 24%, ва ўзросьце 17-18 г.), якія прызналіся: «чарцей і нябожчыкаў баюся», або: «не баюся, але забабонны страх бярэ» (саматужнік, комсамолец 17 г., бацька ня верыць). У такіх вучняў бацькі ў большасьці вераць у бога, хоць самі вучні гэтага за сабою ня прызналі.

Анкета выявіла надзвычайна цікавы малюнак: звыш паловы вучняў маюць бацьку і звыш трэці маюць матку, якія ня вераць у бога.

Цяпер, у пераломны час да безрэлігійнасьці бацькоў, падмога ім з боку школы павінна быць значна ўзмоцнена.

Клясавая сутнасьць рэлігійнасьці— грунт нашае пропаганды.

Такую ўстаноўку ў антырэлігійнай рабоце зрабіла наша пашыраная пэдрада, абгаварыўшы паказаныя вынікі анкеты.

די קינדער ריידן אויך שאַרף אין זייער קריטיק וועגן דער זעלבסט-פאַרוואַלטונג, פּיאָנער-אָרגאַניזאַציע, וועגן פארקריפּלונגען פון דער קלאַסן-ליניע אין דער ארגאניזאציאָנעלער ארבעט, באַם באַשטייערן מיט סכארלימוד, זעלבסט באַשטייערונג, מאטעריאלע הילף די קינדער פון דער אָרעמקייט און אז. וו.

אטייל לערער און פאלוואלטער האבן אבער ניט ווי געהעריק רעאגירט און אָנגעפירט מיט דער קריטיק און זעלבסטקריטיק אין שול. עס זיינען געווען פאַלן (זיי זיינען נאָך איצט ניט אויסגעלעבט), ווען לערער, מיירעהאָבנדיק פאר די קינדער, האבן פארוואַנדלט די לעקציעס אין פאַרזאַמלונגען פון קריטיק און זעלבסטקריטיק, שלעפּנדיק זיך אין עק פון דער קינדער-מאַסע, וואס איז ניט דערלאָזבאַר. פון דעם האָבן זיי געמאכט אַן אויספיר, אז די דיסציפּלין אין קלאס איז געפאלן צוליב דער קריטיק און זעלבסטקריטיק, באשולדיקנדיק באזונדערס שטאַרק דעם „יוּנגן לענינעץ”. און א צווייפל, אַז מיר האָבן דאָ צו טאָן מיט א טייל לערער, וועלכע האָבן מיירע פאַר דער זעלבסטקריטיק צוליב זייער קלאסנפיינטלעכע אידעאלאָגיע אין פעדאגאָגישער ניט צוגעפאַסנקייט פאַר דער סאָוועטן-שול, פאר זיי איז באקוועם זיך באהאלטן אונטער דער מאסקע פון „אווטאריטעט”, אנשרעקנדיק אטייל פון די וואקלדיקע לערערישע עלעמענטן, וועלכע האבן ניט באנומען דעם לאזונג פון קריטיק און זעלבסטקריטיק.

דאס האט געווירקט אף דער ווייטערדיקער פאנאנדערוויקלונג פון דער געזונטער פראלעטאריש-שעפערישער קריטיק און זעלבסטקריטיק מיצאד די קינדער. מערסטנטייל זיינען די פארזאמלונגען געווען ווי אקאמפאניע וועגן קריטיק און זעלבסטקריטיק, וואס עס האט ניט געגעבן די געהעריקע רעזולטאטן.

די וואנטצייטונג אין שול, וועלכע דארף שפּילן די הויפּט ראָל אין פאנאנדערוויקלען די זעלבסטקריטיק, איז אף 90 פראָצ. אנגעלאָדן מיט אלגעמיין-פראזעאלאגישע-פאליטישע ארטיקלען און 10 פראָצ. וועגן שול-לעבן, און דאס אויך ווייניק וועגן די פעלערן אין שול.

די קריטיק און זעלבסטקריטיק בא די קינדער איז נאך גיט קיין טעגלעכע און סיסטעמאטישע, וואָס זאָל אופדעקן אלע פעלערן אין דער שול ארבעט און די שעדיקעריי פון די קלאסן-פיינטלעכע און אידעאלאָגישע פרעמדע עלעמענטן אין שול. אז בא אונדז אין שול איז ניט ווי געהעריק, באווייזן ארייַ דורכרייסונגען אין אונדזערע שולן, גראד דארט, ווו די זעלבסטקריטיק איז געווען שוואַך אנטוויקלט (פאלאצקער קרייז מיט דעם פארטיזאנישן אטראד אין שול).

מיר מוזן גלייך פאנאנדערוויקלען ברייט די קריטיק און זעלבסטקריטיק צווישן די קינדער, וואס עס וועט, אן א צווייפל, אונדז העלפן אופדעקן אלע אנגעווייטיקטע מאמענטן אין דער שול און די שעדיקונג ארבעט פון די אידעאלאגיש פיינטלעכע עלעמענטן אין שול. דורך דער קריטיק און זעלבסטקריטיק פון די קינדער, וועלכע פילן אפט מיירע פארן לערער, די פארשוידענע דורכרייסונגען און פעלערן אין דער שול וועלן מיר, אן א צווייפל, קענען אוועקשטעלן די שול-ארבעט אף א העכערער שטופע. מיר וועלן דערמיט אופהויבן די ארבעט-דיסציפלין און ארבעט פראדוקטיווקייט סאַי פון דעם שילער, סאַי פון דעם לערער. ווען דער לערער און די אדמיניסטראציע פון שול וועלן זיך צוהערן צו דער קריטיק פון די שילער, וועט, אן אצווייפל, זיך הויבן דער אווטאריטעט פון זיי בא די שילער. עס וועט אפפאַלן דער „קאזיאנער אווטאריטעט” און עס וועט זיך איינשטעלן געזונטע, נארמאלע באציונגען פון מיטגלידער, וועלכע ארבעטן אין איין קאלעקטיוו, וואס זיינען פארינטערעסירט אין דער ארבעט פון סאָוועטן-שול ווי דער ארבעטער אף דער סאציאליסטישער פאבריק.

